На першай старонцы вокладкі — адзін з лепшых рэгуліроўшчыкаў радыёэлектроннай апаратуры навукова-вытворчага аб'яднання «Гранат» Аляксандр НЯСЦЮК.

Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ і Аляксандра СЯНЦОВА.

# У НУМАРЫ

На другой старонцы вокладкі: студэнтка 3 курса БДУ імя У. І. Леніна Ірына Кузьменка; Мінскае ПТВ-115. Заняткі ў класе робататэхнікі вядзе майстар вытворчага навучання Віктар Уладзіміравіч Васілевіч; у лабараторыі вучоных ідзе эксперымент.


Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Беларусь

ШТОМЕСЯЧНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

ОРГАН САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Заснаваны ў 1930 годзе.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск.

№2 (566) ЛЮТЫ 1986 г.



















Мастацкі рэдактар Н. І. БАГАМОЛАВА. Карэктар М. У. ВАСІЛЕЎСКАЯ.

Журнал «Беларусь» на белорусском языке.

Здадзена ў набор 16.12.85. Падпісана да друку 20.01.86. АТ 00506. Фармат $70\times108^1/_8$. Глыбокі друк. Ум. друк. арк. 7. Ул.-выд. арк. 10,9. Ум. фарбаадб. 12,6. Т. 13 000 экз. Зак. 666.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, вуліца Захарава, 19.
Тэлефоны: намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.

220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79. Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

**НАВУКА**

## УРАДЖАІ — КРУГЛЫ ГОД

Наш часопіс ужо расказваў аб штучнай глебе, створанай беларускімі вучонымі. Але з той пары прайшло нямала часу, і таму заканамерным будзе пытанне аб далейшым лёсе цікавай навуковай работы, адзін з аўтараў якой — кандыдат біялагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Дзяніс Васільевіч Фядзюнькін.

— Час недавер'я і скептыцызму, калі да штучнай глебы некаторыя гаспадарнікі адносіліся як да нечага зусім непатрэбнага, застаўся ззаду,— сказаў Дзяніс Васільевіч.— Трэцюю навігацыю запар экіпаж ледакола «Красін» мае ў сваім рацыёне салаты з агародніны, вырашчанай на борце судна. Дарэчы, у мінулую навігацыю незвычайны агарод з'явіўся і на атамным ледаколе «Леанід Брэжнеў». Калі дырэктар нашага інстытута Віктар Іванавіч Парфёнаў пабываў на ледаколе, то пачуў нямала слоў удзячнасці ў адрас беларускіх вучоных як ад капітана, каманды, так і ад шэф-повара. Аказалася, што повар па ўласнай ініцыятыве атрымаў сумежную прафесію — агародніка. Бацвінне, якое гатуе ён са свежай агародніны, вельмі падабаецца камандзе. Яно стала «фірменнай» стравай. Акрамя салаты, капусты і памідораў, на ледаколе «Леанід Брэжнеў» вырошчваюцца і агуркі.

— Відаць, экіпажам гэтых двух ледаколаў зайздросцяць экіпажы іншых суднаў, якія працуюць у Арктыцы?

— Без усялякага «відаць»! Вось чаму Мурманскае рачное параходства нядаўна прыняло рашэнне аснасціць усе судны такімі «агародамі». Акрамя таго, плануецца стварэнне тыпавой устаноўкі па вырошчванні агародніны і садавіны на штучнай глебе для Міністэрства рыбнай гаспадаркі СССР.

— Так што ўжо сёння можна гаварыць аб практычным выкарыстанні дзівоснай глебы. Але вось пытанне: тры гады назад вы, Дзяніс Васільевіч, не без жалю адзначалі высокі кошт сыравіны для яе атрымання. Ці ўдалося што-небудзь змяніць у гэтым напрамку?

— Так, мы нямала папрацавалі над тым, каб зрабіць «градку» больш таннай, а значыць, павысіць рэнтабельнасць яе эксплуатацыі. Назаву лічбы: яшчэ нядаўна тона сыравіны для штучнай глебы ацэньвалася ў паўтары тысячы рублёў, а цяпер — у чатырыста — пяцьсот. Але, думаецца, і гэта не мяжа...

— Ці толькі на суднах з радасцю абзаводзяцца ўласнымі, пакуль нязвыклымі «агародамі»?

— Гэта далёка не так. Штучнай глебай зацікавіліся многія арганізацыі, якія вядуць работы ў высокіх шыротах,— геолагі, нафтавікі і нават аленяводы.

**5 МІНУТ НА ІНТЭРВ'Ю**

## ПРАД'ЯЎЛЯЕ РЫБА «ПАШПАРТ»

І шчупак, і пячкур, і нават маляўка ляшча маюць свой «пашпарт». Вось толькі «прачытаць» яго можа не кожны. Загадчык лабараторыі Беларускага навукова-даследчага інстытута «Рыбапраект» Віктар Аляксеевіч Фёдараў якраз адзін з тых спецыялістаў, для каго не будзе вельмі складаным вызначыць, у якіх вадаёмах вырасла тая або іншая рыба, ці хапала для яе корму, ці хварэла яна. Вучонаму дастаткова зірнуць на луску рыбы, каб вызначыць, колькі разоў прыносіла самка ляшча або ментуза патомства, колькі гадоў прайшло з таго дня, калі яна прадзяўбла ікрынку, якой дапамогі рыба чакае ад чалавека...

— Віктар Аляксеевіч, а ці ёсць неабходнасць сёння дбаць аб павелічэнні колькасці ляшча або сазана ў натуральных вадаёмах, калі ў вельмі многіх раёнах рэспублікі паспяхова працуюць рыбасаўгасы, дзе гадуюць карпа, таўсталобіка, карася?

— Ёсць, ды яшчэ якая! Мяркуйце самі: 2.200 тон азёрна-рачной рыбы здабывалася па рэспубліцы два гады назад. У восемдзесят пятым ужо — 2.600. Будзем мы разумна весці лоўлю, інтэнсіфікуем дапамогу насельнікам рэк і азёр — і адразу стане больш разнастайным асартымент у магазінах, якія гандлююць рыбай, радзей будуць вяртацца сумнымі з берагоў рыбаловы-аматары. Мы не можам дапусціць, каб «Чырвоная кніга» папоўнілася новымі старонкамі. Наогул, гэта асобная тэма для размовы, але ўсё ж зазначу: не толькі ад спецыялістаў, гаспадарнікаў, але і ад кожнага з нас гэта залежыць. Прычым я маю на ўвазе ў першую чаргу не рукатворныя азёры і сажалкі, а менавіта натуральныя.

— Якім жа чынам людзі могуць дапамагчы іх насельнікам?

— Просты прыклад. Вось цяпер самыя цяжкія дні для акунёў, карасёў, шчупакоў... Бадай, толькі верхаплаўкі адчуваюць сябе не так дрэнна. Маразы студзеня і лютага пакрылі тоўстым ледзяным панцырам вадасховішчы, азёры. Але гэта яшчэ паўбяды. Значна горш другое: лёд пакрыты снежнымі гурбамі. Снег не дае сонцу зазірнуць скрозь ледзяны панцыр у воды рэк, і ў выніку выратавальны працэс фотасінтэзу вельмі замаруджаны.

Калі ж рыбаловы-аматары, а таксама піянеры і камсамольцы, якія ўдзельнічаюць у аперацыі «Жывое серабро», расчысцяць ад снегу па два — тры метры лёду кожны,— а на гэта пойдзе не больш як чвэрць гадзіны,— рыба ўздыхне «з палёгкай».

— Вы ўжо чвэрць стагоддзя даследуеце багацце азёр і рэк рэспублікі. Ці даводзілася бачыць вельмі буйных прадстаўнікоў асобных парод рыб?

— Так. Напрыклад, у возеры Белым быў адлоўлены карп у дваццаць пяць кілаграмаў вагой.

— Часта ў разнастайных выданнях сустракаюцца нататкі пра шчупакоў-доўгажыхароў...

— У гэтай сувязі раскажу такую казусную гісторыю. Адзін з музеяў ганарыўся чучалам шчупака даўжынёй больш як метр. Вялізнай рыбай захапляліся наведвальнікі і самі работнікі музея. Але мае калегі ўважліва агледзелі гэту плямістую «доўгажыхарку» і пераканаліся: чучала зроблена добрым майстрам, які ўхітрыўся як мінімум з дзвюх рыб стварыць адну, але затое «унікальную».

— Кажуць, рыбакі любяць прысачыніць... Але вы, Віктар Аляксеевіч, не проста рыбак-аматар, вы — вучоны. Як вучонага прашу адказаць на пытанне: за гады работы ў інстытуце ці сустракаліся вам жывыя шчупакі-доўгажыхары, адзін выгляд якіх прыводзіць у захапленне і прымушае з небяспекай пазіраць на магутныя сківіцы?

— Шчупакоў старэй за дзесяць гадоў мне не даводзілася бачыць. А каб вызначыць іх узрост, як вы разумееце, не абавязкова мець у руках пацямнелае ад часу меднае кальцо з жабернага плаўніка. Дастаткова зазірнуць у яго «пашпарт»...



ХАДА
Хада
Хада
ХАДА
Хада

**АДРАСЫ ПОСПЕХУ**

## «ЦЕЛЯХАНЫ» АБГАНЯЮЦЬ «ФІШАР»

Яшчэ адной «вечнай» тэмы пазбавіліся мастакі-карыкатурысты, а разам з імі і спартыўныя журналісты, якія часта тлумачылі няўдалыя выступленні лыжнікаў краіны нізкай якасцю амуніцыі, інвентару.

Так, калі ў сорак дзевятым годзе ў Целяханах былі выраблены першыя 500 пар лыж, яны выглядалі вельмі сціпла. А ў шасцідзесятыя гады лыжы хаця і перасталі быць праблемай, аднак аб тым, што на іх з некаторымі замежнымі ўзорамі ім было нялёгка «угнацца».

Цяпер жа — зусім іншая справа.

І фізкультурнікі, і лыжныя зборныя каманды рэспублікі, краіны пераканаліся: «Целяханы», выпушчаныя ў восемдзесят пятым і восемдзесят шостым, адпавядаюць самым высокім міжнародным стандартам. Яны не ўступаюць прадукцыі вядомых фірм «Кнэйсл», «Фішар»...

Людміла Януковіч, якую вы бачыце на здымку, працуе на фабрыцы параўнаўча нядаўна і, вядома ж, не ўдзельнічала ў вырабе першай партыі «Целяхан». Але яна з задавальненнем і гордасцю за сваё прадпрыемства дэманструе новую прадукцыю лыжнага цэха. У мінулым годзе на фабрыцы было выраблена 380 тысяч пар такіх дрэвапластыкавых лыж для людзей усіх узростаў.



ПАДЗЕЙ
# падзей
# падзей
ПАДЗЕЙ
Хада падзей

ЗНАХОДКІ І АДКРЫЦЦІ

## НЯБЕСНЫЯ ВАНДРОЎНІКІ

Нядаўна тэлетайп прынёс вестку: вучоныя разлічылі арбіту астэроіда пад кодавым індэксам «1983ТВ». Калі разлікі правільныя, у 2115 годзе астэроід будзе бліжэй да нашай планеты, чым Месяц. І тады нябесны вандроўнік упадзе на Зямлю. Падобнае здаралася і ў мінулым. Кратэр на месцы падзення буйнога астэроіда ў амерыканскім штаце Арызона паблізу горада Хлагстаф — сведка адной з такіх касмічных катастроф.

Усяго ж на паверхню сушы нашай планеты штогод выпадае 21,3 тоны метэарытаў з масай ад 100 грамаў да тоны. З іх усяго толькі 10—20 метэарытаў удаецца знайсці.

Хто і дзе часцей за ўсё знаходзіць іх? Звычайна вясковыя жыхары пры ўборцы ўраджаю бульбы ці іншых караняплодаў.

Першая знаходка касмічнага «прышэльца» ў Беларусі была зарэгістравана ў 1809 годзе. З таго часу такіх удач адзначана яшчэ чатыры. Апошні раз ля вёскі Чорны Бор Магілёўскай вобласці.

За ўвесь восемдзесят пяты год 14 разоў жыхары Беларусі прымушалі вучоных пахваляваццa: прыносілі ім на апазнаванне «метэарыты».

На жаль, двукоссе тут невыпадковае. Таму што ўсе 14 знаходак аказаліся альбо ўзорамі балотных руд, альбо — камянямі незвычайнай формы.

МУЖНАСЦЬ

## ДАПАМОГ САПЁРАМ ВЕТЭРАН

У гэты вечар у заводакіраўніцтве Крычаўскага цэментна-шыфернага прадпрыемства затрымаліся дырэктар і яшчэ некалькі спецыялістаў. Надзвычайнае здарэнне: рыдлёўка аднаго з электрыкаў, які замяняў сілавы кабель, што адслужыў сваё, наткнулася на... зенітны снарад.

Франтавік, ветэран працы Васіль Герасімавіч Анісімаў не разгубіўся. Ён ачысціў небяспечную знаходку ад бруду і, узяўшы яе ў рукі, загадаў памочнікам адысці пад абарону сцен. У самога ж пульсавала неадчэпная думка-загад: «Пакуль прыедуць сапёры, снарад трэба перанесці ў надзейнае месца, далей ад цэхаў». Ён так і зрабіў.

Воіны-сапёры хутка абясшкодзілі снарад.

— Дзякуй, таварыш Анісімаў,— падышоў потым да электрыка камандзір сапёрнага падраздзялення,— умела і рашуча дзейнічалі. Па-франтавому.

МАЙСТРЫ

## ПАЛЁТ ФАНТАЗІІ

Уладзіслаў Уладзіміравіч Баранаў працуе ў Бабруйскім вытворчым аб'яднанні мастацкіх вырабаў. Майстар-умелец — так афіцыйна называецца яго прафесія. Зазначым: прафесія вельмі рэдкая. Вышынь яе дасягаюць людзі, якія ўсёй сваёй душой цягнуцца да прыгажосці, маюць талент ствараць яе, а не проста плятуць нешта з саломкі, вяжуць або ткуць.

У тыя часы, калі Уладзіслаў Уладзіміравіч яшчэ толькі прыступаў да вырабу першых сваіх лёгкіх і зграбных кошыкаў, сумак, дзіцячых цацак, бытавала думка, што занятак гэты выключна жаночы.

— Дзе ёсць сапраўдная творчасць — не можа быць «выключна жаночых» або «выключна мужчынскіх» прафесій,— пераконваў тых, хто здзіўляўся яго нечаканаму выбару, У. У. Баранаў.

У мінулым лётчык-знішчальнік, які трыццаць гадоў праслужыў у Савецкай Арміі, пасля звальнення ў запас ён нечакана для ўсіх сваіх знаёмых і блізкіх становіцца майстрам народнага промыслу.

Удакладнім: «нечакана» для многіх, толькі не для самога Уладзіслава Уладзіміравіча.

— Яшчэ хлапчуком я марыў стаць або лётчыкам, або — майстрам, падобным на тых, што валодаюць рэдкім талентам выраблять дзівосныя цацкі са звычайнага лёну,— успамінае ён.— Мне пашанцавала: абедзве мае мары здзейсніліся. Сваёй другой прафесіяй ганаруся гэтак жа, як і першай.



ПРЭМ'ЕРА РУБРЫКІ

## САМАЕ-САМАЕ...

**Хацелася б часцей сустракаць на старонках часопіса паведамленні аб рэдкіх знаходках, экспанатах, з'явах прыроды, словам, самых-самых цікавых рэчах.**

**Прапаную адкрыць рубрыку «Самае-самае».**

**С. КАРЫЕНКА.**
г. Магілёў.

Слушная прапанова. Адметных з'яў у нашым жыцці і сапраўды шмат. Самае ўраджайнае поле, новы унікальны канвеер, адзіны ў сваім родзе музей, дзе захоўваецца самы выдатны яго экспанат... Ды ці мала пра што можна сказаць: **самы, самая, самыя!**

А што, калі прапанаваўшы новую рубрыку, нашы чытачы самі возьмуцца весці яе? Чакаем вашых пісьмаў, тэлефонных званкоў.

А адкрываем рубрыку нататкай супрацоўніка Белрыбвода У. Арэшкі.

## ДРАЎЛЯНАЕ ДНО ЗАЛІВА

Мне добра знаёма наша рака — прыгажуня Бярэзіна. На адным з яе ўчасткаў непадалёку ад Бабруйска вада заўсёды дзіўнай чысціні і празрыстасці. Як у Байкале!

Чым гэта тлумачыцца?

Звыш паўтара стагоддзя таму тут былі ссечаны і затоплены магутныя дубы. Бярвеннямі выслалі дно невялікага заліва. Праз гады дзякуючы складаным біяхімічным працэсам (вось адкуль дзівосная чысціня вады) дрэва павінна было стаць асабліва каштоўным будаўнічым матэрыялам, выдатнай сыравінай для вытворчасці мэблі.

Цяпер ВА «Бабруйскдрэў» «адчыняе» незвычайны, самы, можна сказаць, унікальны падводны склад толькі ў выключных выпадках. Калі рэстаўрыруецца які-небудзь помнік старажытнасці.

Не так даўно, да прыкладу, рамантаваўся адзін з будынкаў Маскоўскага Крамля. Пры рамонце выкарыстоўваліся ствалы магутных дубоў, што ў канцы 18-га стагоддзя раслі па берагах Бярэзіны.

ІНФАРМАЦЫЯ ДА РОЗДУМУ

## АЙДАРЭТ І ІНШЫЯ

Год назад прадпрыемствы 13 саўгасаў рэспублікі выпускалі з пладоў віны.

— Цяпер яны перапрафіляваны,— паведаміў намеснік начальніка ўпраўлення Міністэрства плодаагародніннай гаспадаркі БССР В. Д. Сіпер.— Сёлета не ў віно, а ў кампоты і сокі пертвараюцца духмяныя яблыкі. Дарэчы, антонаўку або, скажам, айдарэт сабралі ў саўгасных садах мінулай восенню без вялікіх страт. Вось чаму ў магазінах апетытныя плады і напіткі сёння ёсць пастаянна.

## КОЛЬКІ ДЫМ КАШТУЕ?

Запрашаем вас у павільён «Электрыфікацыя» на ВДНГ СССР. Тут разгорнута экспазіцыя тэматычнай выстаўкі «Ахова прыроды пры эксплуатацыі энергетычных прадпрыемстваў».

З некаторымі са сваіх распрацовак знаёміць на выстаўцы Лукомльская ДРЭС. У раздзеле «Ахова атмасферы ад забруджвання выкідамі ЦЭС» наведвальнікі могуць пазнаёміцца са схемай ачышчэння дымавых газаў. Выкарыстанне гэтай схемы дазваляе павысіць эканамічнасць работы катлоў, знізіць выкіды вокіслаў азоту і атрымаць эканамічны эфект ад укаранення — 130 тысяч рублёў у год. Вось так: і паветра ў акрузе стала чысцейшым і не вылятаюць цяпер «у трубу» дзяржаўныя грошы.



**Выпуск падрыхтаваў Валерый ЛАПІН.**

# Прабачце, а вам... не сорамна?

**Ніл ГІЛЕВІЧ,**
**лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР**



У новай рэдакцыі Праграмы КПСС вялікае месца адводзіцца ўсталяванню ў нашым грамадстве камуністычнай маралі, якая з'яўляецца, папершае, мараллю **калектывісцкай,** па-другое — **гуманістычнай,** па-трэцяе — **актыўнай, дзейнай.** Гэта мараль, зазначаецца ў праграмным партыйным дакуменце, «несумяшчальная з эгаізмам, сябелюбствам і своекарыслівасцю», яна ўсталёўвае «сумленнасць, прастату і скромнасць у асабістым і грамадскім жыцці», яна заахвочвае чалавека «да актыўнага непрымання ўсяго, што супярэчыць сацыялістычнаму ўкладу жыцця, да настойлівай барацьбы за камуністычныя ідэалы».

Мараль і культура — паняцці вельмі блізкія, якія ў жыцці і ўсяго грамадства і асобнага чалавека ў многім істотным супадаюць, сумяшчаюцца, накладваюцца адно на другое. Чалавек сапраўды культурны — гэта канешне ж чалавек маральны, сумленны, сціплы. Таго, хто паводзіць сябе амаральна, хто несумленна ставіцца да сваіх чалавечых і грамадскіх абавязкаў, а найперш — да працы, хто эгаістычна і нясціпла трымаецца ў калектыве, з таварышамі і калегамі,— культурным не назавеш. Не кажучы ўжо пра тых, хто мараль нашага сацыялістычнага агульнажыцця парушае ў самай грубай форме — пра хуліганаў, зладзеяў, хабарнікаў, паклёпнікаў і іншых тыпаў, якія размінуліся з культурай катэгарычна.

У маім разуменні найбольш блізкі сінонім да азначэння «чалавек культурны» — гэта «чалавек сумленны». Сумленнасць — вось апора і стрыжань культурнай, высакароднай асобы, грунт і глеба яе духоўнай, чалавечай годнасці. Адукацыя ж сама па сабе — пры браку сумленнасці — да культуры, да сапраўднай інтэлігентнасці чалавека не далучае. Ці мала мы сустракаем дыпламаваных хамаў, высокаадукаваных мярзотнікаў? «Нажніцы» паміж адукацыяй і выхаваннем пачынаюцца з дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту і пры спрыяльных умовах «разыходзяцца» чым далей, тым шырэй. Веды чалавек набывае, розным навукам навучаецца, а выхаванне, ці адукацыя душы, за ведамі, за навучаннем не паспявае. Таму што гэтай душы мала ўдзяляецца ўвагі — на работу з ёю не хапае часу ні ў бацькоў, ні ў настаўнікаў, ні ў грамадскасці. Хаця зусім зразумела, што адукаванасць чалавека можа даць жаданы плён і карысць для грамадства толькі тады, калі будзе спалучана з маральнай выхаванасцю, з сумленнасцю. Школьная рэформа, якая пачала ажыццяўляцца ў краіне, прадугледжвае павышэнне эфектыўнасці менавіта выхаваўчай работы з вучнямі. Бо трэба, каб малады чалавек выходзіў на прасторы жыцця маральна выхаваным, сумленным, высакародным — інакшай сказаць: культурным.

Культурны чалавек ад дзікуна і цыніка адрозніваецца перш за ўсё здольнасцю — і на вачах у людзей і сам-насам з сабою — чырванець ад сораму. Незастрахаваны ад памылак і няверных крокаў, ад зрываў і падзенняў, ён, аднак, кожны такі свой правінак перад людзьмі і ўласным сумленнем моцна перажывае, ён пакутуе праз гэта, і перажыванне становіцца для яго маральным урокам, дзякуючы якому ён як чалавек расце, падымаецца ў сваім духоўным развіцці на нейкую прыступку вышэй.

Час, у які мы жывём, задачы далейшага развіцця грамадства патрабуюць ад нас рэзкага павышэння маральных крытэрыяў — ва ўсіх сферах жыцця і грамадскай чыннасці. Ва ўсіх — і ва ўседзяржаўным маштабе, усюды і скрозь. Бо наіўна думаць, што можна стварыць высокамаральны клімат у нейкай адной сферы, ізалявана ад іншых сфер. Толькі як усеагульная, усенародная справа павінен разумецца сёння курс на абнаўленне маральнага самаадчування грамадства, на мабілізацыю яго духоўных і маральных рэсурсаў, на бязлітасную барацьбу з усім тым, што ідзе ў разрэз з прынцыпамі камуністычнай маралі. На парадак дня з усёй цвёрдасцю і вастрынёй ставіцца пытанне аб неабходнасці падцягнуцца да ўзроўню прынцыповых партыйных і грамадзянскіх паводзін.

Культура працы, адказныя адносіны да сваіх абавязкаў, беражлівае стаўленне да грамадскай каштоўнасці, да матэрыяльнай і духоўнай спадчыны — усё гэта пытанні сумлення, сумленнасці. Але аднымі заклікамі: «Працуйце сумленна! Зараблайце і еште хлеб толькі чэсны!» дасягнем нямнога. Заклікі пераконваюць слаба, калі побач — безліч прыкладаў таго, як можна салодка, усмак і на поўную губу есці хлеб крадзены, жульніцкі, незапрацаваны, як лёгка можна, прабіўшыся на сякую-такую пасаду, урываць для сябе лішні дармавы кавалак ад агульнага, ад дзяржаўнага. Што да хлеба крадзенага — дык тут усё ясна: рана ці позна ён можа вельмі нясмачна адрыгнуцца. Горш і не зусім ясна з тым кавалкам, што бесцырымонна ўрывае для сябе ад усіхняга, ад грамадскага таварыш, якога злодзеем назваць нібыта не выпадае; больш таго — таварыш нібыта сам змагаецца за новы, прыгожы, культурны лад жыцця, сам ходзіць у змагарах за камуністычныя ідэалы. Але іменна — нібыта... Пакуль ягомасць на трыбуне, на сцэне, на экране. А затым... Зрэшты, чаму затым? Менавіта пакуль ён на трыбуне — яму на кватэру, як кажуць, з чорнага ходу, дастаўляюць гасцінец, ну, скажам, падсвінка з калгаснай фермы, ці пару індыкоў, ці пуда паўтара свежага карпа з дзяржаўнай сажалкі. І таварыш прымае «гасцінец» як належнае — назад з абурэннем не адсылае, усім сваім грамадзянскім сумленнем не закіпае ад гневу. Таварыш не гаворыць сабе: «Пачакай, пастой!.. Ды гэта ж усё-такі непрыгожа! Гэта ж брыдка! Гэта — не паводле нашай маралі, нашага камуністычнага сумлення!..» Не, ён гаворыць сабе зусім іншае. Ён гаворыць: «Ды дробязь! Падумаеш — парася ці авоська рыбы!..» І дадае — можа, нават і не без гонару: «Другім — нельга, а мне — можна!» Ах жа і жывучае яно, гэтае самадаравальнае, распуснае «а мне можна...» І як даказаць таварышу, што — няможна? Што няма ў яго такога права — няма і быць не можа. І што такое патуранне ўласнай распушчанасці шкодна ўплывае на агульны маральны клімат. Бо і другія скажуць: «Дык яму можна, а нам нельга? Ну не! У нас раўнапраўе! Будзем і мы, па меры магчымасці, рабіць гэтак жа...»

Часта думаю: чаму чалавек так лёгка пераступае праз уласнае сумленне? Чаму ён так не шануе сваё імя, так не даражыць сваёй чалавечай годнасцю? Чаму яму ўсё адно, што пра яго падумаюць людзі — суседзі, знаёмыя, таварышы? Неяк старшыня прыгараднага — пад Мінскам — калгаса скардзіўся: «Вы знаеце — проста няма ратунку ад праезджых зладзеяў! Спыняюць свае «Жыгулі» ці нават «Волгі» — і з прыдарожнай плантацыі хапаюць-крадуць усё, што вырасла: моркву, рэпу, бручку, буракі, капусту, нават бульбу рыюць. Накідаюць у багажнік — і памчаліся. Страта наносіцца гаспадарцы вельмі адчувальная — лік на дзесяткі цэнтнераў ідзе!..» Падобныя скаргі я чуў і ад многіх іншых старшынь. Ну, а хто ж гэтыя ўладальнікі быстраходных «Жыгулёў» і «Волгаў»? Можна не сумнявацца, што ў большасці выпадкаў — людзі з вышэйшай адукацыяй. З дыпломам людзі. Затрымай іх каторага і спытай далікатна: «Прабачце, а вам... не сорамна?» — нават здзівіцца інтэлігентны, культурны з выгляду таварыш. Скажыце яму: «Вы злодзей» — абразіцца і раззлуецца: «Ды кіньце вы! Падумаеш — дзве галавы бручкі выдраў!.. Ды яе там сто гектараў!..» Адным словам — на ўзроўні чэхаўскага «зламысніка» дыпламаваны таварыш тлумачыць будзе.

У апошнія гады набыла ў нас пэўнае пашырэнне адна вельмі непрыгожая ў сваёй маральнай сутнасці з'ява — фіктыўнае скасаванне шлюбу дзеля пашырэння жыллёвай плошчы і вырашэння такім спосабам кватэрнага пытання. Інтэлігентныя, культурныя, ён і яна бяруць па суду развод, потым ён атрымлівае па месцу працы для сябе кватэру, а затым яны сходзяцца зноў, выгадваючы ў выніку большае, лепшае жыллё. Ганебны гэты вопыт узбагачаецца рознымі варыянтамі, пра адзін з якіх расказала нядаўна газета. Малады чалавек, студэнт, толькі што ажаніўшыся, пачынае заляцацца да іншай — да адзінокай гаспадыні добрай кватэры, а затым бярэ з жонкай развод і афармляе ў загсе шлюб з новаспечанай любоўю. І ўсё гэта, аказваецца, фікцыя, усё несапраўднае: і заляцанне, і развод, і ўступленне ў новы шлюб — усё хлусня, усё дзеля таго, каб набыць гарадскую прапіску і жыллё! І, самае страшнае, усё — са згоды жонкі, сваёй абранніцы навек, усё — супольная задума маладых сучасных інтэлігентаў! Якая бездань цынізму! Зжахнуцца можна!.. Усім вядома, што жыллёвая праблема ў нашых гарадах — адна з найбольш вострых і вырашаецца з пэўнымі цяжкасцямі. І ўсё-такі, і ўсё-такі!.. Да якой жа ступені саманепавагі і самапрыніжэння трэба апусціцца, каб пайсці на падобную здзелку з сумленнем! Колькі святога, чалавечага трэба растаптаць у сабе, на якое пасмешышча выставіць сябе перад людзьмі — дзеля таго, каб ашукаць Савецкую ўладу, каб без чаргі — за кошт тых, хто мае больш пільную патрэбу,— атрымаць кватэру! Пішу, а ў галаву прыходзіць нядобрая думка: а можа ў нас гэта ўжо не пасмешышча, не ганьба? Таму — і не сорамна?..

Асабліва трывожна і горка бачыць, што з атрафіраваным сумленнем падымаюцца ў жыццё многія маладыя людзі. Выяўляецца гэта ў з'явішчах самых розных, але бадай ці не самая небяспечная з іх — гэта дармаедства, утрыманства, прывольнае існаванне за кошт добрых старых бацькоў, іх зарплаты або нават і пенсіі, задавальненне ўласных патрэб без ніякіх клопатаў і турбот — так бы мовіць, дзяржаўнай ці грамадскай гатоўкай. Такія дарослыя дзеці ведаюць толькі адно: «Дайце! Абавязаны даць! Абавязаны клапаціцца!» Да таго ж, выхаваныя ў духу спажывецка-ўтрыманскай псіхалогіі вялікарослыя абібокі ўзбройваюцца прыёмамі і фразамі з арсенала сацыяльнай дэмагогіі. Колькі месяцаў назад былі мы з Васілём Быкавым

на Палессі, за Прыпяццю. І была ў адным калгасе сустрэча з чытачамі, якая зацягнулася дапазна. Па заканчэнні, на ганку клуба, падышоў да мяне франтаваты з выгляду здаравень гадоў дваццаці пяці ад роду.

— Дазвольце вапросік!

— Калі ласка,— кажу.

— Чым вот нам, маладым, цяпер заняцца?

— Цяпер каля адзінаццаці вечара. Пара адпачываць.

— Ды я спрашываю ваабшчэ: чым нам у свабоднае ўрэмя тут, у дзярэўні, займацца?

— Спортам, напрыклад. На спартыўных пляцоўках — у валейбол гуляйце, у баскетбол, у гарадкі...

— Ды няма ў нас у дзярэўні ні адной пляцоўкі. Нічога няма!

— Няма? Ну, што ж, заўтра раніцай мы з народным пісьменнікам Васілём Уладзіміравічам Быкавым пачнём рабіць для вас, маладых і дужых, валейбольную пляцоўку. Раз вы чакаеце, каб вам нехта зрабіў яе...

— Ясна!

І малады здаравень адышоўся. Ці стала яму сорамна? Не ведаю. Хацелася б думаць, што так.

Мы згадалі пра несуноў і выхапняў, ашуканцаў, дарослых утрыманцаў і дэмагогаў, але гэтае ж пытанне «Прабачце, а вам... не сорамна?» трэба задаваць і кожнаму бракаробу, і кожнаму прагульшчыку, і кожнаму бюракрату-валакітчыку, і кожнаму кар'ерысту-выскачку, і кожнаму фанабэрыстаму хаму — і ўсякаму іншаму кожнаму, у кім спіць ці засынае сумленне, хто вышэй за інтарэсы грамадскія ставіць свае ўласныя, эгаістычныя, хто кіруецца ў жыцці мараллю мяшчанскай, антыкалектывісцкай, а гэта значыць антысацыялістычнай па сутнасці. «Абы мне было добра, абы я з гэтага нешта меў — нейкі выйгрыш-выгаду, абы гэта спрыяла майму спакою, майму дабрабыту...» — вось яна, гэта сутнасць, часцей за ўсё адкрыта не вымаўленая, а спрытна замаскіраваная рознымі спосабамі грамадзянскай мімікрыі. На жаль, так рэдка — ці з-за далікатнасці, ці з-за нясмеласці — задаецца гэта пытанне: «Прабачце, а вам... не сорамна?» Рэдка ў тым ліку і ў нашай мастацкай літаратуры, у тэатры і кіно — там, дзе яно павінна гучаць з асаблівай сілай. Наша айчынная літаратура заўсёды вызначалася моцным пафасам маральнасці, высокім голасам сумлення, заўсёды была выхавальніцай народа. Гэтай каштоўнай якасцю яна даражыць і сёння. І ўсё ж яе зварот да чалавечага сумлення на сучасным этапе развіцця нашага грамадства павінен быць больш дзейсным. Каб пасля сустрэчы з новай кнігай чытач абавязкова задумаўся: «А ці так я жыву — ці сумленна? Ці ўсё я раблю, што павінен рабіць для людзей, для Радзімы? Ці так усе мы жывём — у сваім доме, у сваім калектыве, у сваёй вялікай грамадзе? Ці апраўдваем мы такое высокае і такое адказнае прызначэнне — быць чалавекам на зямлі?..» Вядома, сказанае цалкам датычыць і іншых відаў мастацтва. Трэба, каб і з кіно, і з тэатра, і з канцэртнай залы чалавек выходзіў расхваляваны неспакоем, з растрывожанай душой, з узрушаным сумленнем. Дасягнуць гэтага магчыма толькі адным шляхам — калі ў творы будзе і сапраўдны грамадзянскі, чалавечы неспакой, і трывога, і ўзрушанасць...

— Прабачце, а вам... не сорамна?

— Не, не сорамна!

— А мне — сорамна. Нават вочы апусціць хочацца.

— А гэта ўжо ваша справа. Значыць, ёсць чаго саромецца. Вось і чырванейце на здароўе!

— Прабачце, але мне... за вас сорамна.

— Што?!.

— Сорамна за вас, кажу. Вы ж чалавек усётакі. А ў чалавека павінна быць сумленне. Інакш — чаго ж ён варты?

— Знаеце што?..

— Знаю.

— Ну вось і ідзіце. І не лезьце да мяне са сваёй мараллю. Начхаць мне на тое, што вы пра мяне думаеце!

Што ж, можа адбыцца і такі дыялог у паважанага чытача з нейкім сваім суайчыннікам. Можа — калі гэты гора-суайчыннік ужо абыдлеў душою дарэшты, непапраўна. Але ў большасці выпадкаў шчырае, непрымірымае слова хоць маленькі, а ўсё-такі след у чалавечай душы пакідае. Бо як сказана ў пісанні вуснамі мудрых: зерне падае не на камень.

**ЗМЕНЫ Ў ЖЫЦЦІ — ЗМЕНЫ Ў ЛІТАРАТУРЫ**

# Крок за крокам

**Максім ЛУЖАНІН, заслужаны дзеяч культуры БССР**

Увайну і ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе газеты не шкадавалі паэзіі цэлых «падвалаў» і старонак, а паэты лічылі за абавязак не толькі адгукнуцца на заклік рэдакцыі, а самі прыходзілі з рукапісамі.

Не збіраюся папракаць сённяшнюю паэзію ў грамадзянскай недастатковасці, сучасныя газеты — у недаацэнцы паэтычнага слова, а чытачоў — у астыванні цікавасці да яго. Аднак арганічнае супрацоўніцтва газеты і паэзіі рэч далёка не лішняя і зараз. Прыцягненне ўвагі літаратара да падзеі, заказ на вершы могуць даць не толькі злабадзённыя водгукі, а і творы, што пяройдуць у кнігі, калі, вядома, не будуць выконвацца пажарным спосабам, па тэлефоне 01.

Мастацкі твор, як вядома, з даўнымдаўнога, пачынае расці, калі аўтар бачыць у абвыклым, штодзённым штосьці як бы сустрэтае ўпершыню і здзіўляецца, скажам, з падрастання дома на вуліцы, з абмалоту палетка пшаніцы, з чалавечай мужнасці або дабраты. А здзівіўшыся, мастак ужо не можа не перадаць хвалявання і навізны ўбачанага суразмоўніку, чытачу, не можа не знайсці сродкаў зраўняць калдобіны, што замінаюць руху. Глыбока справядлівыя заклікі пра выхаванне людзей абавязваюць паставіць заслон усяму, што каламуціць плынь нашага жыцця. Гэта абавязвае нас да самага пільнага азнавання наўкольнага паветра, умацавання працоўнага сумлення, выхавання чалавечых душ: тэм і праблем хопіць не на адзін раман ці аповесць.

Нам даручаецца высвечваць усе куткі ўнутранага свету чалавека, узвышаць яго духоўныя патрэбы. Мы не маем права рабіць гэта інакш як добра, з партыйнай страснасцю, пад чырвоным ветразем эпохі, як пісаў Якуб Колас.

Перад аблічам найсур'ёзнейшых задач будзе дарэчы сказаць, што не заўсёды ўдаецца нам прыводзіць задумы ў адпаведнасць з іх выкананнем, уздымацца на ўзровень мастацтва. Часта мы спяшаемся называць паэзіяй радкі, якія не ўзвышаюцца над гладкапісам, узводзім у ранг прозы расцягнутае чыстапісанне, а за крытыку лічым тое, што хутчэй адносіцца да дыпламатыі як па выбары аб'ектаў крытыкі, так і па залежнасці яе тону ад саноўнасці аўтара.

Пры падобных паслабленнях у патрабавальнасці цяжка чакаць стварэння вобраза сучасніка такой паўнакроўнасці, якой не ведала яшчэ літаратура. Без адчування гарачага пульсу часу як сагрэеш сэрца чалавека, без авалодання перадавымі ідэямі рэчаіснасці хіба пашырыш далягляды пазнання!

Працаваць добра, значыць,— сумленна выконваць наказ партыі: забяспечыць адзінства слова і справы.

Навучаць жыццю можна, толькі глыбока і стала навучаючыся ў жыцця. Як патрэбна яна, згуртаванасць, калектыўная ідэйная і творчая нацэленасць творчых саюзаў. Мацней дружыць, часцей сустракацца, болей раіцца, гарачэй спрачацца, узаемна радавацца поспехам.

Літаратары Украіны, як паведамляла «Литгазета», зацікаўлена размаўлялі з вучонымі пра ахову прыроды. Не менш матэрыялаў для цікавых гаворак і ў нас: пра ахову прыроды і старажытнасці, забудову гарадоў, пра тое, што лічыць за кнігу і за карціну.

Нашы мастакі і архітэктары паразумеліся і ўхвалілі ідэю ахоўваць і берагчы стары горад, апошнюю, уцалелую ад разнастайных разбойніцкіх разбурэнняў крыху старажытнага Мінска.

Так і не інакш. Чым больш мы ведаем і шануем мінулае, тым багацей робіцца сучаснасць і будучае.

А будучыня шырокая і светлая патрабуе вялікай работы.

біць самому нешта, вартае здзіўлення.

І вось людзі творчага асяроддзя не выходзяць са стану першабачання, першахвалявання, жывуць на подступах да першаадкрыцця. Мы абавязаны гэтым партыйнай накіраванасці часу, наш час адкрывае вачам усё шырэйшы поступ народа, падымае краіну на ўсё вышэйшыя ступені дзяржаўных, гаспадарчых, культурных здабыткаў, вылучае наперад самых здольных, ставіць на ключавыя пазіцыі маладых.

Людзі майго веку, які далікатна называюць сталым, а найчасцей хрысцяць менш карэктна, але больш дакладна, працуюць звычайна скупавата, датрымліваюцца той меры ў фарбах і пачуццях, што называецца — лепш недадаць, чым перадаць — у імя мастацкай праўды, якая не цярпіць прыпісак, надмернасці, падымання на пальчыкі.

Але час дае такі зарад стваральнага настрою, што і старэйшыя літаратары працуюць з зайздроснай маладой шчодрасцю. Абавязкі і адказнасць, ускладзеныя на нас партыяй,— велічэзныя, але невымерна вялікае і давер'е партыі, непахісная яе надзея на трывалы строй людзей літаратуры і мастацтва.

Будзем прымаць у сэрца ўсё добрае, што вырастае ў рэчаіснасці, каб выйсці да мастацкага асэнсавання заваёў сягонняшніх, а яшчэ больш — заўтрашніх.

Адсюль і вынікае маладое бачанне новага мастаком, пачуццё гордасці за востры розум, пэўную хаду, умелыя рукі народа. Само жыццё дае ў рукі невычэрпны матэрыял для мастацкіх абагульненняў!

Партыя вучыць не забывацца пра непераадоленыя цяжкасці, непазбытыя адмоўныя з'явы, вучыць цвяроза ўзважваць перажытае і здабытае, каб у далейшым руху пазбегнуць непажаданага, за-



# КАСМІЧНЫЯ ХУТКАСЦІ — НА ЗЯМЛІ

Бадай, ніводнае дасягненне навуковай і канструктарскай думкі ў пасляваенны час не мела такога вялікага ўплыву на прагрэс тэхнікі, як ЭВМ. Нават уявіць цяжка, з якой сапраўды касмічнай хуткасцю выконваюць яны вылічальныя аперацыі, смела беручы на сябе самыя разнастайныя функцыі — ад кантролю за станкамі з праграмным кіраваннем да назапашвання ўрачэбнай інфармацыі, якая дапамагае медыкам з першага погляду ставіць дакладныя дыягназы.

Вось ужо чвэрць стагоддзя сыходзяць разумныя машыны і з канвеераў Мінскага вытворчага аб'яднання вылічальнай тэхнікі. За гэты час тут асвоены серыйны выпуск больш як дваццаці мадыфікацый камп'ютэраў трох пакаленняў. Прадукцыя прадпрыемства карыстаецца добрай рэпутацыяй у нашай краіне і за мяжой. За ўклад у развіццё сусветнага гандлю аб'яднанне ўдастоена прэстыжнай міжнароднай прэміі «Залаты Меркурый».

Нямала слаўных працоўных перамог атрымалі стваральнікі ЭВМ у мінулай пяцігодцы. Іх поспехі высока ацаніла Радзіма: на сцягу аб'яднання зазззяла яшчэ адна ўзнагарода — ордэн Кастрычніцкай Рэвалюцыі. Калектыў прадпрыемства двойчы заваёўваў пераходны Чырвоны сцяг ЦК КПСС, Савета Міністраў СССР, ВЦСПС і ЦК ВЛКСМ, ён занесены на Усесаюзную Дошку гонару на ВДНГ СССР.

Лічаныя гады спатрэбіліся спецыялістам аб'яднання, каб асвоіць выпуск новых машын ЕС-1036, ЕС-1061, ЕС-1065, іншых універсальных вырабаў, прызначаных для вырашэння шырокага кола навукова-тэхнічных, эканамічных, інфармацыйных і іншых задач. Напрыклад, ЭВМ ЕС-1061 у параўнанні з папярэдняй машынай удвая больш прадукцыйная, яе паказчыкі надзейнасці ў паўтара раза вышэйшыя. Хуткай распрацоўцы і прамысловаму асваенню ЭВМ ЕС-1061 у немалой ступені садзейнічала ўкараненне ў аб'яднанні адзінай сістэмы аўтаматызаванага праектавання, якая дазволіла забяспечыць выпуск большай часткі канструктарскай дакументацыі машынным спосабам.

Паспяхова рэалізуе калектыў аб'яднання і перспектыўны план тэхнічнага пераўзбраення. Шырокае прымяненне знайшлі ў яго цэхах прамысловыя робаты і маніпулятары, а таксама створаныя на іх базе робататэхнічныя комплексы. Дасягнутае дзякуючы гэтаму зніжэнне працаёмкасці асноўных вырабаў дазволіла ўмоўна вызваліць больш як пяць тысяч рабочых. Садзейнічае павышэнню эфектыўнасці вытворчасці і ўкараненне брыгаднай формы арганізацыі і стымулявання працы. Прычым больш паловы створаных на прадпрыемстве брыгад — комплексныя і скразныя, што дазваляе эфектыўна ўплываць на якасць прадукцыі.

Сёння калектыву аб'яднання па плячы рашаць самыя складаныя задачы навукова-тэхнічнага прагрэсу. Рабочыя, інжынеры, служачыя адабраюць курс партыі на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, імкнуцца сваёй працай, практычнымі справамі паскорыць рух наперад. У цэхах, брыгадах, на ўчастках зараз шырока разгорнута сацыялістычнае спаборніцтва за паспяховае выкананне заданняў першага года дванаццатай пяцігодкі. Калектыў стваральнікаў ЭВМ выступіў з ініцыятывай працаваць пад дэвізам: «Эфектыўнасць — высокая, якасць — выдатная, пастаўкі — у тэрмін».

Значна павялічыць аб'ём вытворчасці, асвоіць і разгарнуць серыйны выпуск электронных вылічальных машын ЕС-1066, ЕС-1087, новай запамінальнай падсістэмы на магнітнай стужцы ЕС-5027 і ЕС-5527, канала ЕС-4002, іншых вырабаў — такія задачы стаяць перад аб'яднаннем у гэтай пяцігодцы. Намечана таксама ў паўтара раза павялічыць выпуск тавараў народнага спажывання, абнавіць і значна пашырыць іх асартымент. Гэтыя напружаныя заданні калектыў аднаго з перадавых прадпрыемстваў рэспублікі плануе выканаць без павелічэння колькасці рабочых, без росту спажывання асноўных матэрыялаў, цеплавой і электрычнай энергіі. Што датычыць хуткадзейнасці новых камп'ютэраў, то тут ніякая гранічная лінія не прачэрчана. Хуткадзейнасць будзе ўзрастаць няспынна.

**Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ і Аляксандра СЯНЦОВА.**



□ **Група перадавых наладчыкаў аб'яднання.**



□ **Тут ствараюцца ЭВМ. Злева направа — інжынеры-наладчыкі Ірына Чагіна, Рыгор Пінчук і Аляксандр Мацяюк.**



□ Наладка ЭВМ ЕС-1061. У цэнтры — інжынер-наладчык Уладзімір Фрэнкель.



□ Наладка ЭВМ ЕС-1036. У цэнтры — інжынер-наладчык Тамара Сотнікава.

□ Праверка ЭВМ ЕС-1061 перад адпраўкай заказчыку. Злева направа — інжынеры-наладчыкі Юрый Рагатка, Ірына Проніна і тэхнік-наладчык Лілія Александровіч.



□ Камуніст Віктар Цынкевіч — адзін з лепшых інжынераў-наладчыкаў на прадпрыемстве.





□ Машына не слухаецца. У чым справа! Аб гэтым зараз даведаюцца і ліквідуюць няспраўнасць інжынеры-наладчыкі камсамолкі Галіна Войтка (справа) і Ірына Проніна.



# ВЯНОК БРАТЭРСТВА



Яўген КРУПЕНЬКА

I

Люблю цябе і ў хмурны дзень і ў сіні,
Украіна — рэспубліка-сястра.
Люблю разлівы роднага Дняпра,
Які бярэ выток свой у Расіі.
З малога ручайка у поўнай сіле
Цячэ рака братэрства і дабра —
Купаюцца ў ёй сонца і зара,
Што над Радзімай ярка засвяцілі.
Мне дораг Канеў. На гары Чарнечай
Магіле пакланюся нізка вечнай,
Здаецца мне, што дарагі Кабзар
Глядзіць народу па-братэрску ў твар.
Украіна! Сястра! Як май, красуй!
Люблю тваю пяшчоту і красу.

II

Люблю тваю пяшчоту і красу,
Пявучую, як песня маці, мову.
Вяду з сябрамі шчырую размову
І кнігі тваіх аўтараў нясу.
Яны — і дар, і скарб мой дарагі,
Мне зразумела ўсё ў арыгінале,
Навекі песні дружбы нас з'ядналі,
Дняпра іх змацавалі берагі.
Яны плывуць у сонечныя далі,
Крывёю мы братэрства змацавалі,
Бяда у друга — лью сваю слязу,
У друга радасць — усім сэрцам рады,
Бо чалавек — высокая пасада,
Я вернасць і любоў заўжды нясу.

III

Я вернасць і любоў заўжды нясу,
Прымі пяшчоту слоў маіх, расійка,
Ты чыстая, як на лістку расінка,
Якую я з лістка не атрасу.
Дазволю толькі сонцу яе стрэсці.
А сам да скону дзён хачу пранесці —
Пад сцягам прысягнуў табе на вернасць.
Харошы звычай — сваяму брату верыць,
У дружбе жыць — заўжды братамі быць,
Дапамагаць і ўмець заўжды любіць.
Магутныя, нібы Дняпра стыхія
Вясной у самы бурны крыгаход,
З Украінай стаіць і мой народ,
Пакляўшыся ў любві табе, Расія.

IV

Пакляўшыся ў любві табе, Расія,
Ішлі мы поплеч праз агонь і дым,
Не думалі, хто вернецца жывым —
Па нас у кожнай хаце галасілі.
Матулі ў бога літасці прасілі,
Ды толькі бог нямым быў і глухім.
Сваёй крывёй зямлю мы арасілі,
Гаворым аб чацвёртым, як жывым.
Загад суровы і сяброўскі голас
Цябе ў атаку узнімаў, салдат,
Хацеў на ніве вырасціць ты колас,
А напісаў трохкутнік-адрасат.
Той колас сёння ўнукі узрасцілі
У небывалай велічы і сіле.

V

У небывалай велічы і сіле.
Для пакаленняў, будучых вякоў
Ад Брэста да Курыльскіх астравоў,
Як на граніце, ты стаіш, Расія.
Не згасне слава вечная бацькоў,
І мы, нашчадкі легендарнай славы,
Стаім на варце рубяжоў Дзяржавы,
Каб хмары сонца не зацьмілі зноў.
Паклон табе, салдат і абаронца!
Зярняты прабіваюцца да сонца,
Над борам зырка ўспыхваюць заранкі,
А іх раней ты сустракаў з каханкай
І цалаваў і губы, і касу —
Цяпер вартуеш ты жыцця красу.

VI

Цяпер вартуеш ты жыцця красу.
І я з кустоў расу не атрасу —
Бясконца у жыццё я улюбёны,
У ціхую бязвоблачную рань,
І ты сама навокал толькі глянь —
Ужо зара пазалаціла клёны.
І харраство баюся патрывожыць,
Я ў захапленні вечным перад ім.
Жадаеш — пойдзем борам векавым,
Дзе кожная сасонка заварожыць.
Ты любіш лесу дзіўную красу,
Давай жа пойдзем сцежкаю мурожнай,
Там ты — сястра бярозцы белай кожнай,
У цішыні п'юць салаўі расу.

VII

У цішыні п'юць салаўі расу
У залатой малінавай дуброве.
І я, як дрэва ў маладой абнове,
Глыбей карэнне — я вышэй расту.
Я дзякую табе, зямля бацькоў,
За цішыню, за песні салаўёў,
І за матуль шчаслівых калыханкі.
Я дзякую табе, мая зямліца,
Што не грыміць над краем навальніца,
А мірныя праменяцца заранкі.
Я дзякую табе, зямля, за лёс,
Што нарадзіўся і шчасліва ўзрос,
І крочу ў сваім росквіце і сіле,
Хаця і травы ногі арасілі.

VIII

Хаця і травы ногі арасілі,
Пакуль раса — трымай, касец, касу!
Далоў раса — дамоў касу нясу,
Пракосаў не злічыць, што накасілі.
Іх вунь дзяўчаты граблямі разбілі,
А вечарам саборамі стагі
Дняпроўскія ўпрыгожаць берагі,
Мы дружнай талакой іх завяршылі.
Як пахне мятай скошаны мурог!
І, стомлены крыху, пад стог прылёг,
Прапах мурожным сенам кожны волас.
Гарачы час — не час адпачываць,
Зажынкі трэба хутка пачынаць —
Густое жыта і трава у пояс!

IX

Густое жыта і трава у пояс
Стаяць наўсцяж высокаю сцяной,
Іх гладзіць ветрык цёплаю рукой,
У спёку лівень шчодра іх напоіць.
Трывожуся, каб смертаносны град
Над ураджайнай нівай не пранёсся,
Зрабіў заўчасны абмалот калосся
І не абтрос за кожнай хатай сад.
Люблю цябе, гасціннае застолле!
Гасцей заўжды страчаем хлебам-соллю,
Жытнёвы сноп на покуці стаіць —
Як на дзяржаўным гербе кожны колас,
Што ў сонцы гэтак зорка прамяніць...
Мне любы птушак спеў,
зязюлі звонкі голас.

X

Мне любы птушак спеў,
зязюлі звонкі голас,
Люблю дугу-вясёлку над зямлёй,
Прастор яна ўпрыгожыла сабой,
Вярнула маладосць мне і вясёласць.
Вядзе мяне дарогаю ўлюбёнасць
У белы гай сцяжынкаю любой,
Хаця былое усё сплыло вадой,
А добрае заўсёды люба ўспомніць,
Бо ў чалавека спадарожнік — памяць.
Люблю вясны пялёсткавую замець,
Калі прыходзіць першая любоў.
Люблю начлег. Пасуцца мірна коні.
Пячэцца бульба — круглая, як поўня.
Люблю гамонку векавых бароў.

XI

Люблю гамонку векавых бароў
І шчыра, як каханай, прызнаюся:
Бары такія толькі ў Беларусі —
Падобных ім нідзе я не знайшоў.
Яны гамоняць голасам вятроў,
Яны іграюць музыкай смычкоў,
Для ворагаў яны — жывыя мсціўцы.
Не раз у вочы ім глядзела смерць.
Жывіцай пахнуць чыстыя масніцы,
Ступі нагой — яны гатовы пець.
Цымбалы граюць наваселле зноў,
У хаце дружбе цесна не бывае;
Гаворыць украінка маладая,
Вітае рускіх дарагіх сяброў.

XII

Вітае рускіх дарагіх сяброў
І мова беларуская жывая,
А пра Дняпро ўкраінка заспявае,
Здаецца, што ён выйшаў з берагоў.
Імчыцца плынь, як сотні галасоў,
Бо песня пра Дняпро народнай стала,
Яна навек народы паяднала
І надзяліла дружбаю братоў.
Я гэту дружбу праз гады пранёс.
Адзіны горкі выпадаў нам лёс,
Але браты змаглі бяду асіліць.
Будуем новы, шчасцем светлы свет.
Ляцім да зор ў нязведаны сусвет,
Навекі Беларусь з табой, Расія.

XIII

Навекі Беларусь з табой, Расія,
Тваім стагоддзям і сынам хвала!
Ты іх усіх на подзвіг узняла
У самую смяротную часіну.
Ты надзяліла мужнасцю і сілай,
Адвагу нечуваную дала
І смертаносных ворагаў скрышыла,
Да зор Сцяг Перамогі узняла.
Ёсць у народа права на бяссмерце,
Табе стаяць вякі на гэтым свеце —
Прымі паклон наш беларускі нізкі.
Мы кланяемся моўчкі абеліскам,
Здымаем шапкі. Кожны крок тут
спыніць,—
Ніякі вораг дружбы не асіліць.

XIV

Ніякі вораг дружбы не асіліць.
З'яднаная ў магутны наш саюз
Расце, як май, квітнее — Беларусь
Пад ясным сонцам, небам чыстым сінім.
Народаў дружба — гэта ты, Расія!
Прымі прызнанне шчырае ў любві
І ад мяне, твайго, Айчына, сына:
— Заўсёды ў вечнай радасці жыві!
Мы — міру, і жыцця, і шчасця творцы,
Надзея на планеце ўсіх людзей,
Мы — ленінскае праўды святланосцы,
Яго жывых і велічных ідэй.
Адданы роднай партыі заўсёды:
Яе ўсе думы — думы ўсе народа.

## *Магістраль*

Люблю цябе і ў хмурны дзень і ў сіні,
Люблю тваю пяшчоту і красу.
Я вернасць і любоў заўжды нясу,
Пакляўшыся ў любві табе, Расія.
У небывалай велічы і сіле
Цяпер вартуеш ты жыцця красу.
У цішыні п'юць салаўі расу,
А ногі мае травы арасілі.
Густое жыта і трава у пояс,
Мне любы птушак спеў,
зязюлі звонкі голас,
Люблю гамонку векавых бароў,
Вітаю рускіх дарагіх сяброў.
Навекі Беларусь з табой, Расія,—
Ніякі вораг дружбы не асіліць!

# НА СІБІРСКІХ ПРАСТОРАХ



Здаецца, не так даўно наша блакітнавокая Беларусь, якая спакон веку славілася бульбай ды лёнам, жытнёвым коласам і неабсяжнымі тарфянымі масівамі, стала вядома на ўвесь свет як уладальніца «чорнага золата», а яна ўжо можа ганарыцца, што выхавала магутную кагорту спецыялістаў высокага класа, прадстаўнікоў новай для яе прафесіі — нафтавікоў. Сёння беларускіх нафтавікоў па праву называюць перадавым атрадам рабочага класа. Сумленна, з годнасцю нясуць яны працоўную вахту не толькі ў рэспубліцы, але і далёка за яе межамі. Беларускіх здабытчыкаў «чорнага золата» можна сустрэць і ў Заходняй Сібіры, у раёне гарадоў Ніжнявартаўск і Наябрск, дзе яны ўносяць важкі ўклад у рэалізацыю Энергетычнай праграмы краіны, павелічэнне здабычы газу і нафты.

Не першы год вядзе асваенне сібірскіх нетраў калектыў аб'яднання «Беларусьнафта». За гэты час нашы землякі асвоілі не адно месцараджэнне, прайшлі тысячы кіламетраў горных парод. Там, дзе прайшлі нафтавікі-першапраходцы, узняліся жылыя дамы і базы, выраслі цэлыя гарады і пасёлкі, якія яны пабудавалі ўласнымі рукамі.

Працуючы выпрабаваным вахтава-экспедыцыйным метадам, беларускія нафтавікі прабурылі сёлета дадаткова да задання сотні тысяч метраў горных парод. Зараз яны паспяхова асвойваюць новае перспектыўнае месцараджэнне «Пагранічнае», якое знаходзіцца непадалёку ад Наябрска. У гэтым годзе сюды накіроўваецца 8 буравых брыгад, якія павінны прайсці 120 тысяч метраў горных парод. Адначасова вядзецца будаўніцтва жылых дамоў, першай чаргі базы ў Наябрску, іншых збудаванняў.

☐ На новае месцараджэнне.

☐ Вось і яшчэ адна буравая ўстаноўка «вырасла» ў гэтых бязлюдных мясцінах.

☐ А тут, у Наябрску, дзе жывуць спецыялісты аб'яднання «Беларусьнафта»,— зусім абжыты куток...

☐ Геафізік Беларускай геафізічнай экспедыцыі трэста «Захаднафтагеафізіка» Уладзімір Дацюк (злева), начальнік геафізічнай партыі Уладзімір Кражаў і галоўны геолаг экспедыцыі глыбокага эксплуатацыйнага бурэння Рэчыцкага ўпраўлення разведвальнага бурэння Святаслаў Ціпікін абмяркоўваюць вынікі геафізічных даследаванняў.

☐ Толькі верталётам можна даляцець...

Фотарэпартаж
Валерыя АЛЯШКЕВІЧА.




















# ТЭХНАЛОГІЯ

**27 гадоў узначальвае калгас «Светлы шлях» на Маладзечаншчыне Уладзімір Міхайлавіч Калачык. Цяпер нават цяжка паверыць, што ў 1957 годзе, перад прыходам Калачыка, у гаспадарцы атрымлівалі па 5,8 цэнтнера збожжавых, 80 цэнтнераў бульбы з гектара. Сёлета ўраджай складае адпаведна 40 і звыш трохсот цэнтнераў.**

□ На здымках: у «Светлым шляху» прафесія будаўніка не менш пачэсная, як і хлебароба. За апошнія гады тут пабудавана нямала катэджаў для калгаснікаў, уведзены новыя карпусы жывёлагадоўчых памяшканняў. Гэты здымак зроблен у час мантажу абсталявання на новай зернесушылцы; так урачыста праходзіць свята дажынак на палетках калгаса; Уладзімір Міхайлавіч Калачык (злева) з загадчыкам Маладзечанскага дзяржаўнага насеннага ўчастка Ільёй Іванавічам Сяргеевым.

**Яўген БУДЗІНАС**

## ШТО ЁН ТУТ НАПРАЦУЕ

Міма калгаса «Светлы шлях» Маладзечанскага раёна я праязджаю вось ужо амаль трыццаць гадоў. У пяцьдзесят сёмым, ахопленыя хлапечым імкненнем пазнаваць свет (а калі больш дакладна — убачыць вяршыню мар: Беларускі політэхнічны інстытут), мы адправіліся ў рызыкоўнае падарожжа з Вільнюса ў Мінск. Праўда, да мэты не дабраліся. Школьная палутарка, сабраная намі (пад кіраўніцтвам загадчыка гаспадаркі дзядзі Сашы) з металалому, засела на пайдарозе ля глухой вёсачкі Заскавічы, дзе мы дарэмна спрабавалі расстарацца якісьці **трамблёр**, што выйшаў са строю. Неверагодным чынам адбілася ў памяці выслоўе: «заскавіцкія козы».

Зараз, праз дваццаць восем гадоў, старшыня «Светлага шляху» Уладзімір Міхайлавіч Калачык з усмешкай растлумачыў:

— Так тады тутэйшых дзяўчат называлі. Страшэнная была бедната. Прыродная ўрадлівасць зямлі — пяць цэнтнераў з гектара. Пятнаццаць пудоў сеялі — дваццаць збіралі. Кароў сяляне не трымалі, а толькі козы былі. Адсюль і мянушка пайшла...

З той самай пары старшынствуе ў «Светлым шляху» Уладзімір Міхайлавіч Калачык. Заскавічы цяпер — цэнтральная сядзіба.

Калачык з таго часу зусім натуральна змяніўся. Грузны, паважны, крыху нават марудлівы, усім вонкавым выглядам ён быццам адпавядае сваёй саліднай гаспадарцы. Манеры і выгляд старшынь — аднойчы гэта заўважыўшы, я пасля наўмысна правяраў — часцей за ўсё адпавядаюць становішчу спраў у гаспадарцы. Што, зрэшты, зусім лёгка вытлумачыць. Каб у бэжавай (кава са згушчаным малаком) «Волзе» па-гаспадарску, паважна ўладкаваўшыся, праехацца, трэба спачатку гаспадаром стаць. Трэба дарогі пабудаваць, а перад тым эканоміку ўзняць, шмат чаго спачатку і на шмат гадоў трэба. А наўгалоп на жвавай (па характару ездака) кабыле — гэта спачатку, як і належыць маладому старшыні заняпалага калгаса. Хоць і тады наўгалоп нязручна. З мостаразвалюхі зваліўся, каня ўгробіў, сам шыю ледзь не скруціў, добра што вёрткі быў — выкруціўся.

Тады было яму дваццаць сем. А важыў ён пяцьдзесят восем кілаграмаў. Пасля сходу калгасніцы ўздыхалі: «Што ён тут напрацуе, хлапчук гэты!»

— Калі прыязджаю упаўнаважаны і пытаў, дзе старшыня, я саромеўся, што я такое хлапчаня. Няма яго, кажу, паехаў... Усё чакаў, калі набяру вагу, каб мяне мелі за старшыню.

Змяніліся і Заскавічы. Неяк непрыкметна мяняўся з гадамі пейзаж. Зніклі балоты, знік дзікі хмызняк. Ці ж жарты, дзве з паловай тысячы гектараў меліяравана. Гэта з калгасных пяці. Акультурылася, выраўнавалася поле: раней лапікі, цяпер — «да самага лесу». Займелі пэўную строгасць контуры пашы, нават каровы на ёй размясціліся па нейкай стройнай, шахматнай, ці што, логіцы.

Праязджаючы міма з году ў год, я ў думках міжвольна адзначаў перамены. Справа ад дарогі вырасла вялікае, зусім не сельскага выгляду прадпрыемства. Гаражы, майстэрні, навесы для камбайнаў. Гэта, к слову, і называецца не па-вясковаму: «Мехсектар вытворчага ўчастка № 1». Побач яшчэ цэлы завод: калгасная зерневая гаспадарка.

Злева — пасёлак. Магазіны, Дом культуры, адміністрацыйны будынак (канторай — таксама не назавеш), Дом быту, стадыён, лазня з пральняй — спічасты, з крутым схілам чырвонага чарапічнага даху будынак...

Змяніліся, выраслі з той пары і калгасныя паказчыкі.

За гэты час ураджайнасць — і зерневых, і льну, і бульбы — у «Светлым шляху» спачатку падвоілася. А пасля падвоілася яшчэ раз. Ураджайнасць зерня, напрыклад, спачатку паднялася з шасці да дванаццаці цэнтнераў з гектара, пасля да дваццаці двух, а затым і да сарака трох. Бульбы таксама — з васьмідзесяці цэнтнераў да трохсот трыццаці. Гэта дазваляе на кожныя 100 гектараў сельгасугоддзяў вырабляць у 16 разоў больш малака і ў 23 разы больш мяса, чым у першыя гады...

Сёння Калачык лічыць, што ўраджайнасць зерневых можна... і яшчэ раз падвоіць.

Як толькі гутарка заходзіць аб рэзкім павелічэнні чаго б там ні было, тым больш аб падваенні, першае пытанне — аб зыходным узроўні. Што падвойваць? Калі шэсць цэнтнераў з гектара — гэта зразумела, калі дваццаць да сарака — таксама ўкладваецца ў свядомасць. Але сёння тут лік пачынаецца з сарака цэнтнераў.

— Гэта значыць вырасціць па восемдзесят цэнтнераў зерня на кожным гектары? — недаверліва перапытваю я.

— Проста,— гаворыць ён.— І льну ў пераліку на валакно свабодна можна вырасціць па чатырнаццаць цэнтнераў. Тэхналогія дазваляе.

— Што ж не дазваляе? Што перашкаджае атрымліваць гэтыя восемдзесят цэнтнераў? — пытаю яго я.

— Тэхналогія,— адказвае ён.

Тэхналогія дазваляе, тэхналогія ж і не дае. У гэтым варта разабрацца, каб зразумець Уладзіміра Міхайлавіча Калачыка. У гэтым і ва ўсім, што за гэтым і наўкол.

## УСЁ — ДА ЎПОРУ

Калачык — тэхнолаг. Прычым тэхнолаг у вышэйшым сэнсе слова. Гэта падказаў мне калісьці мой даўні герой і старэйшы сябар старшыня перадавога калгаса У. Л. Бядуля. Не вучоны, каму трэба вынайсці, не аграном, чыя задача вырасціць, не інжынер, які павінен забяспечыць тэхнічную магчымасць узараць, засеяць ці ўбраць,— тэхнолаг. Спецыяліст, арганізатар, кіраўнік, работнік, які праводзіць тэхналогію ў жыццё. Тэхналогію, тут, зноў-такі, у яе вышэйшым разуменні — не проста паслядоўнасць аперацый, метадаў, прыёмаў, тэрмінаў, а паслядоўнасць **закончаную і завершаную**, накіраваную ў **вынік**.

З сялянскага дзяцінства, з працы ў полі ідзе гэта вышэйшае разуменне ў Калачыка.

З першых дзён старшынства пачалася яго рэалізацыя.

Прыйшоў у калгас Калачык у маі. І загарэлася яму ва ўсе вёскі да Новага года электрычнасць правесці.

— Гэта важна было, каб пераламаць настрой. Людзі тады не вельмі верылі. Ну, як гэта, каб у кожнай хаце лямпачкі?

Слупы паставілі, правады нацягваюць, да Новага года два дні застаецца. Перад ім — толькі лямпачка, якая павінна ўспыхнуць у тэрмін. Збірае работнікаў, абяцае пачастунак за свой кошт.

— Гэта зараз глупства,— успамінае Калачык,— а тады вялікія грошы былі. Але мне нічога не шкада, апошні пінжак, апошнюю кашулю аддам, каб толькі ў тэрмін. У 9 гадзін вечара трыццаць першага далі святло ва ўсіх сямі вёсках. Вось і пачаўся пералом... Любое пытанне трэба даводзіць, да дробязі. Усё — да ўпору. Да поўнай завершанасці. Веды ёсць, уменне ёсць, яшчэ патрэбна настойлівасць. Калі хочаце,

нават настырнасць. У мяне гэта ад характару. Заўжды хацеў, каб атрымалася ўсё дарэшты.

Першай умовай было не распыляцца і рабіць толькі тое, што можна **зрабіць.** Зразумела, паўжабрацкай гаспадарцы патрэбны былі грошы. Іх магла даць бульба. Але толькі пры добрым ураджаі. Добры ўраджай магла даць толькі добра дагледжаная зямля. Зямлі неабходны быў гной. Восемдзесят, сто тон на гектар сталі ўносіць пад бульбу. Але і пры гэтым можна нічога не атрымаць. Добрыя грошы магла даць толькі гатунковая бульба. На насенне давялося ўзяць пазыку. Дорага? Затое выгадна. лагічны цыкл — прапалка, падкормка, уборка, угнаенні, гербіцыды... Скарачаюцца страты.

Пераканаўчы загад, на трох старонках. Усё там ёсць: «З мэтай далейшага павышэння... і зніжэння страт... забяспечыць укараненне... распрацаваць карты... скласці справаздачы... навучыць людзей». Колькасць, якасць, метады і методыка — усё для таго, каб атрымаць 6—8 цэнтнераў ільновалакна з гектара.

А Калачык у самы дрэнны год атрымлівае больш як восем. Але справа нават не ў гэтым.

Загад, паўтараю, займае тры старонкі на машынцы з адным інтэрвалам. Да яго дадатак. се, адзін з вялікіх кіраўнікоў у шчырай гутарцы адкрыта прапанаваў старшыні:

— Калачык, калі ты па паказчыках, хаця б па трох, на першае месца ў рэспубліцы выйдзеш — па ўсіх пытаннях вядзі размову асабіста са мной. Усё, што запросіш,— гарантую. Пад усю тваю тэхналогію.

Прапанова была спакуслівая. Калачык гэта любіць. Каб асабіста.

— Чаго ж ты маўчыш, чаго раздумваеш? Ці баішся не выцягнуць на ўсім гатовым?

— Людзі ў мяне да такога не гатовы,— адказаў тады Калачык.— Дзесяць працэнтаў на належным узроўні. Ад сілы — пятнаццаць.

# І ТЭХНОЛАГ

У выніку гэта прыносіла ўтрая, у чатыры разы больш капеек у калгасную касу за кожны кілаграм. Эканоміка і эканомія не заўжды сінонімы. Асабліва калі эканомія дробязная.

Калачык не крахабор, скрупулёзнасцю не пакутуе. Бульбу ў «Светлым шляху» вырошчваюць толькі гатунковую і прадаюць на насенне. Колькі гатункаў? Каля пяцідзесяці. Чаму так многа? «Хтосьці ж павінен выпрабоўваць». Калгаснае поле для беларускіх селекцыянераў даўно ўжо стала выпрабавальным палігонам.

— І што, усе гатункі добрыя? — цікаўлюся я.

— Чаму ўсе? — адказвае Калачык.— Бывае, і пралятаем, але не вельмі. Свежы гатунак, нават калі і не вельмі добры, нават калі і не падыходзіць для раяніравання, напачатку ўсё роўна дае больш.

Адной арганікі пад гатунковую бульбу — мала. Пад зерне і тым больш. Мінеральных угнаенняў тут зямлі заўжды давалі колькі патрэбна. Але трэба многа, а дзе ўзяць, калі заўсёды ўсяго не стае? Куплялі ў кааперацыі. Зноў многія за галовы хапаліся, гэта ж утрая даражэй! «Скупасць губіць многіх, дробязнасць. За капейкай гонімся — рубель губляем. Дзяржава нас раздурыла, даючы ўсё за бясцэнак. Не разважаць трэба, а браць, калі тэхналогія патрабуе... І адразу ж аддача, прычым значная».

У тэхналогіі Калачык патрабуе менавіта скрупулёзнасці.

— Пасееў аграном бульбу, пішы ў блакнот,— ён паляпаў сябе далонню па лбе,— на сёмы дзень баранаванне ці сляпое акучванне. Прапусціш час — завал. Ні гатунак, ні ўгнаенні, ні хімія не выратуюць. Пустазелле замучыць. Ну і далей, гадзіна ў гадзіну — па тэхналагічнаму цыклу.

## ПАДВЕСЦІ БАЗУ

Тэхналогію мала скласці, пад яе яшчэ трэба ўсё падвесці. Яе трэба здзейсніць. А для гэтага трэба гарантаваць выкананне — забяспечыць. Скрупулёзна, да дробязі.

— Дробязей няма,— папраўляе мяне Калачык.— Усякая нявырашаная дробязь адразу ж становіцца галоўнай праблемай.

Перабудавалі старую ферму, рэканструкцыю правялі поўную. Пад самую тэхналогію. Праходы пашырылі, транспарцёры прынялі. Люба глядзець. А даяркі шумяць. Яны кармы цяпер цялежкамі возяць. Прычым па чарзе, таму што цялежак не хапае. Цялежка, вядома, не праблема, але і не выхад. Патрэбны кормараздатчыкі. А кормараздатчыкаў няма, і не будзе, пакуль старшыня дзе-небудзь іх не дастане. А пакуль гэта «пакуль» цягнецца, уся тэхналогіяператвараецца ў пшык.

Вось прыходзіць у калгас прадпісанне. У форме загаду. Аб неадкладным і абавязковым пераходзе на індустрыяльную тэхналогію вырошчвання льну. Прагрэсіўнасць індустрыяльных метадаў даўно даказана. Сутнасць яе і ў тым, каб з вясны праходы для тэхнікі пакідаць незасеянымі. Па іх пасля праводзіць увесь тэхналагічны цыкл — прапалка, падкормка, уборка, угнаенні, гербіцыды...

По матэрыяльнаму забеспячэнню.

Адзін радок.

І нічога ў ім новага, нічога прагрэсіўнага, нічога індустрыяльнага: камбайн — адзін, сушылка — адна.

Добра, пакінем сляды за трактарам незасеянымі. А машын жа прычапных, такіх, каб у гэту ж каляіну патраплялі, як не было, так і няма. Вось і тапчыся па пасевах. Замест скарачэння павялічвай страты.

Базу ж не падвялі.

— Конь, саха, серп, цэп — гэта ўсё тэхналогія,— гаворыць мне цяпер Калачык, успамінаючы свае дзяцінства.— Давала яна, канечне, столькі, колькі магла даваць. Але пры ўсёй прымітыўнасці яна была забяспечана ўсім неабходным і завершана. Чамусьці на гэта пасля сталі забывацца.

Усё ўдаецца роўна настолькі, наколькі забяспечана тэхналогія.

Нават так: чым лепш яна складзена, чым больш яна дасканалая, чым на больш высокі нацэлена вынік, тым, бывае, горш.

— Буракі для нас — суцэльны прыгнёт чалавечых сіл,— тлумачыць гэту думку Калачык.— Процьма ручной работы, малапрадукцыйная тэхналогія. А кукуруза зараз — рай. Гэта тады яна была няшчасцем, калі яе сілай распаўсюджвалі, бо тады нічога пад яе не было, апрача энтузіязму і добрых намераў. Бляшанкамі ад кансерваў моладзь угнаенні разносіла. Для павышэння энтузіязму праўленне спецыяльна выдзяляла мяшок цукерак. Днём, значыць, папрацуюць, а вечарам у клубе танцы да ўпаду... Цяпер іншая справа. Гербіцыды ёсць, угнаенні ёсць... Цяпер яна дае па пяцьсот цэнтнераў зялёнай масы. Але сеем, як і тады, усяго сто гектараў. Маглі б і яшчэ столькі ж пасеяць. Але чым убіраць, чым вывозіць? Патрэбен уборачны комплекс, а яго няма. Вось і займаемся буракамі на дзялянках. І маем пяць тысяч тон буракоў. Горш, ды лепш.

Памаўчаўшы, ён працягвае, вяртаецца да тэмы падвядзення ўраджаю:

— Вырасцім восемдзесят цэнтнераў, а чым убраць? Камбайны да гэтага не гатовы. Лён тое ж самае, у нас яго і так гараджане ўручную рвуць. А ці ж гэта выхад на сучасным этапе?

Тэхналогія дае, тэхналогія забірае. І так забірае, што ўсе жаданні, усе намеры і добрыя парыванні — нашчэнт.

## УСЁ — АД ЛЮДЗЕЙ

— Уладзімір Міхайлавіч,— прапаную я,— давайце пафантазіруем. Давайце ўявім, што аднойчы ўсё неабходнае вам далі. Ад будоўлі вызвалілі. Падрадчыкаў у залежнасць ад калгаса паставілі. Ад дробязнай апекі і бескарысных рэкамендацый вас вызвалілі, ад пастаянных праверак — таксама. Што тады? Атрымалі б вы тады па восемдзесят цэнтнераў зерня з гектара ды па восем тысяч літраў малака ад каровы?

— Былі і такія прапановы, і такія пытанні,— нечакана адказвае Калачык.

І сапраўды былі.

Неяк, яшчэ на самым пачатку працы ў калгасе, адзін з вялікіх кіраўнікоў...

Калачык разумеў: гатовых людзей яму ніхто не прапануе. Селянін па прыродзе сваёй, па сэнсу ўсяго жыцця свайго і гаспадарчай дзейнасці не можа не быць рэалістам.

— Ну, гэта даўно было,— працягваю фантазіраваць я.— А калі б цяпер, сёння вам усё неабходнае раптам адразу ж паставілі. З чаго б пачалі працоўны дзень заўтра?

— З таго ж, што і ўчора. З таго ж, з чаго нагул пачынаў.

А пачаў старшыня з падбору людзей. Не на шабашнікаў разлічваў, не на прышлых. Талковых шукаў, разумных, сумленных. Сярод сваіх. Пачаў з брыгадзіраў.

Глядзеў, як да іх людзі адносяцца і як яны да людзей. Першай вялікай удачай да гэтага часу лічыць брыгадзіра з Готкавічаў Аляксандра Раманавіча Бобрыка, таго самага, хто ўзорна-паказальны парадак на канюшні здолеў навесці. Другой удачай — Пятра Ягоравіча Моніда, таксама брыгадзіра. Намеснікам сваім узяў даярку Алену Іванаўну Бельскую, хоць і было ў яе тады чатыры класы адукацыі. Васемнаццаць гадоў намеснікам працавала і сакратаром партыйнага камітэта — аж пакуль на пенсію не пайшла. Дачка цяпер у калгасе, Людміла Пятроўна, лепшая даярка. «Такая ж, як і маці»,— гаворыць Калачык проста. І відаць, што вельмі ён гэтым задаволены.

«Тэхналогія — ад людзей»,— упэўнен Калачык. Ён цудоўна разумее, што, па-першае, разумную тэхналогію ён сам не складзе, па-другое, не забяспечыць, а нават калі складзе і забяспечыць, не выканае. І прыводзіць просты прыклад.

Пераабсталявалі ферму, а кормараздатчыкаў няма. Сарока Дзмітрый Дзмітрыевіч з хлопцамі параіліся і знайшлі выйсце. Майструюць кормараздатчыкі са старых гноераскідальнікаў. «Дробязь, здавалася б, але многае выяўляе». Старшыня хацеў, каб бетанаваная падлога ў праходах на ферме была роўная. Сарока з ім згодзен, але не зусім. Невялікія ўпадзінкі для кармоў трэба ўсё ж зрабіць. Тысячы, вядома, цяжэй будзе, затое корм па падлозе не будзем раскідваць. Быццам і павышаецца каэфіцыент карыснага дзеяння. «Выдатны атрымаўся загадчык фермы. Хоць да гэтага быў краўцом».

«Эканоміка — таксама ад людзей»,— упэўнен старшыня. І зноў ён выдатна разумее, што ніякую эканоміку не выбудуеш без ініцыятывы знізу. І зноў прыводзіць таму прыклад.

Атрымалі, урэшце, камбайн прыдатны. Вытворчасці ГДР. Цудоўная машына. Хоць і каштуе 43 тысячы. На тутэйшых палях — удвая большая прадукцыйнасць. І па тры — чатыры цэнтнеры прыбаўкі ўраджаю на кожны гектар за кошт зніжэння страт. Зразумелая справа, што ў выніку гэта машына акупіцца. Калі адразу ж не ўгробіць. Каб не ўгробіць, трэба яе Генадзю Бобрыку аддаць. Той і на старэнькім «СК-4» першыя месцы ў калгасе займаў і нават шкадаваў яго здаваць. Гаворыць Генадзь мала, але затое толькі па справе. На сходзе сядзіць. Выступленні ўважліва слухае. Пасля ўстае: «Можна дадаць?» І дадае:

— Усё тут правільна гаварылі, толькі не трэ-

ба нам цюкаванае сена перавязваць шпагатам. Інакш усю тэхніку пераломім. Шпагат у гной трапляе. З гноем зноў на поле. Ён жа нейлонавы. Не гніе. Пасля на валы намотваецца. Касілкі, камбайны, гноераскідальнікі — усё пераломім.

— Дробязь, здавалася б, а важна,— каменціруе Калачык,— прыйшлося ўвесці ў калгасе аплату за шпагат, які належыць здаць. Не з-за таго, што ён вельмі патрэбен ужо, не, хіба што мяшкі завязваць. Але як інакш яго выбіраць заставіш? Адзін свядомы, іншы не, колькі гэта трэба над свядомасцю біцца, каб усе, як Генадзь Бобрык. Каб не проста старанныя, а і талковыя. Як той жа Сарока Сяргей Мікалаевіч, шафёр. З кім па любому пытанню можна параіцца. Хоць у кіраўніцкіх, хоць у будаўнічых, хоць у тэхналагічных справах. Будаваў сабе хату. Пасля прыходзіць і пытае: «Чаму нашы бетонныя пляцоўкі не трымаюцца?» Яму адказваюць нашы спецыялісты: «Цэмент не той. Трэба браць марку вышэй». Не, кажа, вібратар патрэбен. Паспрабавалі з вібратарам. І, сапраўды, справа пайшла. Адзін прыклад, а дзесяткі тысяч эканоміі...

— Ну і колькі ж у вас такіх людзей сёння, калі тады, напачатку, было іх працэнтаў дзесяць — пятнаццаць?

— Сёння больш, вядома, але і не так ужо шмат... Зноў-такі... працэнтаў дваццаць.

## СПАЧАТКУ ДАВАЦЬ, ПАСЛЯ ПАТРАБАВАЦЬ

Дваццаць працэнтаў — гэта кожны пяты. А астатнія што ж — мяняць? Калачык смяецца: «Гэта калі б у нас зборная была па футболу ці балетная трупа. Ці каб хоць брыгада шабашнікаў — там таксама людзі не выпадковыя падбіраюцца, а па інтарэсу».

З астатнімі трэба **працаваць.**

І ў тым сэнсе, што з імі трэба вырабляць прадукцыю. І ў тым сэнсе, што людзей трэба выхоўваць, пераладжваць. «Няма дрэннай зямлі, ёсць дрэнны гаспадар,— любіць паўтараць Калачык.— Няма дрэнных людзей, ёсць дрэнны старшыня».

Працаваць з людзьмі трэба перш за ўсё заахвочваннем. Настройваць эканоміку на выхаванне. Дрэнны старшыня — гэта ў першую чаргу дрэнны псіхолаг. Добры псіхолаг — гэта ў першую чаргу эканаміст.

— А пакаранне? — пытаю я.

— Караць я не люблю і не ўмею. Вось у чым мая бяда. Яшчэ калі старшынёй рэкамендавалі, была гутарка з Сяргеем Восіпавічам Прытыцкім. Ён у нас тады першым сакратаром абкома партыі працаваў. Я яму і кажу: «Не выйдзе з мяне старшыні. Характар не дазваляе». «Нічога,— супакойвае,— паправіш характар, калі пачнеш працаваць і справу завальваць. Раз з табой пагутарым. Яшчэ раз — вымова, яшчэ раз — строгую ўлепім, з'явіцца характар. Я і сам быў такі, ды жыццё навучыла...» Мяне жыццё, канечне, таксама шмат чаму вучыла. Толькі, магчыма, не зусім так, магчыма, па-свойму яно склалася, калі не атрымаўся цвёрды характар...

Я гляджу на Калачыка, слухаю яго скаргі на адсутнасць цвёрдасці ў характары, але думаю пра іншае.

Вось жонку сваю Ліду, у дадзеным выпадку Лідзію Васільеўну, галоўнага эканаміста калгаса, якая аднойчы на сходзе накінулася на даярак з вострай і бязлітаснай крытыкай, дарэчы, зусім справядлівай, бо справы на той ферме дайшлі да поўнага развалу, ён тым не менш з трыбуны зняў. Праявіў дастатковую цвёрдасць.

Спачатку, маўляў, умовы ствары, спачатку парадак забяспеч, пасля парадку патрабуй. І — дысцыпліны.

Умовы на ферме тады былі абуральныя. «Дзякуй, што людзі наогул там працавалі,— гаварыў Калачык.— Калі ж умоў няма, не крытыкаваць трэба, а ствараць умовы, каб людзі туды прасіліся».

Не, не ад слабасці характару старшыня добры і мяккі. Хутчэй ад прынцыповасці, ад паслядоўнасці ў разуменні сутнасці і сэнсу сялянскага жыцця, у разуменні складанай спецыфікі працы на сяле.

## БЫЦЬ ДЫПЛАМАТАМ

— Тут яшчэ і ў іншым спецыфіка,— уздыхае Уладзімір Міхайлавіч.— Тэхналогію мала скласці, мала забяспечыць. Яе яшчэ трэба і адстаяць. Я вось нядаўна выступаў перад маладымі старшынямі калгасаў. Накшталт абмену вопытам. Сабралі іх чалавек пяцьдзесят, я ім кажу: зрабіць па-разумнаму мала, трэба яшчэ па-разумнаму растлумачыць. Гэта любога пытання датычыць. Узяць тую ж бульбу. Гараджане працуюць у нас на ўборцы ахвотна. Бо, апрача зарплаты, мы ім прадаём адборную бульбу. Па дзяржцане, зразумела, але ўсё роўна выклікае нараканне. Згодна якой падставы, маўляў, разбазарваеце. Пачынаеш тлумачыць. Паўтараста тон з сямі тысяч — гэта ж дробязь, але затое ўбіраем усё, ніводнага клубня пад снегам не пакідаем. Усё роўна не належыць. Тады выкручваешся: мы ж не проста прадаём, а на насенне...

— А на насенне што — можна? — пытаю я.

— Нават трэба. З каранцінных меркаванняў. Зона ж у нас насенняводчая. Значыць, трэба, каб і на асабістых участках бульба была чыстая, гатунковая. Ага, кажуць, тады добра, гэта дзяржаўны падыход... Усё трэба ўмець растлумачыць.

«Прырода дала мне два вокі, два вухі, але толькі адзін рот»,— любіць паўтараць ён некалі пачутую ад акадэміка Рамясло фразу. Бачыць і чуць, значыць, трэба ў чатыры разы больш, чым гаварыць. Больш разумець, менш гаварыць і больш рабіць.

«Выкручвацца» даводзілася па-рознаму. Іншы раз растлумачыць, часам паспрачацца, а, бывае, і зусім прамаўчаць.

Плануе, скажам, сельгасупраўленне калгасам здаваць травяную муку. А АВМ у калгасе няма. Восем гадоў агрэгат па вытворчасці мукі адпрацаваў, і яго спісалі. Але там і слухаць не хочуць:

— Як гэта спісалі? Мы думалі, што ты вельмі разумны гаспадар, а ты, аказваецца, не вельмі.

Што тут дакажаш? Даказваць Калачык і не стаў. А купіў у літоўскіх сяброў муку і здаў усё, што належыць. І яшчэ дваццаць тон лішніх.

Навошта гэта яму?

Хто разумны, хто не, гэта іншае пытанне. А першае ў тым, што ва ўпраўленне Калачык яшчэ неаднойчы пойдзе, прычым у якасці просьбіта. На любую дробязь разнарадку падпісваць. А мука — што мука? Здавалі ж яе не бясплатна. Выручылі за яе амаль усё, што заплацілі. Апрача транспартных выдаткаў. Ну, дык і не працавалі ж...

Калачык ведае: ёсць нямала інстанцый, па якіх калі пойдзеш, дык зможаш сваю гаспадарчую праўду даказаць. І воблас ёсць, і рэспубліка. І саюзным дэпутатам Калачык быў. І членам прэзідыума Усесаюзнага савета калгасаў па сённяшні дзень з'яўляецца. Але жыве і працуе старшыня ў раёне. З раённымі правіламі сувымяраючыся, і павінен жыць.

Праўда, тут яму пашанцавала. Доўгія гады першым сакратаром райкома партыі ў Маладзечне быў Уладзімір Ігнатавіч Быкоўскі. Даходзіла з ім да сварак і да спрэчак начамі, асабліва калі пачыналі будаваць новы пасёлак. Дзе што размяшчаць? Гандлёвы цэнтр, напрыклад. Ужо фундамент заклалі, але не там. Два разы ён Калачыка з кабінета выганяў. Але даказаў старшыня сваю слушнасць, здолеў настаяць. Цяпер успамінае: «Ён чым добры быў як сакратар? Яму даказаць можна было. І нават пераканаць. Ён і бюро так вёў, і пленумы. На кожнай нарадзе каб не адно меркаванне, не адна прапанова, а хоць бы дзве. Адразу ж і ў зале пачынаецца рух. Глядзіш — і трэцяе меркаванне нараджаецца... Гэтаму ў яго я заўжды вучыўся».

На калгаснай планёрцы я гэта назіраў. Завёў Калачык размову пра тое, што рабіць з коньмі. То гэтага няма, то таго, то вупражы, то калёс. Адны праблемы ды турботы.

— Можа, лепш раздаць коней па дварах.

— Як гэта раздаць,— замітусіліся брыгадзіры.— А хто да нас тады звяртацца будзе?

Ага, не падыходзіць, рычагі кіравання баіцца згубіць. Тады іншая размова: можа, зусім пазбавіцца ад коней? Як-ніяк век тэхнічнага прагрэсу. Зноў абурэнне:

— Як гэта пазбавіцца? Конь у гаспадарцы — гэта ж незаменная справа.

І адразу ініцыятыва, адразу ажыўленне: канюшні варта падправіць, цэглай абкласці, у Літву па вупраж і па калёсы з'ездзіць...

## «МЫ НЕ ЗАДАВОЛЬВАЕМСЯ»

...У гаспадарцы зімой свае цяжкасці. То сена замерзне, не выцягнеш, то з ацяпленнем нелады, то, скажам, арганіку на поле вывозіць трэба, а з дванаццаці машын заводзяцца толькі восем. Паломкі нязначныя, але ліквідаваць перашкаджае мароз...

У цэлым жа час для старшыні спакойны. Пачатак года. Работ пікавых няма. Апрача дробных непрыемнасцей з пахаладаннем усё ідзе адпаведна строга распісанаму графіку.

Сёння і тым больш — вечар суботні, заўтра ў калгасе выхадны. Сядзім у Калачыка дома.

Але старшыня крыху нервуецца, крадком паглядае на гадзіннік. Як бы просячы прабачэння, тлумачыць:

— Хутка праграма навін па Беларускім тэлебачанні. Трэба б паглядзець. І галоўнае — прагноз надвор'я.

Але я разумею, гэта дыпламатычны ход. Справа ў іншым. Калачыку не цярпіцца застацца сам-насам, усесціся за паперы. Самае галоўнае цяпер для старшыні — асэнсаванне мінулага года. Што было задумана, што атрымалася, што не выйшла. Вынікі, промахі, пралікі. Якім ён быў, гэты мінулы год? Не ведаючы старога, да новага не рушыш.

Пасля гэта выльецца ў строгія радкі справаздачнага даклада. Я прагледзеў старшынёўскія даклады за некалькі гадоў. У адным наткнуўся на памылку, якая выклікала ўсмешку.

Напісана было пра дасягнутае: «Мы н е з а д а в о л ь в а е м с я».

За памылкай гэтай адразу ўбачылася галоўнае ў справаздачным дакладзе. Галоўнае ў ім — аналіз. Дакладаў у сваім жыцці я чытаў і слухаў ой як дастаткова. І захоплена самазадаволеных і стрымана дзелавых, і вострa крытычных, і нястрымана разгромных. Але, бадай што, ні разу і ні ў адным я не выяўляў такога дэталёвага, такога канкрэтнага, адлюстраванага ў лічбах, рублях, у цэнтнерах, у штуках, аналізу страт.

Зерня ў гэты год было страчана па 3 цэнтнеры з гектара, ці каля 500 тон. Бульбы — па 15 цэнтнераў, ці каля 400 тон.

Ільнасемя па 0,5 цэнтнера, ці каля 10 тон.

Страчана было звыш тысячы тон зялёнай масы, а калі ўлічыць бессістэмны выпас і не поўнае скормліванне яе жывёле, дык яшчэ амаль 20 працэнтаў было патрачана марна.

У свінагадоўлі было недатрымана звыш тысячы парасят і дваццаць тон свініны, звыш патрэбы (па ўстаноўленых нормах, але насуперак логіцы) карміліся 300 свінаматак — яшчэ на 50 тысяч рублёў яны наелі. Недатрымана 190 цялят, 85 тон малака і гэтак далей...

І ўсё гэта — адмінусоўваючы тыя непазбежныя страты, за якія гаспадарка не можа адказваць, а калгаснікі і спецыялісты не павінны адчуваць віны. Калачык не фантаст, не дэмагог, а селянін і эканаміст. У яго аналізе ўлічана было толькі тое, што можна было вырасціць, сабраць, атрымаць менавіта ў гэтых рэальных умовах — пры тым жа забеспячэнні, пры тым жа надвор'і, гэтымі ж людзьмі. Аналізаваліся толькі канкрэтныя страты з-за незахавання тэхналагічнай дысцыпліны (якой, калі і дзе — паказана), з-за няправільных ці нясвоечасовых распараджэнняў (яны названы) і з-за нядбайных адносін выканаўцаў (прыклады прыведзены).

«Зразумела, гэтыя лічбы і гэты аналіз,— рабіў агаворкі Калачык,— не абсалютна дакладныя. Яны прыблізнага падліку». Але і застаючыся прыблізнымі, яны давалі сходу падставу для сур'ёзных роздумаў. І дастаткова выразна адказвалі на пытанне, каму і што трэба рабіць сёння і заўтра, у наступным годзе і наогул. Уключаючы і неабходнасць неадкладна змяніць «занадта інтэлігенцкія» погляды на работу цэлага шэрага кіруючых таварышаў-спецыялістаў (прозвішчы пералічаны).

— А пакуль што мы не задавольваемся,— ціха сказаў Уладзімір Міхайлавіч Калачык, пакідаючы трыбуну.

І ў гэтым яго «не задавольваемся» аптымізму ўтрымліваецца, як мне здаецца, значна больш, чым у любым барабанным пошчаку, у любых заклiках, запэўненнях, абяцаннях выправіць усё, зрабіць усё і перарабіць. Нават калі б гэтыя запэўненні суправаджаліся публічнымі раздзіраннямі каўняра і ўдарамі кулаком у грудзі.

**Кастусь ЖУК**

### *Права на радасць*

Гучных слоў гаварыць не ўмею —
Словам шчырым навучаны болей...
«Ле-нін...» —
Вецер Кастрычніка вее!
«Ле-нін...» —
Век вымаўляе з любоўю!

Я ступаю па Краснай плошчы,
Набліжаюся да Маўзалея.
А навокала — крокаў поштчак.
А навокал — абсяг святлее.

Гулкім гулам Крамлёўскіх курантаў
Б'ецца сэрца ў грудзях, трапеча...
Я сябе не лічу экскурсантам —
Прадаўжальнікам спраў тваіх, вечнасць.

Я — з эпохай. З народам. З Расіяй.
Я — з вялікаю ленінскай праўдай.
І вялікаю самаю сілай
У душы выспявае — радасць.

Рэвалюцыі ўнук, сын Радзімы,
Я стаю сёння — ў цэнтры свету.
З верай моцнаю, верай адзінай —
Пазіраю ў заўтра планеты.

### *Касмалёт*

Між зор і мы ляцім на караблі,
На дасканалым самым у Сусвеце.
Тысячагоддзяў
Гадаванцы-дзеці,
Не ўсе мы ўдзячны матухне Зямлі.
Не ўсе яе шануем, як сыны.
Не ўсе з сяўнёй,
Не ўсе з памкненнем шчырым:
З рук аднаго — ўзлятае голуб міру,
А з рук другога — груганы вайны.
Хто пераможа?
Голуб — ці груган?
Смех дзетак — ці крылатая ракета?
Дамоклаў меч занесены над светам,
Трымаючы у страху ўсіх зямлян.
А карабель ляціць. Аўтапілот
Вядзе яго між зорнае гушчэчы.
І боязна за лёс наш чалавечы.
Ляці ж у заўтра мірна, касмалёт.

### *У вёсцы Вішнева*

Вёска Вішнева. Рэчка ўвішная.
Белы вэлюм надзелі сады.
І над яблынямі, над вішнямі
Дух буяе вясны малады.
Тут утульна пчале і сонейку...
І дзяўчыне з касой залатой...
Гэтак пахнуць галінкі соладка!
Гэтак хмеліць паветра настой!
А душа — то засне, то абудзіцца
На шчаслівай зямлі ў гэты міг...
Знерухомей — і голас Буднага
Ты пачуеш між дрэў шапаткіх.

□

За сінім борам, зялёным гаем —
Смяецца рэчка вясёлым звонам...
Куды плыве, ад каго ўцякае
Старая лодка кірункам вольным?
Яе такою з маленства помню:
З луской і мохам, з бліскучай раскай.
Яна — дзяцінства вясёлы помнік —
Слыла ў малых нас — рачной каляскай.
На плынь пагляну — і дух займае...
А дзень не вернецца ўжо ніводны.
Куды плыве, ад каго ўцякае
Старая лодка кірункам вольным?



## СЛОВА ПУБЛІЦЫСТА



**Марыя КАРПЕНКА**

# ДА ВЯРШЫНІ ВЯРШЫНЬ

Гэтыя НАТАТКІ, гэты роздум напярэдадні XXVII з'езда КПСС хочацца пачаць з малюнка крыху сентыментальнага, але сімвалічнага. Бо ў кожнага з нас кожная з'ява жыцця — вялікая або маленькая — выклікае асацыяцыі, успаміны, параўнанні то агульначалавечыя, то вельмі асабістыя.

Той выхадны кастрычніцкі дзень быў надзіва сонечны і светлы. Яшчэ з раніцы радыё паведаміла: сёння ў газетах надрукаваны праект Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, яе новая рэдакцыя. Я паспяшалася да паштовай скрынкі ў сваім пад'ездзе, але там яшчэ было пуста. Відаць, усю ноч у краіне стукацелі ратацыйныя машыны, але своечасова аддрукаваць вялікія тыражы газет усё ж не паспелі. Вырашыла пайсці ў кіёск, бо першая частка тыражу трапляе менавіта туды.

У горадзе ўжо віравала жыццё. Сотні людзей высыпалі на вуліцы і плошчы, каб парадавацца сонечнаму восеньскаму дню, перакінуцца словам са знаёмымі і сябрамі, паглядзець на залатую мяцеліцу, якую кружыў і кружыў свавольнік-вецер, зрываючы з дрэў апошняе лісце.

Перада мной ішлі двое — малады мужчына і яго 5—6-гадовая дачка. Дзяўчынка трымала на нітачцы блакітны паветраны шарык, ён скакаў над яе галавой, і здавалася, вось-вось сарвецца з тоненькай нітачкі, пакружыць у лісцёвым карагодзе і паляціць немаведама куды. Але дзіцячы кулачок быў сціснуты моцна, і паветраны шар паслухмяна паварочваў услед за дзяўчынкай.

Я глядзела на гэты шар і прыгадвала іншы, таксама маленькі, таксама блакітны, з англійскімі словамі на яго тоненькай абалонцы. Ён ляжыць у шуфлядцы майго пісьмовага стала, а прывезены з Англіі, дзе я пабывала ў складзе дэлегацыі беларускага Камітэта абароны міру. Гэта быў час, калі амерыканцы цягнулі першую партыю сваіх крылатых ракет на базу Грынэм — Коман, калі ўся сумленная Англія пратэставала як супраць заморскіх ядзерных «гасцей», так і супраць уласнага ўрада, які дазволіў такое. Трафальгарская плошча Лондана кішэла народам. «Спыніце вар'яцтва!», «Дайце свету шанц!», «Кветкі, а не бомбы!» — гэтыя словы можна было ўбачыць і на транспарантах, з якімі хадзілі купкі людзей, і на тэнісках у хлопцаў і дзяўчат, на плакаціках і паветраных шарах, якія раздавалі прахожым актывісткі антываеннага руху. Яны і нам сунулі ў кішэні падобныя шары. Калі мы потым іх надзьмулі, то прачыталі: «Узарві мяне, а не свет!..»

І вось скача, скача над дзіцячай галоўкай іншы блакітны шарык з іншым, не наіўным, а катэгарычным надпісам «Мір». Ля кіёска бацька і дачка таксама спыніліся. Бацька купіў газету «Праўда», прабег вачамі па яе старонках.

— Хадзем, тата, у парк...

— Зараз, дачка, я толькі прагледжу газету, чытаць будзем дома.

— А пра што там напісана?

— Пра мір, як і на тваім шарыку.

— А яшчэ пра што?

— Пра тое, як ты будзеш жыць, калі вырасцеш.

— Як я буду жыць?

— Прыгожа...

Мінулі дні і месяцы. Мы не толькі прачыталі праекты ўсіх перадз'ездаўскіх дакументаў, мы абдумалі іх, абмеркавалі, прапусцілі праз сэрца. І зноў, як было ўжо не раз, убачылі і адчулі, што яны — для кожнага з нас, у іх — клопат аб нашым радасным і спакойным сённяшнім і заўтрашнім дні. Як было сказана на кастрычніцкім (1985 г.) Пленуме ЦК КПСС, гэтыя партыйныя дакументы — праграма дзеяння ў імя чалавека і міру на зямлі.

Жыць прыгожа... Яно існавала ва ўсе часы — імкненне чалавека да лепшага жыцця. Ды ва ўсе дасацыялістычныя часы, з веку ў век, гнялі чалавецтва галеча, цемрашальства, бізун уласніка. І з веку ў век былі нескароныя, цвёрдыя духам, прагныя да волі і да жыцця, вартага разумнай істоты. Іх гналі на шыбеніцы, гнаілі ў турэмных засценках, палілі на вогнішчах, зажыва закопвалі ў зямлю, забівалі камянямі на ўсходніх базарах. А яны ўсё ж пакідалі пасля сябе светлыя думкі, цікавыя прыродазнаўчыя адкрыцці, гуманістычныя творы мастацтва і літаратуры. І надышоў час, калі смела і поклічна прагучала над светам: «Здань блукае па Еўропе, здань камунізму...»

Прывабнай здавалася калісьці людзям вяршыня вяршынь, «трэці полюс» планеты — непрыступны Эверэст. Але так моцна ён зачароўваў, так клікала яго зманлівая вышыня, што знайшліся смельчакі і рынуліся на штурм найвышэйшай гары свету. Многія не дайшлі, многія ўпалі на паўдарозе. Але на змену ім рушылі іншыя. Калі ў аднаго са смельчакоў спыталі, чаму ён ідзе, ведаючы, што будзе вельмі цяжка, што за перамогу трэба плаціць вялікую цану, ён адказаў: «Іду, таму што Эверэст існуе!»

Мы ідзём да свае вяршыні вяршынь — камунізму — таму, што яна існуе! Для нас, нашых сяброў з краін сацыялістычнай садружнасці — існуе рэальна, для многіх людзей свету — поклічна, як спадзяванне на лепшую долю. «Сацыялізм у нашай краіне перамог поўнасцю і канчаткова»,— запісана ў праекце Праграмы партыі...— «Канчатковая мэта КПСС — пабудова камунізму ў нашай краіне. Сацыялізм і камунізм з'яўляюцца дзвюма паслядоўнымі фазамі адзінай камуністычнай фармацыі. Паміж імі няма рэзкай грані: развіццё сацыялізму, усё больш поўнае раскрыццё яго магчымасцей і пераваг, умацаванне

уласцівых яму агульнакамуністычных асноў і азначае сапраўдны рух грамадства да камунізму».

Мы ідзём, мы верым, што адстаім мір, такі неабходны ўсяму свету і нам. Бо яшчэ ньюць па нагах старыя раны ветэранаў вайны. Яшчэ чакаюць сваіх сыноў і дачок з палёў мінулых змаганняў іхнія даўным-даўно ссівелыя мацяркі і ідуць штодня і паўсюдна людзі да помнікаў і абеліскаў на магілах 50 мільёнаў ахвяр другой сусветнай вайны, сярод якіх 20 мільёнаў, у тым ліку 3 мільёны камуністаў,— нашы суайчыннікі.

Нядаўна сустракалася я са старым селянінам, ветэранам вайны і працы з калгаса імя Ціміразева Капыльскага раёна Мікалаем Рыгоравічам Варвашэнем. Ён двойчы быў паранены на мінулай вайне — у ногі і ў галаву. Ногі падлячылі, а маленькі асколачак так недзе і засеў у галаве. То прытоіцца, сціішыцца, і тады дзядзька Коля, як клічуць яго суседзі, тэпае па панадворку, штосьці робіць па гаспадарцы. То раптам як кальне — і тады Мікалай Рыгоравіч губляе прытомнасць.

Сустрэўшыся, я спытала ў яго:

— Як справы, дзядзька Коля?

— Усё б добра,— адказаў ён,— ды толькі вайна мучыць.

Мучыць вайна мінулая, мучыць прывід новай вайны, які навіс над светам, як пачвара, упіўся сваімі кіпцюрамі і ў сушу, і ў мора, і ў паветра, і нават нацэліўся на зоркі. Гэтую пачвару ўсё корміць і корміць імперыялістычны «повар» у амерыканскім каўпаку, кідае ў яе пашчу мільярды долараў, нябачаныя ніколі раней прыёмы барацьбы і сістэмы зброі, выпрацоўвае зручную яму філасофію, дактрыны накшталт «жыццёва важных зон ЗША» або «стратэгічнай абароннай ініцыятывы». Толькі б дабіцца панавання ў свеце, толькі б трымаць яго ў страху. Нават канцэпцыю для свайго апраўдання выпрацавалі — «раўнавага страху», замянілі ёй канцэпцыю разрадкі. Гонка ўзбраенняў набыла такія памеры, што гатова выйсці з-пад кантролю і шугануць па планеце суцэльнай пагібеллю — без перамог і пераможцаў.

Мы, савецкія людзі, у адказ на ядзернае шаленства імперыялізму, вымушаны мацаваць сваю абарону і мацуем яе, чаго б гэта нам ні каштавала. Але мы хацелі б выдаткоўваць гэтыя сродкі на іншыя мэты — на будаўніцтва новых гарадоў, вырошчванне садоў і кветак, на хлеб і цацкі для ўсіх дзяцей свету, на асваенне мірных касмічных трас на карысць усяму чалавецтву. Адсюль — увесь комплекс прапаноў, накіраваных на прадухіленне ядзернай вайны: спыніць ядзерныя выбухі, прыпыніць размяшчэнне ракет, не разгортваць хімічныя і бактэрыялагічныя арсеналы і стварацьу свеце зоны, свабодныя ад ядзернай зброі... Гэта сістэма прапаноў, з якімі прыйшла наша краіна на сустрэчу кіраўнікоў дзвюх вялікіх дзяржаў свету і, перш за ўсё, прапаноў аб поўнай забароне ўдарных касмічных узбраенняў.

Нашы думкі, і мірныя крокі, і ідэалы сугучныя з тымі, якія выказаны ў першым ленінскім дэкрэце — Дэкрэце аб міры. Яны ляглі чаканнымі радкамі ў праграму савецкіх камуністаў сённяшніх дзён: «КПСС зыходзіць з таго, што, якой бы вялікай ні была пагроза міру, ствараемая палітыкай агрэсіўных колаў імперыялізму, фатальнай непазбежнасці сусветнай вайны няма. Прадухіліць вайну, уберагчы чалавецтва ад катастрофы можна. У гэтым — гістарычнае прызванне сацыялізму, усіх прагрэсіўных, міралюбівых сіл нашай планеты».

Не патрэбны нам ні «зоркавыя войны», ні «крылатыя ракеты». Лепш пакінуць гэтыя звонкія эпітэты — зорны, крылаты — мірным справам, каханню, працы, надзеі. Як сказаў паэт, «...Пакінем прыметнік гэты за рэчамі, за тымі справамі чалавечымі, з якімі здаўна стасуецца ён: крылаты вецер, крылаты звон, крылатае мора, вера крылатая, крылатая муза, крылаты Пегас...»

НАШЫ МАРЫ І ПЛАНЫ — крылатыя. У сэрцах нашага народа — прага стваральнай працы. Нам перашкаджалі інтэрвенцыяй, эканамічнай блакадай, вайной. Нам зараз перашкаджаюць ваеннай пагрозай, а мы супрацьпастаўляем ёй усёперамагаючую сілу сваёй сацыяльнай сістэмы, магутнасць індустрыі, і хлебнае поле, і верш, і песню — усё тое, што завецца коратка — стваральная праца.

Прыгадваю словы свайго даўняга знаёмага Аляксандра Паўлавіча Старавойтава: «Мы ўсе будаўнікі». У Беларусі ёсць два славутых Старавойтавы — двойчы Герой Сацыялістычнай Працы, старшыня калгаса «Рассвет» імя К. П. Арлоўскага Васіль Канстанцінавіч Старавойтаў і Герой Сацыялістычнай Працы, заслужаны будаўнік БССР, брыгадзір комплекснай брыгады Магілёўскага будаўнічага трэста нумар дванаццаць Аляксандр Паўлавіч Старавойтаў.

З дзіцячых гадоў зразумеў адну вялікую ісціну — «Мы ўсе будаўнікі» — пасляваенны хлапчук Саша Старавойтаў. Пра будаўніцтва новага жыцця думаў ён і тады, калі, будучы навучэнцам тэхвучылішча, атрымаў свой першы працоўны рубель і прыдбаў на яго, вёз у родную вёску самы каштоўны па тым часе падарунак бацькуцесляру — пару кілаграмаў цвікоў. Аб гэтым думае ён і зараз — шаноўны сталы чалавек-творца, камуніст, сваёй няўрымслівасцю, працавітасцю падобны на мільёны іншых яго суайчыннікаў. Бо што ні год — усё шырэй рабілася наша агульная будаўнічая пляцоўка, што ні год — узрастала і якасна змянялася яе абсталяванне. Цяпер жа яе памеры становяцца настолькі вялікімі, што, паводле Праграмы партыі, ужо да канца 2000 года павінна быць дасягнута падваенне вытворчага патэнцыялу краіны пры яго карэнным якасным абнаўленні. Партыя вызначае і галоўныя шляхі да гэтай мэты — паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны і павышэнне ролі чалавечага фактару.

За пятнаццаць гадоў патрэбна зрабіць столькі, колькі было зроблена за ўсе папярэднія гады. Зрабіць не колькасцю, а ўменнем, за кошт далейшага паглыблення навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, павышэння прадукцыйнасці працы, дысцыпліны і арганізаванасці кожнага з нас.

ЁМІСТАЕ гэта слова — паскарэнне. Не выпадкова пастаўлена яно побач з такім паняццем, як чалавечы фактар. Ніякага паскарэння не можа быць, калі не настроіцца на яго хваляю людское сэрца, калі праца не будзе творчай.

...Іх нярэдка можна бачыць побач — Аляксандра Паўлавіча Старавойтава і Ніну Макараўну Вяргей. На абласных сходах партыйнага актыву, на іншых нарадах і пасяджэннях. Размова між імі вядомая. Як справы? Як завяршылі пяцігодку? З чым пачынаюць новую? І лёсы іхнія ў чымсьці падобныя. Абое не шукалі лёгкага хлеба, не мянялі месца работы, справу сабе выбралі адну і назаўсёды.

«Будаўнічая пляцоўка» Ніны Макараўны — вёска. Тое славутае поле непадалёк ад Магілёва, дзе ў першыя дні Вялікай Айчыннай зламалі свае першыя сталёвыя зубы гітлераўскія захопнікі, пра што расказаў свету пісьменнік Сіманаў. Але яшчэ чакае свайго летапісца тая бітва, якую правялі пасля вайны тутэйшыя людзі — аратыя і жывёлаводы, якую вядуць яны і па сённяшні дзень — бітву за хлеб, за мяса і малако, за высокі і прыгожы сэнс жыцця кожнага. Ідзе па гэтых палях, даўно ўзараных, засеяных збажынай, упрыгожаных садамі, дачка салдата мінулай вайны, які не вярнуўся дадому. Ідзе як палкаводзец — камандзір і стратэг. Яе стратэгія — гэта стратэгія партыі, яе «полк» — вядомы на ўсю рэспубліку калгас «Чырвоная зорка».

Мы сустракаліся з Нінай Макараўнай у восеньскія дні, калі, як кажуць, было работ восем, і калгасныя шафёры ледзь паспявалі адвозіць у горад, на прыёмныя пункты, у калгасныя засекі малако, мяса, збожжа, бульбу з «Чырвонай зоркі». Па ўсім ужо было відаць, што гаспадарка паспяхова справіцца з заданнямі адзінаццатай пяцігодкі і дастойна пачне новую.

Тады ж споўнілася і дзесяць гадоў працы Ніны Макараўны на нялёгкай старшынёўскай пасадзе. У вёску Дашкоўка, дзе цэнтр калгаса і дзе размешчана абласная сельскагаспадарчая доследная станцыя, яна прыехала маладой дзяўчынай з дыпломам Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. І ўсё жыццё яе — на станцыі і ў калгасе — сярод гэтых палёў і ўзлескаў, дзе так многа абеліскаў мінулай вайны, сярод гэтых людзей, якія спрадвеку любілі гэтую зямлю і хацелі жыць на ёй як мага лепш, і баранілі яе ад чужынцаў.

Гэта яны прапанавалі Ніне Макараўне: «Ідзі да нас старшынёй. Рупілівая ты і ў навуцы, і ў працы». На той час яна ўжо была кандыдатам сельскагаспадарчых навук, сказала ў навуцы аб выкарыстанні мінеральных угнаенняў сваё важкае слова. «Добра, пайду,— адказала яна.— Але жыць па навуцы будзем з вамі разам».

Так яны і жывуць — эксперыментуюць, укараняюць, шукаюць. За гэтыя гады амаль патроілі ўраджайнасць, выгадавалі новай пароды статак і выйшлі па надоях на рубяжы, якія іншыя толькі сабе вызначаюць, пабудавалі шмат жылля і гаспадарчых памяшканняў, акружылі людзей, асабліва ветэранаў, вялікім клопатам. І хаця побач горад, не бяжыць туды моладзь з калгаса, наадварот, гараджане перазязджаюць у вёску. А Ніну Макараўну Вяргей калгаснікі абралі сваім дэпутатам у Вярхоўны Савет БССР.

Навукова-тэхнічны прагрэс для «Чырвонай зоркі» сёння — гэта не толькі дабрабыт вяскоўцаў, гэта і важны сродак фарміравання іх светаўспрымання, узаемаадносін, клопатаў пра агульную справу. Бо чалавек — не толькі канчатковая мэта, а і ўмова камуністычнага будаўніцтва.

— Радуе тое,— разважае Ніна Макараўна,— што партыя ў аснову асноў дзейнасці нашай ставіць паскарэнне навукова-тэхнічнага прагрэсу, удасканаленне ўсіх сфер жыцця. Гэта ж толькі ўдумацца: у дванаццатай і наступных да 2000 года пяцігодках нам за дні трэба будзе рабіць тое, што некалі рабілі за гады. А калі так, то трэба ўважліва глядзець не толькі ў будучыню, а перш за ўсё сабе пад ногі — куды ідзеш, як ідзеш, ці не чапляешся за дрэннае, але вельмі звыклае старое, ці не аступіўся хто побач з табой, не забытаўся ў балбатні, раўнадушшы, фанабэрыі, бюракратызме, а то і п'янцы. Калі бярэшся за штосьці новае, вывярай, як вучыў Ленін, наколькі яно камуністычнае. Бо нашы перспектывы, якія з цягам часу павінны стаць нашымі здабыткамі, нельга ўявіць без вырашэння складаных праблем.

Укараняць дасягненні навукі ў сельскую гаспадарку трэба комплексна, лічыць старшыня, бо сённяшні калгас ці саўгас тысячамі ніцей звязаны з усёй народнай гаспадаркай. Хочаш увесці брыгадны падрад (што, дарэчы, у «Чырвонай зорцы» зроблена), падумай аб яго матэрыяльным і маральным забеспячэнні. Хочаш павысіць ураджайнасць — паклапаціся аб перспектыўных сартах збожжа, бульбы і іншых культур, а гэтых перспектыўных сартоў якраз і не хапае. Кармавую базу таксама не палепшыш і без высокіх ураджаяў, і без добрых кормаўборачных машын. А дзе яны, тыя машыны? Апошнім часам у калгасе вырошчваюць добрыя ўраджаі кукурузы на сілас, з цудоўнымі пачаткамі, а сіласаўборачны камбайн так зроблены, што менавіта гэтыя пачаткі і абівае, і ляцяць яны долу, марна гіне самае пажыўнае.

А машыны для ўнясення тукаў, асабліва мінеральных — дзе яны? А брак, які сёй-той яшчэ дапускае? Шмат у калгасе тэхнікі — машын, камбайнаў, электраматораў. Многія з іх, асабліва камбайны, трэба на месцы дарабляць, дакамплектоўваць. Хіба ж гэта нармальна?

У новай пяцігодцы амаль увесь прырост прадукцыі трэба будзе атрымаць за кошт павышэння прадукцыйнасці працы. Гэта значыць, і за кошт дысцыпліны, парадку, эканоміі. За кошт сумленнай работы кожнага працаўніка. Такая думка камуніста Вяргей. Такая пазіцыя ўсёй партыйнай арганізацыі «Чырвонай зоркі», пазіцыя, якая зыходзіць з курсу партыі на дзень сённяшні і заўтрашні.

Для паскарэння патрэбен цвёрды, выверанаы курс і патрэбен штуршок. Далей рух залежыць ад няспыннай працы ўсіх нас.

БЯЖЫЦЬ ДЗЯЎЧЫНКА з паветраным шарам у руцэ, моцна трымаючы яго за нітачку ў сваім дзіцячым кулачку. Бяжыць, не ведаючы, якія асацыяцыі выклікае ў мяне і гэты яе шарык з кароткім словам «Мір» і ўсё яе радаснае, светлае аблічча. Хочацца дагнаць яе, зазірнуць у вочы, сказаць: «Дзень добры, чалавек будучыні! Гэта ты паўнапраўным гаспадаром і стваральнікам пойдзеш у XXI стагоддзе. Ты пойдзеш — насуперак усім планам «зорных войнаў», «раўнавагі страху», «эскалацыі недаверу». Бо ёсць іншы план — ён мае на мэце выключыць войны з жыцця чалавецтва, даць усім людзям планеты хлеб і надзею, а ў сваёй краіне, імя якой — СССР,— пабудаваць грамадства, дзе усё — для шчасця чалавека».

Хутка, вельмі хутка пачне сваю работу XXVII з'езд КПСС. Ён абмяркуе і прыме дакументы, прыме Праграму, па якой нам жыць, звяраць свою хаду да новых вышынь, якая зробіць нас яшчэ багацейшымі, чысцейшымі, дабрэйшымі, мудрэйшымі.

І калі пад скляпеннямі Крамлёўскага палаца з'езду на тысячы галасоў загучыць партыйны гімн «Інтэрнацыянал», устань, дзяўчынка, і прыслухайся да яго, да гэтых прадбачлівых слоў: «...Мы свет на новы лад збудуем...» І табе быць у гэтым свеце будаўніком!»

**Альберт ЛЯПІЧАЎ**



Рыгору БАРАДУЛІНУ.

У шпітальнай Аляксеевай палаце чамусьці амаль не запальвалі святла. Калі ён пытаўся — чаму? — старая нянечка Піліпаўна нешта мармытала пра тое, што электрычнасць трэба берагчы, дый лямпачкі, калі іх многа паліць, хутка перагараюць, а цяпер, калі ідзе вайна ўжо на нямецкай зямлі, кожная лямпачка даражэй за золата... Але Аляксея не ашукаеш... У словах-мармытаннях Піліпаўны ён адчуваў фальш. Ён здагадваўся, што лямпачку не ўключалі, каб хутчэй надышоў для яго спакой, каб ён хутчэй засынаў.

Ды Аляксей спаць не мог. Наадварот, калі палату пакідалі сябры-раненыя — хто ішоў на скрыпучых мыліцах у кіно, хто ў шпітальную чытальную залу, а хто проста пасядзець каля стала маладзенькіх медсясцёр — і ў палаце станавілася ціха, змрочна, а потым цёмна, менавіта тады думкі моцна апаноўвалі Аляксея і каталі яго душу, нібы скрэблі яе сваімі кіпцюрамі звераватыя кошкі.

Гэта пачалося даволі даўно, і так было пазаўчора, і ўчора, і вось зараз...

Аляксей нікому не прызнаваўся пра свае пакуты. Але ад персаналу шпіталя нішто не заставалася незаўважаным. Толькі з-за тлуму-гора ў сваіх вачах Аляксей не мог убачыць, што медыкі адно робяць выгляд абыякавасці, хоць добра адчуваюць яго боль душы, яго стан.

А вось начальнік шпіталя, грузны, ссівелы стары палкоўнік з прыязным, такім харошым тварам, Дзяніс Мацвеевіч ніяк не мог схаваць ад Аляксея сваіх пачуццяў...

Яго набліжэнне — абход палат — Аляксей адразу пазнаваў, усёй сваёй істотай адчуваў, як цяжкая хада начальніка шпіталя запавольвалася па меры таго, як ён падыходзіў да дзвярэй палаты Аляксея, яго старыя ногі нібы пачыналі чапляцца адна за адну.

Дзяніс Мацвеевіч, такі жаданы Аляксею, паціху заходзіў, няспешна апускаўся на крэсла, выдыхаў з грудзей паветра, нібы яму давялося ісці да ложка Аляксея за некалькі кіламетраў, і, не тоячы ў голасе таго, што было ў яго на сэрцы, пытаў:

— Ну што, Федарчук, будзем рабіць? Чаму не ясі? Што яшчэ надумаў?..

Аляксей моўчкі адварочваўся да сцяны і сціскаў зубы. Слёз не было.

Доўга-такі пасядзеўшы каля Аляксея і не пачуўшы ад яго ні слова, Дзяніс Мацвеевіч, натужна сапучы, паднімаўся з крэсла і нібы вось-вось гатовы паваліцца ад нейкага нябачнага, але вялікага цяжару, тупаў з палаты, а Аляксею рабілася яшчэ горш, бо з сардэчным Дзянісам Мацвеевічам кудысьці адыходзіла спадзяванка-надзея, што вось прыйдзе Дзяніс Мацвеевіч, нешта скажа такое, што адразу развее Аляксееў боль-тугу і бязмежны адчай. Але Дзяніс Мацвеевіч знікаў, не прынёсшы Аляксею ні палёгкі, ні хаця б надзеі на яе, а злая кошка яшчэ глыбей запускала кіпцюры ў яго і без таго скрываўленае горам сэрца.

Аляксею ішоў дзевятнаццаты год. Гэта тая залатая пара жыцця чалавека, калі ўся істота яго распускаецца як прыгожая кветка, і ў ёй чароўнай музыкай гучыць радасць маладосці. Так бывае ў пару юнацтва ў кожнага, толькі не ў Аляксея...

Замест Дзяніса Мацвеевіча ў палату ўплывала Піліпаўна, несучы алюмініевы паднос з міскай кашы і кавалкам мяса, хлеб, чай, састаўляла ўсё на тумбачку ля Аляксеевага ложка, сядала на крэсла і прасіла:

— Ну, паеш, сыночак... унучак мой, пашкадуй мяне, старую. Мне так цяжка было несці ўсё гэта з кухні. Паеш, родненькі, усё ж такое цёпленькае, смачнае... Ты паправішся, і ўсё будзе добра. Вось паглядзіш — успомніш мяне, старую — усё будзе добра. Цяпер такіх гаротных, як ты, шмат... Шмат бяды вайна нарабіла людзям. У цябе ж няма толькі ножак, а што рабіць тым, хто застаўся на ўсё жыццё сляпым? А паглядзі, вунь Ваня Слесарэнка... у яго не стала і правай рукі па плячо, і твар увесь парваны асколкамі, а замест вачэй — пустыя вачніцы... А ён вясёлы, песні вунь як спявае! А ці не чуеш ты, як на гармоніку грае Васільеў, Пеця наш, а ў яго ж таксама ножак няма, як і ў цябе, дзіцятка, толькі левая куксачка крыху даўжэйшая за правую...

Піліпаўна нешта яшчэ лапатала, але Аляксей нічога не чуў. Ён быў заняты сваім пякельным горам. Не заўважаў, калі выносілі ад яго некранутую ежу.

...Сабраўшы медперсанал шпіталя, Дзяніс Мацвеевіч, папыхкаўшы папяроскай і старанна затушыўшы яе ў попельніцы, прамовіў глуха:

— Ну, што будзем рабіць з гэтым Федарчуком? Ну, прападзе ж хлопец!..

Перад старым палкоўнікам медслужбы сядзелі бывалыя людзі. А тут такі выпадак, які ставіў гэтых асаў медслужбы проста ў тупік — танкіст Аляксей Федарчук, пасля таго, як загаілася абгарэлае цела, заўважыўшы, што страціў абедзве нагі, не хоча жыць.

...Спачатку Аляксею мроілася, што ўсё, што ён бачыць і адчувае пасля ранення, пасля таго, як сябры-танкісты выцягнулі яго, абгарэлага, з трыццацьчацвёркі,— усё гэта нішто іншае, як страшны, пачварны сон. Ён, Аляксей Федарчук, мусіць моцна заснуў пасля добрага абеду, атрыманага ў палкавога кухара, і таму, мабыць, яму сняцца гэтыя нечалавечыя пакуты з абгарэлымі рукамі, якія, нарэшце, зарубцаваліся-зажылі і цяпер амаль не баляць, калі ляжаць зусім нерухома, і тое, што медыкі шпіталя ды і сябры па палаце хутчэй за ўсё сваімі позіркамі гаварылі, што ў яго не стала абедзвюх ног... Кожную раніцу, прачнуўшыся, ён перш за ўсё ляпаў сябе па баку рукой і ўсё ніжэй і ніжэй — там, дзе павінны быць ногі... Але ног не было!.. Суконная коўдра неяк страшна абрывалася адразу ўніз, і калі Аляксей націскаў пальцамі рук там, унізе... каб адшукаць ногі, то там, дзе павінны былі быць ногі, станавілася балюча, бо раны яшчэ не зажылі...

Аляксей ніяк не мог уцяміць, што гэта — рэальнасць!.. Ён быў шчыра перакананы, што гэта пачварна-страшны сон. І горача верыў, што сон пройдзе... Не вечна ж яму прачягвацца. Аляксей, канечне, хутка прачнецца, сон страсецца, як ліпкі пясок з валасоў, і Федарчук устане з ложка, апране сваю танкісцкую форму і пойдзе да палкавога кухара, добра пад'есць і спешна пабяжыць у строй баявых сяброў.

Але сон чамусьці не праходзіў. Мукі ранення сціхалі, і пачыналіся ранішнія абходы ваенурача, прыём лякарстваў, уколы, цяганне Аляксея на каталцы ў перавязачную, дзе яго чакала пякельна-балючая працэдура — адрыванне прысохлай марлі, набрынялай крывёю. Але вось нарэшце катаванне-перавязка закончана, невыносны боль застаўся ззаду. Хаця... праз дзеньдва — зноў гэта перавязка.

І паступова да Аляксея прыйшла думка, што тое, што робіцца з ім, не сон, а жывая рэальнасць. Так, рэальнасць, што ён быў у жорсткім баі і варожы снарад трапіў у яго танк, у якім Аляксей ледзь не згарэў. Сябры-танкісты выцягнулі яго паўжывога, і калі яны адпаўзлі, танк узарваўся. Ужо санітары, знімаючы з яго рэшткі адзення, заўважылі шматкі ног, якія трымаліся хіба толькі на жылах.

Потым быў шпіталь, пераліванне крыві... агонь-полымя ў мазгах... Яму здалося, што ён зноў у палаючым танку... Але гэта было дзеянне наркозу, пасля чаго ён страціў прытомнасць. Гэта раўназначна смерці... наркоз гэты.

...І вось цяпер, калі прыйшло рэальнае ўсведамленне таго, што адбылося з ім, Аляксеем, у душы яго паступова стала сяліцца вялікая крыўда. Ну, чаму менавіта яму, Аляксею Федарчуку, у якога немцы спалілі маці і дзвюх сястрычак, бацька загінуў недзе пад Ленінградам, а адзіная яго надзея, любоў і вера медсястра Ніна была забіта, калі выцягвала з бою параненага, і такім чынам у яго не засталося на ўсім белым свеце ніводнага роднага чалавека, і менавіта яму яшчэ трэба стаць вось і зусім бязногім. Лёс, жыццё, чаму ж вы такія бязлітасныя бываеце да аднаго чалавека, так шчодра адмераўшы яму столькі гора, якога, здавалася, хапіла б і на дзесяцярых? Ну, як пасля такой несправядлівасці жыць? Так, канечне, не варта жыць!..

Во! Ён быў у свае невялікія гады не такім ужо хлюпікам, яго таварышы-танкісты ведалі Федарчука як валявога, мужнага камандзіра танка, які кідаў сваю машыну на дзот ворага, на артылерыйскія гнёзды фашыстаў. Трэба было мець зайздросную мужнасць, каб на вялікай хуткасці ўварвацца ў самае логава праціўніка і, дакладна манеўруючы, несці смерць ворагу.

У чым жа выражаўся пратэст свайму лёсу яго, Федарчука, які стаў цяпер амаль бездапаможным? Ды ў самім нежаданні жыць! Так, ён не будзе жыць, калі жыццё такое бязлітаснае да яго! Ён пойдзе з гэтага жыцця! А навошта жыць, калі не засталося нікога, для каго варта жыць? Жыць для таго, каб выклікаць жаль і спагаду ў людзей, як тыя калекі, што поўзалі недзе да вайны па базарнай плошчы, прасілі ў «братоў-сястрычак» капеечку?.. Не! Лепш пайсці туды, у прыроду, і зліцца з ёю. Аляксей добра ведаў, што наўмысна пайсці з жыцця справа трохі лягчэйшая, чым кідаць свой танк у логава ворага або на артылерыйскія гнёзды. Хаця гэтая нялітрая справа не такая ўжо і лёгкая, калі ты, уласна кажучы, нікому не зрабіў нічога злога, ды яшчэ і маеш сякія-такія заслугі перад людзьмі... Надумаццa пайсці з жыцця — гэта толькі намер і больш нічога. А як практычна зрабіць гэта?

Каля ложка, на якім ляжаў Аляксей, быў чорны ўключальнік-разетка. 220 вольт хопіць для чалавека, вырашыў Федарчук і некалькі начэй патраціў, каб аслабелымі рукамі скруціць, зламаць гэты ўключальнік. Хапіўся за правады... але ўдару не адчуў: ток нехта адключыў.

(Заканчэнне на 36-й стар.)

Старыя людзі ў ваколіцах пасёлка Глуша, што на Бабруйшчыне, і сёння помняць «доктара Адамовіча». Якія былі магчымасці ў сельскага ўрача ў тыя даваенныя і пасляваенныя бедныя гады?! Але Міхаіл Іосіфавіч Адамовіч меў аўтарытэт чалавека, які вышэй за ўсё ставіць клопат пра здароўе людзей. Да таго ж быў у яго і талент «ад бога», і вялікі вопыт ваеннага хірурга. Ён і памёр без пары, бо, заседзеўшыся дацямна на нейкім абавязковым раённым сходзе, потым, сам хворы на сэрца, праз усю ноч ішоў пешшу трыццаць вёрст дамоў — спяшаўся: раніцай жа прыём хворых! Памяць аб ім падтрымлівалася і аўтарытэтам яго жонкі, «партызанскай мамы», «аптэкаркі» Ганны Мітрафанаўны, якая мела дар збіраць вакол сябе людзей, што, аднойчы пазнаёміўшыся з ёю, станавіліся яе сябрамі на ўсё жыццё, і шырокай вядомасцю яго старэйшага сына Яўгена, загадчыка касцёватуберкулёзнага аддзялення Магілёўскай абласной клінікі. Адзіны ў сям'і філолаг Алесь у гады партызанства добра зведаў абсяг папулярнасці свайго бацькі — здаралася за вёрст сорак ад «сцякольнага завода» (так называлі тады Глушу, дзе знаходзіўся шклозавод) сустракаць спагадлівых цётак, якія, дачуўшыся, што сярод «хлопцаў» знаходзіцца і «доктараў меншанькі», ахкалі: «Гэта ж і доктаравы таксама ў лесе!»

і партызанку, нялёгкія пасляваенныя гады. Трэба так, як ён, з малых гадоў цягнуцца да высокага і духоўнага: сямікласнік Саша «праглынуў» «Жыццё Кліма Самгіна» М. Горкага, «Вайну і мір» Л. Талстога, артыкулы «неистового Виссариона». Вядома, як і любому ў яго ўзросце, яму хацелася хутчэй дапасці да дарослага жыцця. Але такая ранняя цікаўнасць да сур'ёзнай літаратуры была выклікана больш за ўсё тым, што хлопчык адчуваў магутнае прыцягненне свяціла па імені Мастацтва, якое выпраменьвае цяпло, дабрату і кідае ў наваколле пратуберанцы інтэлекту.

М. Рэрых у такім выпадку раіў: старайцеся хадзіць па «высокай дарозе». Факты і ідэі можна накопліваць бясконца, але самі па сабе яны не здольны згрупавацца ў сістэму. Неабходна правільна выбраць напрамак. Колькі таленавітых людзей не знаходзіць сабе прымянення толькі таму, што іх здольнасці накіраваны раўнацэнна ва ўсе бакі. Гэта ведаў — ведае! — А. Адамовіч. Ведае: тое, што наканавана яму сказаць, ніхто іншы не скажа. Яго «плацдарм» творчасці яму самому і ўтрымліваць. А ён не толькі ўтрымлівае, але і пастаянна пашырае кола сваіх творчых інтарэсаў, не проста бярэ тое, што само плыве ў рукі, а кідаецца насустрач «свайму» матэрыялу, спяшае адважна туды, дзе вырашаюцца лёсы многіх і многіх, дзе завязваюцца «вузельчыкі» сусветнай гісторыі.

У кітайскай казцы «Вялікі звон» расказваецца пра майстра, які павінен быў выліць звон, каб папярэджваць суайчыннікаў аб блізкай небяспецы.



# Нехта павінен быць першым...

**ШТРЫХІ ДА ТВОРЧАГА ПАРТРЭТА АЛЕСЯ АДАМОВІЧА**

«Добра Адамовічу,— пазайздросціць іншы літаратар,— яму вунь з кім пашэнціла быць побач! Ды яму варта было толькі добрасумленна запісаць усё, што перажылі яго бацькі, і атрымаўся б выдатны мастацкі твор!» Потым даводзілася чуць амаль тое ж самае, толькі з іншай нагоды: маўляў, зноў унікальны жыццёвы матэрыял сам прыплыў Адамовічу ў рукі — чалавек узяў з сабой магнітафон і аб'ехаў беларускія Хатыні, запісваючы апавяданні людзей з «вогненных вёсак»!

Так, А. Адамовічу пашэнціла! Але пашэнціла і А. Пушкіну, у якога была няня Арына Радзівонаўна, і М. Горкаму, які жыў у «доме Кашырыных», і Д. Фурманаву, які ваяваў разам з Чапаевым, і Я. Коласу, у якога бацька быў «ляснік Міхал», і К. Чорнаму, у родных Цімкавічах якога што ні чалавек, то гатовы літаратурны тып!

Вядома, шчаслівы той, хто ў сваім жыцці сустрэў цікавых людзей. Але не менш шчаслівы і той, хто, як казаў Чорны, «вочы мае». Хто мае ад нараджэння божы дар бачыць у звыклым нязвыклае, у распаўсюджаным факце — глыбіні ведаў аб чалавеку.

Часам ствараецца ўражанне, што варта А. Адамовічу толькі закрануць сваім пяром тую ці іншую жыццёвую з'яву, як яна адразу пачынае зззяць усімі гранямі і прываблівацьда сябе шырокую грамадскасць.

Кажуць, паплечнікі Ермака Цімафеевіча былі вельмі здзіўлены, калі ўбачылі, што туземцы адбіваюцца ад іх залатымі самародкамі.

А. Адамовіч не з тых, хто раскідваецца «самародкамі». Але каб ведаць сапраўдную цану матэрыялу, трэба па меншай меры прайсці тую жыццёвую школу, якую прайшоў ён: начныя трывогі канца 30-х гадоў, падполле

Двойчы выліваў ён гэты звон з самых высакародных металаў, але звон нязменна трэскаўся і гучаў глуха. У адчаі ён кінуўся ў расплаўлены метал, і выліты з гэтага металу звон чуцён ад краю да краю.

У пачатку 50-х гадоў А. Адамовіч з усёй уласцівай яму страсцю байца кідаецца ў крытыку. Але не таму, што шукае поле прымянення сваім сілам або жадае самавыразіцца і самасцвердзіцца. Пазней ён будзе іранізаваць над такой крытыкай, якая гучна заяўляе: «Мастацкая літаратура? Ах, так, мастацкая — няхай існуе, але нас гэта не датычыць. Для нас яна толькі зачэпка, прычына выказацца...» Ён адчувае: вельмі шмат, калі не ўсё, вырашаецца іменна ў тэарэтычнай барацьбе з устарэлымі поглядамі на жыццё і літаратуру, якія, як сказаў аднойчы І. Мележ, заўсёды ляжалі бярвеннямі на шляху ўсяго новага. «І літаратурная крытыка, магу засведчыць,— пісаў А. Адамовіч,— здольна стаць тваёй страсцю, але пакуль ты верыш, то гэта не «бура ў шклянцы вады», а сапраўды грамадская справа».

Аб тым, што пісьменнік зможа выканаць сваю ролю толькі тады, калі ён стане грамадзянінам, ведаюць усе. А вось пра крытыка-грамадзяніна гавораць не часта. Крытыка шмат хто ўяўляе папулярызатарам, пасрэднікам паміж літаратурай і чытачом, прыдзірлівым кантралёрам і інш. Думаючы пра Адамовіча-крытыка, разумееш: крытыка неабходна! Нехта ж павінен першым публічна заявіць, што з'яўляецца сапраўднай мастацкай каштоўнасцю, а што толькі больш ці менш майстэрскай падробкай, што мае прамыя адносіны да прынцыповай і зацікаўленай крытыкі, а што сведчыць толькі аб эстэтычнай глухаце або кан'юнктуршчыне. А для гэтага патрабуецца не толькі асабістая адвага, але і бескарыснае служэнне літаратуры, сумленнасць і ўлюбёнасць у літаратуру. Толькі такі крытык мае права быць патрабавальным і строгім, а часам нават жорсткім. Толькі такі крытык выклікае павагу. Вось назвы некаторых яго артыкулаў і кніг таго перыяду: «Шлях да майстэрства», «Культура творчасці», «Вывучаць літаратурную спадчыну», «Стыль і творчы напрамак», «Багацце творчых індывідуальнасцей», «Грамадскае значэнне літаратуры» — у іх заяўлена не толькі тэма, але і сам пафас крытычнай дзейнасці А. Адамовіча. Яму, прынамсі, не трэба сёння папраўляць, паляпшаць самога сябе, баяцца сваіх ранейшых прац, ацэнак, поглядаў.

Потым прыйшла пара прозы А. Адамовіча. Вядома, няма нічога страшнага ў тым, калі крытык грашыць прозай. Але ён вельмі і вельмі рызыкуе сваёй крытычнай рэпутацыяй. Гэта ў тым выпадку, калі ён можа і не пісаць нешта «мастацкае». А. Адамовіч не мог не аддаць даніну памяці сваім

сябрам па зброі. Дзеля гэтага ён мог нават пайсці на парушэнне тых творчых правіл, якія сам сцвярджаў: калізія ў раманах «Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой» хутчэй лірычная, чым драматычная. Гэта канфлікт свядомасці юнага падпольшчыка і партызана Толі Корзуна, рамантычныя ўяўленні якога аб свеце людзей сутыкнуліся з жорсткай, крывавай праўдай вайны не на жыццё, а на смерць.

Вельмі шмат убачыў «дзіцячымі» вачамі аўтар гэтых раманаў, якія ўражваюць перш за ўсё багаццем перажытага і ўзнятага з дапамогай творчага ўяўлення на паверхню свядомасці. А самае галоўнае: ён убачыў, што вайна — агульнанародная справа, і ў ёй удзельнічалі ўсе, мужчыны і жанчыны, старыя і дзеці, нягледзячы на тое, мелі яны зброю ў руках ці толькі пасіўна супраціўляліся загадам захопнікаў, ішлі ў бой ці толькі кармілі знясіленых палонных хлебам.

Іншы можа нават пазайздросціць той шчодрасці, з якой раманіст дзяліўся сваім жыццёвым вопытам. Але А. Адамовіч верыў у тое, што пісьменнік з цягам часу зноў запоўніць рэзервуары творчай свядомасці, калі, зразумела, ён жыве трывогамі свайго веку. Раманы А. Адамовіча адкрылі цэлы напрамак у ваеннай прозе, які абагульнена можна абазначыць як імкненне выявіць народны погляд на вайну. Потым былі ваенныя трылогіі І. Чыгрынава, аповесці Я. Сіпакова, В. Казько, апавяданні М. Стральцова, В. Адамчыка, А. Кудраўца.

Паралельна ішла літаратуразнаўчая праца А. Адамовіча. Тут таксама, як і ў крыніцы, дзе ні капні, ляжалі скарбы. Да чытача вярнуліся імёны многіх і многіх пісьменнікаў. А. Адамовіч не мог застацца ўбаку ад агульнага радаснага імкнення адкрываць новыя мацерыкі літаратуры, і яго літаратуразнаўчыя «апісанні» гэтых мацерыкоў вылучаюцца сярод іншых яркасцю і пафатой убачанай карціны, уменнем захаваць свежасць першага ўражання і расставіць акцэнты на самым галоўным. У выніку з'явілася даследаванне «Беларускі раман», якому, у адрозненне ад многіх літаратуразнаўчых адназдзенак, суджана было доўгае жыццё.

Абараніўшы ў 34 гады доктарскую дысертацыю, а гэта сярод гуманітарыяў досыць рэдкая з'ява, А. Адамовіч раптам страчвае цікавасць да літаратурнай навукі і як бы аддае яе ў «арэнду» іншым, тым больш што вырасла цэлая плеяда навукоўцаў новага гатунку і гарту. Наступны яго крок быў нечаканым для многіх. Самы час, здаецца, спыніцца на тым парозе навуковай славы, на які ўзышоў. А ён кінуў-рынуў усё і стаў слухачом кінасцэнарных курсаў у Маскве, жывучы з сям'ёй на студэнцкую стыпендыю. Цвёрдых жа гарантый хуткага поспеху ніхто яму не даваў. Пастаўленыя па яго сцэнарыях фільмы толькі падкрэслілі невычэрпнасць і сілу першакрыніц — раманаў пісьменніка. У кіно, дзе ўсе ўсё ведаюць, што трэба і як трэба, на сцэнарыста пазіраюць, як на вучня, які толькі падносіць «балванкі» да кінафікатарскага станка.

Што ўсё ж прывабіла А. Адамовіча да кіно? Яшчэ Я. Купала марыў «грамадой мільённай з светам гаварыць». А ў кіно ёсць такая магчымасць.

І вось фільм Э. Клімава «Ідзі і глядзі». Газета «Правда» пісала, што яшчэ не было такога фільма, які абрынуў бы на гледача «такі шквал праўды, бязлітаснасці, болю, як тут». Але сэнс фільма не толькі ў тым, каб паказаць, што перажылі людзі беларускай зямлі ў часы вайны, выклікаць у душы гледача пачуццё жаху, агіды, жалю, а ў тым, каб абудзіць у ёй пачуццё абавязку ў адносінах да мільёнаў замучаных, спаленых, расстраляных, страшнай цаной якіх аплачана наша сённяшняе жыццё. Рэакцыя гледачоў амаль аднолькавая і прадугледжана пастаноўшчыкамі: наіўнасць няўклюднага птушаняці-падлетка Флёры Гайшуна, які лічыць, што варта яму прыйсці ў лес, як ён аўтаматычна становіцца партызанам, выклікае ўсмешку, усмешка хутка саступае месца слязам, калі чакаць і Флёру, і Глашу, і дзесяткаў безыменных замучаных людзей, а завяршаецца ўсё глыбокім, як бяздонне, маўчаннем уражанай убачаным залы. Так, сведчаць гісторыкі, моўчкі глядзелі ўдзельнікі Нюрнбергскага працэсу на ваенных злачынцаў, пасля таго як ім паказалі дакументальныя фільмы аб злачынствах фашыстаў на акупіраваных тэрыторыях. Глядзелі 5, 10, 15 хвілін... Чалавецтва асуджае вайну і яе падпальшчыкаў, і ў яго вачах — агіда, пагарда, нянавісць, абурэнне.

Цяжка сказаць, чыя заслуга ў тым, што фільм «атрымаўся», большая: сцэнарыста А. Адамовіча, які і на гэты раз выклаў усё, што ведаў пра вайну, пра «вогненныя вёскі», пра фашызм, ці мужнага і бязлітаснага да сябе рэжысёра Э. Клімава, які прымушае ўспомніць, у чым сэнс прафесіі кінарэжысёра, выяўлены ў свой час С. Эйзенштэйнам. Рэжысёру было нялёгка прайсці праз пекла вайны, няхай сабе і ўяўнае, і правесці праз яго мноства іншых людзей, у тым ліку і падлеткаў-акцёраў — гарэць у агні, бачыць раз'ятраныя твары карнікаў. Але і пісьменніку нялёгка было адным з першых выслухаць адну за адной дзесяткі гісторый людскіх трагедый, запісаць іх, апрацаваць гэты «вогненны» матэрыял, які абпальвае душу і сэрца. Ён змог гэта зрабіць, бо зразумеў, што гэта патрэбна не толькі яму аднаму, каб «запоўніць апусцелыя рэзервуары памяці», а патрэбна ўсім: і тым, хто ведаў вайну з самага жахлівага яе боку і чакаў, калі іх веданне спатрэбіцца людзям, і тым, хто цешыць сябе ілюзіямі выжыць, схавацца ў «індывідуальным бамбасховішчы».

Фільм «Ідзі і глядзі» ставіўся на працягу амаль дзесяці гадоў, а шлях да яго, да «Хатынскай аповесці» і аповесці «Карнікі», да дакументальных кніг «Я з вогненнай вёскі...» і «Блакадная кніга» доўжыўся дзесяцігоддзямі. Ужо ў канцы 60-х гадоў А. Адамовіч, з уласцівай яму пранікнёнасцю ў глыбінны сэнс з'яў і тэндэнцый, адчуў, што яго часовы адыход ад літаратурнай навукі нікому не паслужыў на карысць — ні яму самому, ні літаратуры. Адбывалася ўсё большае «ахаладжэнне» ў адносінах навуковай тэорыі і жывой пісьменніцкай практыкі. Навука як бы адчула смак да самастойнага існавання, і сёй-той ужо было вырашыў, што не навука служыць літаратуры, а літаратура навуцы. Сапраўдныя літаратары таксама коса пазіралі на тое, чым займаюцца навукоўцы: вядома, «чыстая» навука патрэбна, але навошта забываць на жывы літаратурны працэс, які вымагае своечасовага асэнсавання.

А. Адамовіч высоўвае ў гэты перыяд ідэю «паралельнай» крытыкі, «паралельнага» літаратуразнаўства і сам жа пачынае працу ў гэтым напрамку. Выходзяць у свет яго кнігі «Маштабнасць прозы», «Браму скарбаў тваіх адчыняю», «Здалёк і зблізку», «Аб сучаснай ваеннай прозе». Гэта быў новы паварот у поглядзе на задачы, якія стаялі перад беларускай літаратурай у кантэксце праблем, пастаўленых часам. Не, не толькі багацце творчых індывідуальнасцей, шматстайнасць пісьменніцкіх падыходаў да рэчаіснасці (гэта было пафасам крытычных выступленняў А. Адамовіча ў 50—60-я гады), але і раўненне на лепшыя дасягненні літаратурнай думкі суседніх народаў, неабходнасць выйсці на скрыжаванне, «дзе сустракаюцца Пушкін і Байран, Гётэ і Міцкевіч, Талстой і Дастаеўскі», паглядзець на людзей і сябе паказаць — вось што з'яўляецца перадумовай творчага росту і пастаўлення нацыянальнай літаратуры, калі яна хоча быць цікавай мільённаму чытачу. Нельга задавальняцца дасягнутым, трэба ісці наперад! Сярод людзей лепш і самога сябе бачыш, і шляхі, якія вымалёўваюцца ў перспектыве. А гэтага бачання збоку і здалёк, на думку А. Адамовіча, вельмі не стае сучаснай беларускай літаратуры. Вось чаму ён зноў і зноў нагадвае сучаснікам урокі класікі, прыўздымае «столь» літаратурных патрабаванняў і імкнецца ўстанавіць сапраўдныя крытэрыі мастацкасці. Ён і проста падае свой голас у абарону пісьменнікаў, якія працуюць сур'ёзна і напружана, атрымліваючы за гэта больш гузакоў, чым узнагарод (артыкулы «Вяртанне «наперад», «На бестэрміновай перадавой», кніга «Вайна і вёска ў сучаснай літаратуры»).

Так, літаратура і літаратурная навука не тая сфера, дзе аднойчы дасягнуты ўзровень з'яўляецца гарантыяй далейшага поступу. Тут спыняцца нельга, бо, як казаў К. Чорны, «пойдзеш назад і назад».

І зноў Адамовічава пранікнёнасць, цвярозасць у поглядзе на літаратуру, аптымізм і гумар вельмі спатрэбіліся, каб вярнуць раўнавагу, якую страцілі літаратурныя «шалі», каб нагадаць сваім сябрам па пяру, што ёсць высокія крытэрыі народнасці і мастацкасці, праўдзівасці і шчырасці і што нельга імі пагарджаць беспакарана. Слова крытыка павінна быць падтрымана справай празаіка, мастака, публіцыста. Тое, што зрабіў А. Адамовіч разам з сааўтарамі Я. Брылём, У. Калеснікам, Д. Граніным, можна смела назваць літаратурным подзвігам у імя будучыні. У многіх водгуках на гэтыя калектыўныя кнігі так і гаварылася, што яны ўстанаўліваюць новую меру жыццёвай праўды ў літаратуры, што пісаць пасля апавяданняў людзей з «вогненных вёсак» і «блакаднікаў» так, як пісалі раней, кашчунства.

У «Хатынскай аповесці» аўтар глядзіць на вайну і сучасныя праблемы міру вачамі Флёры Гайшуна і бачыць вельмі шмат. І хоць сам А. Адамовіч лічыць гэты твор сваім «паражэннем», многія старонкі аповесці сведчаць, што мастацкае ўяўленне пісьменніка не ўступае па сіле і пераканаўчасці дакументальным апавяданням відавочцаў. І ўсё ж погляд героя на вайну — погляд традыцыйнага ў літаратуры інтэлігента, які спачувае народнай масе, якому баліць і які імкнецца сабой ахвяраваць, толькі б «думку вырашыць». У «Карніках» гэты пранізлівы погляд бачыць наскрозь усе матывы і намеры злачынцаў і тых, хто імі становіцца, і ў ім не толькі агіда і пагарда, нянавісць і абурэнне, але і свіфтаўскі сарказм над зграяй пасрэдных чалавечкаў-гуінгмаў, на чале з малпай-фюрэрам, якая лезе ўверх па дрэве, не падазраючы, што адкрываецца яе голы зад. За пісьменнікам у гэтым творы — сам беларускі край, які столькі перажыў і перабачыў за сваю гісторыю, што мае права на сваё важкае слова на форуме народаў.

І зноў, як пасля кожнага наступнага твора А. Адамовіча, узнікае пытанне, якое некалі ён сам паставіў перад літаратурай: а што ж там, далей? Ствараецца ўражанне вычарпанасці, завершанасці цэлага перыяду ўнутранай працы душы. Не ведаю, ці ёсць новыя творчыя планы ў пісьменніка, вартыя яго пяра, але, грунтуючыся на зробленым ім за больш чым трыццаць гадоў літаратурнай дзейнасці, можна сказаць, што ён здолее сябе падрыхтаваць да працы, якая стане вяхой не толькі ў яго творчасці, маральна забяспечыць свой новы крок наперад. Гарантыя таму — яго няўрымслівае імкненне знайсці адказы на пытанні, пастаўленыя грозным векам, уважлівае стаўленне да павеваў новага ў жыцці сучаснага чалавецтва, усведамленне пісьменніцкай адказнасці перад народам.

Творчасць А. Адамовіча настолькі багатая і шматстайная, што ўзнікае мноства праблем, на якія немагчыма адказаць аднаму чалавеку. Але, пакуль мы вырашаем гэтыя праблемы, пісьменнік знаходзіцца ўжо недзе далёка наперадзе, дзе, несумненна, адбываецца самае важнае ў жыцці сучасніка, дзе завязваецца чарговы тугі «вузел» сусветнай гісторыі. Прынамсі, аб гэтым сведчаць апошнія публікацыі А. Адамовіча ў газеце «Правда» (артыкул «Логика ядзерной эры») і ў «Литературной газете» (артыкул «На зямлі — жыць!»). Давайце прачытаем уважліва гэтыя артыкулы: сказанае Алесем Адамовічам тычыцца і нас з вамі!

**Міхась ТЫЧЫНА.**



# У імя беларускага мастацтва

## Уладзіміру НЯФЁДУ — 70

Гэта было неўзабаве пасля вайны. На адной з пустак, якіх нямала было ў зруйнаваным фашыстамі Мінску, падлеткі ўсчалі бойку. Юнак, што праходзіў міма, заўважыў: бой ідзе няроўны — некалькі хлапчукоў навaліліся на аднаго. Вымушаны быў умяшацца, разагнаць раз'ятраных байцоў і адвесці «пацярпеўшага» дадому.

Прайшлі гады. Даўно забыўся на свае дзіцячыя прыгоды той хлапчук, скончыў школу і паступіў у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. І нечакана ў адным з выкладчыкаў інстытута пазнаў свайго выратавальніка. Сёння хлопчык гэты — буйнейшы майстар беларускага тэатра і кіно, народны артыст СССР Віктар Паўлавіч Тарасаў, а малады чалавек саракавых гадоў адзначае свой сямідзесяцігадовы юбілей. Гэта загадчык сектара тэатра Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, «бацька» беларускага тэатразнаўства (а менавіта так называюць яго вучні, супрацоўнікі і паслядоўнікі), член-карэспандэнт АН БССР, доктар мастацтвазнаўства, прафесар, аўтар 11 манаграфій, член Саюза пісьменнікаў БССР Уладзімір Іванавіч Няфёд, які амаль чвэрць стагоддзя быў членам рэдакцыйнай калегіі часопіса «Беларусь».

Далёкі пасляваенны эпізод цікавы не сам па сабе, і нават не ў якасці ілюстрацыі да таго, якія сюрпрызы і нечаканыя супадзенні можа паднесці жыццё. Гэты выпадак яскрава і дакладна характарызуе жыццёвую і навукова-творчую пазіцыю Уладзіміра Няфёда — рашуча выступаць у абарону ўсяго, што дорага і блізка яму, і не менш рашуча змагацца з чужымі нашаму жыццю і мастацтву з'явамі.

Цяжка пераацаніць ролю вучонага-тэатразнаўца ў тэатральным мастацтве — складаным, шматгранным, часам супярэчлівым працэсе, дзе непарыўна звязаны жывая сцэнічная практыка з глыбокай тэорыяй, мінулае — з сучаснасцю і будучыняй. Тэатразнаўца павінен быць гісторыкам тэатра і тэарэтыкам-практыкам, біёграфам славутых акцёраў і рэжысёраў і летапісцам сённяшніх падзей сцэны. Менавіта такім тэатразнаўцам з'яўляецца У. І. Няфёд.

Па-рознаму людзі выбіраюць прафесію, прыходзяць да галоўнай справы жыцця. У некаторых усё ясна і проста: школа, інстытут, работа. Шлях Уладзіміра Няфёда да навукова-даследчай дзейнасці быў больш складаным. У невялікім рабочым гарадку Шахты Растоўскай вобласці, дзе прайшло яго маленства і юнацтва, у 20-я гады наўрад ці чулі пра такую прафесію — тэатразнаўца. Закончыўшы рабфак, хлопец спазнаў цяжкую працу шахцёра. Потым спрабаваў працаваць музыкантам, настаўнікам, журналістам, два гады вучыўся на філасофскім факультэце Маскоўскага дзяржаўнага інстытута гісторыі, філасофіі і літаратуры імя М. Г. Чарнышэўскага, аднак ужо тады марыў пра тэатр. І як толькі з'явілася магчымасць, перайшоў на факультэт тэатразнаўства, які скончыў перад вайной, у 1940 годзе. З таго часу ён назаўсёды звязаў свой лёс з Беларуссю, з беларускім тэатрам. У гады Вялікай Айчыннай вайны пасля канчатковага прыгавору ўрачоў — па стану здароўя фронт катэгарычна забаронены — выконваў даручэнні партыі і ўрада: у імя будучыні беларускай культуры вёў работу па пошуку і захаванні творчых кадраў і па аднаўленні дзейнасці тэатраў рэспублікі.

Эстэтычны ідэал для Уладзіміра Няфёда — тэатр псіхалагічнага рэалізму мхатаўскай школы. Тэатр, у якім рэжысёр «памірае» ў акцёры, тэатр, які адлюстроўвае жыццё ва ўсёй шматграннасці яго сацыяльных, псіхалагічных і бытавых з'яў. Лепшыя старонкі яго кніг прысвечаны акцёрам і рэжысёрам, якія даследавалі «жыццё чалавечага духу», адыгралі вялікую ролю ў фарміраванні і развіцці фундаментальных традыцый айчыннай тэатральнай культуры, сцвярджалі на беларускай сцэне рэалізм прастаты, даходлівасці, шчырасці і глыбіні пачуццяў,— Я. Міровічу, І. Галубку, У. Крыловічу, У. Уладамірскаму, П. Малчанаву, Б. Платонаву, Г. Глебаву, А. Ільінскаму...

Працуючы над кнігамі, У. Няфёд разам з тым вось ужо на працягу 45 гадоў з'яўляецца актыўным крытыкам-рэцэнзентам. Самыя вострыя, актуальныя, палемічныя артыкулы беларускай тэатральнай крытыкі выйшлі з-пад яго пяра. Ён заўсёды непрымірымы да тых, хто, хаваючыся за наватарскімі пошукамі, спрабуе працягнуць на беларускую сцэну мастацтва, з'арыентаванае на гіпертрафіраваную ўмоўнасць, вонкавы бляск, ігру, маскараднасць.

У апошнія гады галоўнай справай жыцця Уладзіміра Іванавіча стала выданне трохтомнай «Гісторыі беларускага тэатра», галоўным рэдактарам якой ён з'яўляецца. Па ўсебаковасці аналізу тэатральных працэсаў у Беларусі ад вытокаў да сённяшніх дзён гэта калектыўная праца не мае аналагаў. Само выданне трохтомніка сведчыць аб сталасці тэатразнаўчай школы рэспублікі, стваральнікам якой па сутнасці быў У. І. Няфёд, які і цяпер знаходзіцца на перадавых пазіцыях беларускага мастацтвазнаўства.

**Віктар НАВУМЕНКА.**



# Патрабавальнасць таленту

## Да 80-годдзя Р. МЛОДАК

Шмат разоў мне даводзілася прысутнічаць на выпускных студэнцкіх спектаклях і канцэртах, і амаль кожны раз я задаваў сабе пытанне: чаму толькі нямногія з гэтых маладых, прыгожых, таленавітых юнакоў і дзяўчат становяцца сапраўднымі артыстамі, чый талент прыносіць задавальненне і радасць людзям?

На выпускным спектаклі ў Віцебскім музычным тэхнікуме ў тых далёкіх дваццатых Рыта Млодак выконвала ролю Маргарыты ў оперы Ш. Гуно «Фауст». Нягледзячы на хваляванне, дзяўчына справілася з адказнай партыяй і атрымала пуцёўку на вялікую сцэну.

Але жыццё, як гэта нярэдка здараецца, збочыла на абходную сцяжынку. У 1928 годзе Рыта Млодак пераехала з мужам у Гомель. Новы горад, новыя сямейныя клопаты надоўга разлучылі яе з мастацтвам. Не кожны ў такіх абставінах знаходзіць у сабе сілы вырвацца з хатняга палону. Але Рыта не змагла змірыцца з роляй канарэйкі ў клетцы, якая спявае, каб пацешыць гасцей. Яна пачынае наведваць канцэрты, займаецца ў самадзейнасці, выступае на музычных вечарах. На адным з такіх вечароў яе пачула вядомая спявачка С. Загорская, якую ўразіў цудоўны, выдатна пастаўлены ад прыроды голас, незвычайнае пачуццё рытму маладой спявачкі. Сустрэча гэта крута змяніла жыццё Рыты. Загорская здолела пераканаць яе ў тым, што сапраўдным артыстам становіцца толькі той, хто не шкадуючы сіл працуе над сабой, нястомна ўдасканальвае сваё майстэрства, ніколі не задавальняецца дасягнутым. Талент, сказала яна, накладвае на чалавека нялёгкія абавязкі, ён патрабуе, вымагае пільнай увагі да сябе, карпатлівай, штодзённай працы.

Усё далейшае жыццё Рыты Веньямінаўны Млодак можна назваць служэннем таленту, вялікаму мастацтву. У 1930 годзе яна пераязджае ў Мінск і пачынае працаваць на радыё. Гэта былі надзвычай плённыя гады ў яе артыстычнай біяграфіі. У той час на радыё рабілі шмат оперных мантажоў і Рыта Млодак нязменна ўдзельнічала ў гэтых музычных перадачах, узбагачаючы свой рэпертуар арыямі з класічных опер, народнымі рускімі і беларускімі песнямі. Для павышэння вакальнай тэхнікі, пашырэння рэпертуару яна пачынае наведваць вакальны клас Вольгі Аляксандраўны Абрамовіч, а потым бярэ ўрокі ў саліста Вялікага тэатра Антона Пятровіча Баначыча. Настойліва працуючы разам з педагогам над партыямі з «Яўгенія Анегіна», «Пікавай дамы», «Кармэн» і іншых, маладая спявачка нават і не здагадвалася, што яна будзе падрыхтавана настолькі добра, што яе прымуць адразу ў склад вядучых салістаў Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета.

Дэбютам Рыты Млодак на беларускай сцэне была роля Домны Сабуравай у оперы Рымскага-Корсакава «Царская нявеста». Праз некаторы час, у тым жа 1933 годзе, яна выканала даўно жаданую ролю Тацціяны ў оперы Чайкоўскага «Яўгеній Анегін», якая стала яе любімай роляй на працягу многіх гадоў працы ў тэатры.

«Музыка Чайкоўскага,— гаварыла спявачка,— гэта для мяне вечная крыніца натхнення. Жаночыя вобразы кампазітара — Тацціяны, Лізы з «Пікавай дамы», Марыі з оперы «Мазепа», Аксаны з «Чаравічак» — блізкія і зразумелыя майму сэрцу».

За 25 гадоў работы на беларускай сцэне Рыта Веньямінаўна Млодак прынесла людзям нямала хвілін радаснага душэўнага хвалявання, эстэтычнага задавальнення. Чысты, прыгожы, вялікага дыяпазону голас, пераканаўчая манера выканання, здольнасць дакладна данесці задуму кампазітара заўсёды зачароўвалі слухачоў і прыносілі нязменны поспех спявачцы. Цудоўныя, рэалістычныя вобразы стварыла Рыта Млодак у класічным рэпертуары — операх «Прададзеная нявеста» Б. Сметаны, «Дэман» А. Рубінштэйна, «Кармэн» Ж. Бізэ і іншых. З поспехам выконвала яна ролі ў беларускім нацыянальным рэпертуары. На Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве ў 1940 годзе спявачка была занята ў спектаклі А. Туранкова «Кветка шчасця». «Правда» ў тыя дні пісала: «...цудоўна выканала партыю Надзейкі Р. Млодак. Тонка і выразна перадала яна глыбокі хвалюючы лірызм музычнага вобраза гераіні. Голас артысткі гучаў шырока, вольна і дакладна, асабліва ў арыях 2 і 3 актаў».

Працуючы на опернай сцэне, на ўсё жыццё захавала яна любоў да песні. Валодаючы вялікім музычным густам, спявачка заўсёды чуйна адгукалася на ўсё новае ў песеннай творчасці беларускіх кампазітараў. У яе выкананні на канцэртнай эстрадзе, па радыё часта гучалі песні М. Чуркіна, С. Палонскага, Н. Сакалоўскага, Р. Пукста, А. Багатырова, І. Любана, Д. Лукаса. «У мяне дзве музычныя стыхіі,— прызналася яна мне аднойчы,— опера і песня, раманс. У апошняй я нават мацней чую біццё сэрца кампазітара, яго задуму, любоў да ўсяго цудоўнага».

Праз усё жыццё пранесла народная артыстка БССР Рыта Веньямінаўна Млодак высокую патрабавальнасць да свайго таленту, памятаючы аб вялікай адказнасці перад народам.

**Браніслаў СМОЛЬСКІ.**



ТЭАТР

НАТАТКІ СА СПЕКТАКЛЯЎ ТЭАТРА-СТУДЫІ КІНААКЦЁРА

# «Мы імкнёмся да гарызонта...»

Гэты тэатр не такі, як усе. Сама назва — Тэатр-студыя кінаакцёра — першае таму сведчанне. Студыя. Значыцца, тут асталяваўся калектыў, які спалучае вучобу і творчую практыку, дзе выпрацоўваюць і ўвасабляюць на сцэне пэўныя творчыя прынцыпы, дзе шукаюць новыя сродкі сцэнічнай выразнасці... Студыя — у той жа час і тэатр. Значыцца, перыяд, так сказаць, пачаткоўства, вучобы членамі калектыву ўжо завершаны, можна і трэба выходзіць на сцэну — не вучэбную, а прафесійную... Але ж на тэатральную сцэну выходзяць акцёры КІНО, якія актыўна здымаюцца... Як бачыце, «спецыфіка» ў наяўнасці. Тэатр сапраўды «не такі», пачынаючы ўжо з назвы.

«Не такі» хаця б ужо таму, што задачы яго, творчыя і эстэтычныя, заключаюцца ў тым, каб кінаакцёры маглі захоўваць і развіваць сваю творчую форму, быць у «мабілізацыйнай гатоўнасці». Кіно — мастацтва патрабавальнае і жорсткае, яно патрабуе акцёра ў той момант, калі яму, кінематографу, спатрэбіцца. І адварочвацца ад яго, акцёра, «душэўных пераліваў» або творчых крызісаў кінематограф вымушаны — яму няма калі чакаць таго моманту, пакуль роля саспее ў выканаўцы: кіно вырашае хутка і крута — акцёр не падыходзіць, не гатовы, не можа, дык яго заменяць, бо ўсе тэатры і кінастудыі краіны — вось «кантынгент» кіно. Аднак жа бывае, што нават суровы кінематограф пачынае дзейсна непакоіцца пра лёс акцёраў — і тады ў розных гарадах, пры розных студыях, узнікаюць тэатры кінаакцёра... Іх жыццё і лёс усякі раз складваюцца па-рознаму, але лёгкага жыцця няма нідзе: «не такія» гэта тэатры.

Трупа мінскага, напрыклад, невялікая — да трыццаці акцёраў. Паводле ўзросту дастаткова аднародная. Больш жанчын, чым мужчын. Вось і першыя абмежаванні ў выбары рэпертуару... Трупа, па ўмовах свайго фарміравання, зусім не была калектывам аднадумцаў. Тут даволі пэўна акрэсліліся некалькі, так сказаць, слаёў... Напрыклад, ёсць у ёй людзі, якія даволі-такі абыякава ставяцца да сваёй работы як у тэатры, так і ў кіно. Іх мала, але ёсць... Есць тыя, каму тэатр нецікавы: таленавіты, тэмпераментны артыст, які мог бы весці рэпертуар, тэатр — не любіць! «Я — кінаартыст, а тут... вельмі доўга рэпеціруюць!» Ёсць артыст, які больш за ўсё любіць тэатр і лёгка адмаўляецца ад кіно, каб толькі рэпеціраваць на сцэне. І ёсць вялікая група артыстаў, для якіх радасць — і тое, і другое. З поспехам здымаючыся ў кіно, яны спяшаюцца ў свой тэатр, каб спазнаць асалоду сустрэчы з жывымі гледачамі, адчуць цудоўны ток, які яднае залу і сцэну. Для іх тэатр — не трэнаж, а яшчэ адзін, вельмі важны спосаб выказвання свайго «я», магчымасць гаварыць аб тым, што хвалюе, і ўбачыць бляск вачэй гледачоў менавіта ў момант творчасці, у «момант ісціны»...

Але акцёры тэатра рэгулярна занятыя на здымках — планаваць афішу азначае сапраўды галаву ламаць... У тэатры ганарацца, што ні разу не было ні зрываў, ні замен — акцёры спяшаюцца на спектакль з любога кутка краіны! На жаль, гэтага не скажаш пра рэпетыцыі: паводле зусім зразумелых аб'ектыўных прычын перыяд падрыхтоўкі спектакляў у параўнанні з «нармальнымі» тэатрамі моцна расцягваецца... Тым не менш паводле плана тэатр абавязаны выпускаць дзве прэм'еры ў год, а выпускае — тры!.. Што датычыць творчай вучобы, дык і з гэтым складана — усё тыя ж здымкі перашкаджаюць.

Усё гэта калектыў тэатра не лічыць «складанасцямі», а ўсяго толькі ўмовамі свайго існавання. Умовамі, якія вызначаюць методыку работы, увесь «тэхналагічны працэс».

Памяшканне... Яно прыстасоўвалася, рэканструяванае з залы кінатэатра... Маленькая зала — затое заўсёды «буйны план», вочы ў вочы з гледачом. Парушаны звыклыя прапорцыі сцэны — ці не таму так актывізуецца тут фантазія мастакоў: яны прыдумляюць адмысловыя прыстасаванні, «надбудоўваюць» другі паверх, апускаюцца ў «трумы», урываюцца ў глядзельную залу, ператвараючы нязручнае ў своеасаблівую адметнасць!..

Так, памяшканне прыстасоўвалася да тэатра... Тэатр жа расце і развіваецца паводле сваіх законаў...

Яшчэ да яго з'яўлення рэжысёр Валерый Анісенка з групаю акцёраў, якую склалі штатныя актрысы кінастудыі «Беларусьфільм» і акцёры мінскіх тэатраў, што здымаюцца ў кіно, паставілі «Паляванне на качак» А. Вампілава.

Як і бывае звычайна ва ўсякай новай тэатральнай справе, рэпеціравалі па начах, ігралі ў канферэнц-зале Дома кіно — памятаю, адзін са спектакляў скончыўся пасля гадзіны ночы... Захапленне было ўсеагульнае, хаця спрачаліся як пра мастацкія вартасці самога спектакля, так і аб правамернасці запрашэння вядомых акцёраў з розных тэатраў...

Акцёры ж — не спрачаліся. Яны ігралі — аддана, горача, забыўшыся на званні і рэгаліі, не шкадуючы сіл, аддаючы ўвесь свой вольны (і, скажам шчыра, не заўсёды такі ўжо вольны) час справе, у якой будучыня была досыць-такі праблематычная.

Пра тое, як пачынаўся тэатр, мы, як правіла, прыгадваем, калі ён набраў ужо сілы, набыў сваё аблічча або (нярэдка бывае і такое) пацярпеў паражэнне... Тэатр-студыя кінаакцёра, уласна, пачынаўся двойчы. Па-сапраўднаму адлік яго біяграфіі пачынаецца гады тры з лішнім назад, калі ён быў афармлены юрыдычна.

Але забываць пра начныя спектаклі «Паляванне на качак» не даводзіцца: не хто іншы, як стваральнікі гэтага спектакля прывучалі грамадскую думку да існавання новага тэатра, і яны ж прынялі на сябе першую хвалю спрэчак...

Афіцыйна — з афішамі, білетамі, рэцэнзіямі ў друку — тэатр пачаўся са спектакля "Усё яго жыццё" паводле кінааповесці Я. Габрыловіча «Камуніст». Сімвалічны пачатак — першым на сцэну новага тэатра ўварваўся легендарны кінаперсанаж легендарнага «Камуніста» — Васіль Губанаў.

Спектакль гэты, шумны, супярэчлівы, уяўляў сабою эксперымент. Дзеля таго, каб шукаць, сцвярджаць або адхіляць знойдзенае, неабходна было перш за ўсё паспрабаваць на сцэне, убачыць увачавідкі. Паспрабавалі, убачылі, ад чагосьці адмовіліся, у галоўным жа сваім — сцвердзіліся.

Сённяшняя афіша тэатра захоўвае ўсю яго нядоўгую пакуль гісторыю. За малым выключэннем, у афішы прадстаўлены ўсе спектаклі, пастаўленыя на сцэне тэатра (выключэнні ж — па «важкіх» прычынах: пайшлі служыць у Савецкую Армію малайцы акцёры, асноўныя выканаўцы «Загадкавай натуры» — спектакля паводле апавяданняў Чэхава. Надоўга заняты на здымках У. Гасцюхін — выканаўца ролі Васіля Губанава). На жаль, таленавіты артыст не вельмі захоплены сваёй работай у тэатры, ён усю ўвагу аддае кінематографу. Зразумела, што не хочацца кінаартысту адмаўляцца ад прапаноў, але, зазначым: па-першае, не ўсе прапанаваныя ролі ў фільмах заслугоўваюць, каб змяняць на іх тэатральныя... А па-другое, ці не пашкодзе адметны артыст, што так надоўга адарваўся ад жыватворнай для таленту крыніцы, якой з'яўляецца тэатр?..

Адна з першых работ — «Запіскі вар'ята» паводле Гогаля. Спатрэбіліся захопленасць і настойлівасць А. Аржылоўскага, ініцыятара пастаноўкі, маладая адвага дыпломніка — рэжысёра Валерыя Шышова, спатрэбіліся цвярозасць, вопыт і прадбачанне Барыса Луцэнкі, галоўнага рэжысёра тэатра, які толькі пачынаўся, каб інсцэніроўка гэтая «паводле матываў твораў М. В. Гогаля» з'явілася на сцэне. Каб тлумныя «газетчыкі» гогалеўскіх часоў узбеглі па прыступках амфітэатра, уручаючы гледачам адмысловую праграмку, аздобленую віньеткамі, у якой змешчаны былі не толькі звесткі пра спектакль, але і «дробязі» пецярбургскай тагачаснай газеткі, дзе плёткі стаялі ў паласе» побач з зусім ужо неверагоднымі, фантастычнымі звесткамі... А на вокладцы праграмкі ўрачыста і трагічна цягнулася ўверх схуднелая рука, свецячы ў белы свет слабым агеньчыкам, які вырываўся не са свечкі — з пальца!.. Быццам нехта хоць такім спосабам прагнуў заявіць свету пра сябе: прападаючы — не прапасці бясследна... Гэта быў сімвал спектакля, якім малады тэатр красамоўна заяўляў пра сябе, заяўляў сваю тэму — сёння можна ўжо сцвярджаць, што сапраўды тэмаю тэатра стала чалавечнае ў чалавеку.

Не збаўшыся цяжкасцей, мінуўшы ўсе «падрыхтоўчыя перыяды», парушыўшы прынцып «ад простага да складанага», тэатр прыступіў да выканання задач, пастаўленых перад мастацтвам нашым часам.



«Запіскі вар'ята». У галоўнай ролі — А. Цярпіцкі. Фота Уладзіміра Шубы.

Спектакль «паводле Гогаля» — па сутнасці, маналагічны. Акцёры А. Аржылоўскі і А. Цярпіцкі, кожны па-свойму ў свой тэатральны вечар, раскрываюць перад намі боль і разгубленасць тытулярнага саветніка Аксенція Іванавіча Папрышчына, яго галечу і смутак, яго мары, амбіцыі і прэтэнзіі да свету, а таксама поўную яго зацёртасць, незаўважанасць светам. Папрышчын — нуль у свеце, нуль — у табелі аб рангах, нуль — у дэпартаменце, дзе ён служыць...

Аржылоўскі прарываецца да свайго героя быццам звонку: здаецца, абрываючы шматкі скуры, Папрышчын спальвае апошнія дні бясплённага жыцця... Цярпіцкі ідзе да Папрышчына знутры: ягоны Папрышчын растае, быццам свечка, калі кожны моцны рух паскорвае канец. І кожны з выканаўцаў па-свойму даказвае галоўную ідэю спектакля: расказаць пра мікраскапічна малога для свету чалавека, пра аднаго з незлічонага мноства, што падпіралі калос Расійскай імперыі, гучна заявіць пра яго, маральна зняважанага, сцёртага ў парашок, пра яго найзвычайнасць і — непаўторнасць, пра яго поўную непатрэбнасць і — незаменнасць. Усведамленне ўласнае дробязнасці, усведамленне, што ён, Папрышчын, у жыцці — нуль, гняце яго: нуль не хоча быць нулём, ён хоча спадзявацца, жыць, гаварыць, кахаць, прагне, каб яго пачулі, убачылі, пакахалі... Жыццё чалавека самакаштоўнае — сцвярджае тэатр. На нашых вачах метафара робіцца відавочнай. Разрываецца чалавек, ягоная душа: «нешта», невідочнае, пагрозлівае, цягне яго за рукі, за рукавы кашулі, з дапамогаю якой «утаймоўваюць вар'ятаў», у розныя бакі... Мы яшчэ пачуем адчайны крык: «Ратуйце мяне! Дайце мне тройку імклівых, як віхура, коней!..» І пасля: «Матухна, пашкадуй сваё беднае дзіцятка!..»

Услед за гэтым апошняя славутая вар'яцкая фраза пра шышку пад носам алжырскага бея ўжо інтанацыяй сваёй прымусціць гледачоў пахаладзець. Яна будзе гучаць, як камякі глебы, якія падаюць у свежую магілу. І гэта будзе Гоголь, сённяшні і вечны Гоголь...

Пройдзе час (зусім невялікі — па мерках звычайных тэатраў, дзе два гады — не тэрмін!), і на сцэне зноў з'явіцца руская класіка — «Жаніцьба Бальзамінава». Для любога тэатра такая пастаноўка — каштоўная магчымасць працаваць у драматургіі А. Астроўскага (аднаго з самых сучасных і рэпертуарных класікаў), чытаючы п'есу сённяшнімі вачамі. Яна для тэатра — і выпадак паказаць сапраўдныя здольнасці акцёраў: тут што ні роля — дык бенефісная. П'еса дае пільнаму пагляду, назіральнасці, фантазіі і вынаходлівасці пастаноўшчыка шырокія магчымасці: тут і камедыя нораваў, і характараў. Мішаньку Бальзамінава, галоўнага героя, можна трактаваць досыць-такі шырока, нават калі і не адыходзіць далёка ад арыгінала... Урэшце, як кажа Астроўскі, за чым пойдзеш — тое і знойдзеш.

Рэжысёр Барыс Утораў увасобіў «Жаніцьбу...» у форму музычнага прадстаўлення, змясціўшы побач са сцэнаю «карчму з музыкаю», дзе болей адважны, чымся ўмелы тапёр «наяўрае» полечкі ды вальсы...«Хор» — ачмурэлы ад сумоты люд — то грымне песню, не разбіраючы, хто вінаваты, улезе ў бойку («нашых б'юць!») — усё ж забаўка!.. І сон уладарыць над усім — усемагутны сон, якому аддаюцца ад сумоты героі спектакля. Сон і ўяўнасць жыцця, уяўнасць дзейнасці — і ўсе ў пошуках багатых нявест; бяздзейнасць, бяздумнасць, лянівае пустаслоўе — глухі, цягучы замаскварэцкі побыт.

Усе героі прыстасаваліся да гэткага быцця, а калі і бунтуюць, дык «па-мясцоваму», «па-замаскварэцку», звыкла; і хочацца, і мроіцца ім тое, што бачылі або аб чым чулі; і цуды, якія тут здараюцца,— мясцовыя, замаскварэцкія цуды. Як і той цуд, што адбыўся з Бальзамінавым, якога рэжысёр і выканаўцы А. Цярпіцкі і Ю. Казючыц вытлумачылі як дамарослага «філосафа». У Цярпіцкага Мішанька — ужо на мяжы страты розуму: «ідэя» здабыць багатую нявесту ўбілася яму ў галаву, і так не надта моцную. Ю. Казючыц расказвае нам пра дарослае дзіця, здольнае думаць толькі пра адно. Але і той і другі начыста вызвалілі героя ад юнага «рамантызму», яго мары выяўляюцца ў грошах, спалох перад Белацалавай выкліканы яе сакавітаю манументальнасцю і «акаляючымі абставінамі», што надта ўжо калейдаскапічна мяняюцца — і мацнейшая галава не вытрымала б...

У «Жаніцьбе...» не ўсё лагічна выверана, форма яе часам жыве асобна ад зместу, у прыватнасці, эфектны і нечаканы фінал, на жаль, не даспеў у самім спектаклі, не падрыхтаваны. Няроўнае і нераўнацэннае выкананне: сярод акцёраў вылучаюцца выканаўцы галоўнай ролі — А. Цярпіцкі і Ю. Казючыц, запамінаецца Л. Румянцава — яе сваццproperties Красавіна валодае такім апетытым да жыцця (у ёй столькі нараджаецца ідэй! Былі б у яе грошыкі — яна разгарнулася б, яна паказала б, як жыць), Белацелава С. Кузьміной, сыграная смела, шырока, і Матрона Г. Рагачовай, якая аказалася зайздросна шматпланавай, маляўнічай, цікавай для нас і пры ўсім тым — дакладнай па сваім месцы ў спектаклі, без прэтэнзіі на «сола»...

Зрабіўшы заяўку на арыгінальнае вытлумачэнне вядомай камедыі, рэжысёр, здаецца, не паверыў у поўнае ўвасабленне на сцэне сваёй задумы. І тады спектакль пачалі аздабляць танцамі і спевамі, якія павінны былі надаць яму дадатковы рух, дынаміку, выразнасць, маляўнічасць. Але не ўсе акцёры дастаткова музычныя, не ўсе добра спяваюць і танцуюць, да таго ж «спецыфіка кіно» і тэхніка агучвання фільмаў робяць, здаецца, залішнімі клопаты аб голасе... Так што з вопыту «Жаніцьбы Бальзамінава» вынікае: акцёрам неабходныя падобныя «трэнажныя» спектаклі, але работы ім яшчэ наперадзе шмат. І работы сур'ёзнай.

Можна ўявіць сабе, што працаваць над спектаклямі «маланаселенымі» тэатру лягчэй — акцёры на месцы, можна наладжваць бесперапынны рэпетыцыйны працэс, вырошчваць ролю «паводле навукі»... Не ведаю, ці так нараджаўся спектакль Барыса Луцэнкі «Шчасце маё...» па п'есе А. Чарвінскага, але лагічная пабудова роляў Вікі (Л. Мардачова) і Сенечкі (яго іgralі А. Цярпіцкі і П. Юрчанкоў), Лідзіі Іванаўны (С. Кузьміна) і Аскара Барысавіча (В. Грыцэўскі) сведчыла пра работу непаспешлівую, удумлівую, у якой важныя былі тонкасці, нюансы. Спектакль звяртаўся да пачуцця, да памяці сэрца. Тэатр вельмі своечасова ўступіў у размову пра высокае прызначэнне маладога пакалення, пра трывалыя сувязі мінулага, цяперашняга і будучыні... Ён не гнаўся за утылітарную мэтаю «адгукнуцца» на злобу дня, але настойліва і паслядоўна імкнуўся менавіта на дадзеным матэрыяле весці сур'ёзную размову з сённяшнімі маладымі пра сапраўднае, пра галоўнае ў жыцці.

Гэткая ж задача вырашаецца на іншым матэрыяле — у кінаспектаклі «Саракавыя...», створаным рэжысёрамі Барысам Луцэнкам і Барысам Уторавым па сцэнарыю В. Грыцэўскага, В. Нікіфаровіча і Р. Шмырова. Гэта спектакль-кампазіцыя, які спалучае сцэны з пастаўленых ужо спектакляў, інсцэніраваных апавяданняў і ўрыўкаў, фрагментаў з кінафільмаў з удзелам акцёраў тэатра-студыі, у ім гучаць песні і цудоўныя вершы паэтаў-франтавікоў. Ён быў падрыхтаваны да 40-годдзя вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, з поспехам ішоў у дні святкавання 40-годдзя Вялікай Перамогі. Ён з'яўляецца на сцэне не так часта, як іншыя спектаклі (бо не надта проста сабраць усіх удзельнікаў), але заўсёды зала — поўная.

У спектаклі далёка не ўсё роўна. І, бадай, цяжка яму быць іншым. Але вось што важна: гэты спектакль — не «да даты», ён знаходзіць водгук у зале. Радок «Я убит подо Ржевом...» прымушае здрыгануцца сэрца... Тэатр звяртаецца да пакалення, якое па ўзросту сёння — аднагодкі тых колішніх «лобастых мальчиков», што жыццём сваім абаранілі Айчыну. Ён імкнецца крануць і розум, і сэрца.

Спектаклі-кампазіцыі, падобныя на гэты, мусяць і, мабыць, будуць з'яўляцца ў рэпертуары Тэатра-студыі кінаакцёра. Яны патрэбныя такому тэатру. І пошук у гэтым напрамку можа быць плённым. Гэтак жа настойліва калектыў працуе і эксперыментуе ў іншай сферы — новая тэатральная справа, распачатая ім, патрабуе эксперыменту і рызыкі. Знаходзяцца новыя формы кантакту з гледачом — і не толькі маленькая зала дыктуе гэты пошук... Тэатр шукае магчымасці гаварыць з гледачом пра запаветнае... Акцёры імкнуцца глянуць гледачу ў вочы, крануць душу юнага чалавека, каб ён, звыклы да дэцыбелаў і мігцення «святламузыкі», зноў здолеў пачуць ціха сказанае слова, улавіць ціхае ўздыханне, заўважыць непраліўтыя слёзы...

І тады на сцэне з'яўляюцца «Сам-насам з усімі» А. Гельмана і «Чалавечы голас» Жана Както...

Зробім агаворку: менавіта ў гэтым жанры, які, здавалася б, павінен быць такім блізкім і такім «зручным» для тэатра, яго пакуль што, на мой погляд, не напаткала ўдача. Спектакль «Сам-насам з усімі» — манатонны. Яго героі — пазбаўлены той неўтаймоўнай спавядальнасці, якой можна было б чакаць: на сцэне — сямейная неўладкаванасць, так сказаць, «бытавая траўма»...

Нешта падобнае, здаецца мне, адбылося і з «Чалавечым голасам» Както. Гэтая «парыжская трагедыя» — маленькая трагедыя вялікіх чалавечых пачуццяў, у якой затаявана глыбокае чалавечае гора. Лёс адзінокай жанчыны зламаны — грубы, жорсткі разлік робіць яе існаванне пустым і нікчэмным і ўрэшце знішчае яе.

«Лірычнай трагедыяй» называюць «Чалавечы голас»... Рэжысёр Я. Грыбаў і актрыса Л. Румянцава робяць акцэнт на «лірычнай» — на нашых вачах пакутуе мілая, слабая, прыгожая жанчына, якой мы ўсёю душою спачуваем. Яе ж незаслужана памянулі і кінулі. Аднак яна лёс яе не ўспрымаецца як трагедыя.

Рэжысёр пазней увёў актрыс, якія чытаюць вершы пра каханне,— але прыём гэты толькі яшчэ болей аддаліў сумную гісторыю ад трагедыі. Пачуцці на некалькі градусаў ніжэй: не суперажыванне, а спачуванне, не гнеў за пачуццё, агаворанае кантрактам, а згрызота, бытавыя асацыяцыі, здробненыя аналогіі... У п'есе ж гераіня — без імя, адна з многіх, вобраз збіральны, абагульнены. Адзіная яе адметная рыса — дар кахаць — аказваецца непатрэбнай... І чалавечы голас — змаўкае...

Мяркую, што тэатру, які ўзяўся за гэтую п'есу, не варта пакідаць работы над ёю — шкада, калі



Ю. Казючыц у ролі Бальзамінава.

Фота Аляксандра Дзмітрыева.

яна застанецца на сённяшнім узроўні, але таксама шкада, калі знікне з рэпертуару.

У пошуках сучаснай п'есы Барыс Луцэнка звярнуўся да «Глядзіце, хто прыйшоў» В. Аро — спектакль атрымаўся вострапалемічны, выклікаў адчайныя спрэчкі, мо якраз унутранай супярэчлівасцю — нездарма ж тэатр доўга не знаходзіў фіналу... З цягам часу, калі астылі страсці і палеміка, высветлілася, што выпадковае, часовае ў спектаклі — адсохла, а сам спектакль стаў і больш цэласны, і больш дакладны па прыцэлу... Ён адкрывае нам Кінга — маленькага шчырага прыстасаванца, які прагне «и капитал приобрести и невинность соблюсти». Яго раздзірае апантанасць рэспектабельнас ю і, так сказаць, апетыт да пончыкаў, да шматстайных жыццёвых даброт, якія ён і сябры ягоныя, значна горшыя за яго, прымаюць за імкненне да паўнаты жыцця, за жыццялюбства. Кінг і яго сябры — неаднародныя. Але аднолькавыя ў тым, што ў людзях, якія сутыкаюцца з імі, выяўляюць зусім не лепшыя рысы характару. У гэтым спектаклі прык етнымі лідэрамі аказаліся П. Юрчанкоў — Кінг, Р. Шмыроў — Табуноў. Менавіта яны тут — антаганісты, «класава чужыя» адзін аднаму.

Сення спектакль гэты страціў прысмак сенсацыйнасці і працуе чэсна, як радавы, прымушаючы гледача раздумваць, засцерагаючы яго, навучаючы...

Тры гады — тэрмін для ўсякага тэатра невялікі. А для Тэатра-студыі? Для акцёраў? Для рэжысёраў? Для г лоўнага рэжысёра?

Тэатр мяняецца. Ужо накоплена шмат спектакляў, камусьці яны падабаюцца, камусьці — не... Калектыў хоча сёння іграць не так, як учора, а заўтра — па-іншаму. «Мы імкнёмся далей, а далягляд усё бяжыць і бяжыць ад нас»,— піша мастацкі кіраўнік грузінскага Тэатра кінаакцёра Міхаіл Туманішвілі.

Так маглі б сказаць і ў Тэатры-студыі кінаакцёра ў Мінску... Толькі што, здаецца, кіпелі страсці вакол «Глядзіце, хто прыйшоў», а сёння — новы этап: Луцэнка ставіць «Не баюся Вірджыніі Вулф» Эдуарда Олбі, знайшоўшы поўнае ўзаемаразуменне з акцёрамі, дабіўшыся ансамблевасці выканання і адшукаўшы аднадумцу ў асобе мастака Дзмітрыя Мохава,— тэатр ступіў на новую прыступку свайго быцця, раскрыўшы ў «камернай» п'есе яе сацыяльны фон, падзяляючы пакуты, боль, горыч, паражэнне герояў твора. Тэатр шукае і знаходзіць прычыны паражэння, карані, якія далі такія страшныя і горкія ўсходы, такое пагібельнае ўзаема- і самазнішчэнне.

Барыс Луцэнка — мастак валявы і неспакойны, схільны да шырокіх абагульненняў, рэжысёр, які здолеў паставіць «Макбет», і той жа самай моцнай і дакладнай рукой вычарціць жорсткую і горкую графіку «Трохграшовай оперы». Сёння і ён — мяняецца. Не толькі «буйны план» і «малая сцэна» тэатра, у якім няма сцэны вялікай, вымушаюць ісці на гэтыя змены, перш за ўсё — гэта патрабаванні часу і мастакоўскі адказ на іх... Сёння рэжысёр з асаблівай увагай углядаецца ў глыбіні чалавечага духу, каб гаварыць аб непаўторнасці чалавека і аб лёсе чалавецтва.

Луцэнка ствары́ў спектакль, у якім амаль што глабальныя вывады абапіраюцца на рэальную глебу — у прыватнасці, на ўчарашняе і сённяшняе быццё амерыканскага універсітэцкага гарадка. Не французскага, не англійскага, толькі амерыканскага — з яго каставай замкнёнасцю, ханжаскай рэспектабельнасцю і фанабэрыстасцю. З яго глыбокай разбэшчанасцю. Жывучы на ўтрыманні грашовых мяшкоў, універсітэт тым багацейшы, тым больш камфартабельны, тым больш аўтарытэтны, чым больш шчодрыя ўзносы грашовых тузоў — а адначасова тым больш залежны ад іх. І тым мацнейшая ў ім разбэшчанасць душ, тым больш відочная беспрынцыповасць навукі, якая пагаджаецца рабіць тое, што загадаюць.

Перад намі не неўрозы няўдачнікаў, а натуральны і драматычны вынік усеагульнай разбэшчанасці, запланаванай з самага пачатку тымі, хто плаціць.

Спектакль Луцэнкі адмыслова спалучае гармонію рэчавага свету і душэўную дысгармонію, якая раздзірае герояў.

Стары ўтульны дом, дзе не прапушчана ніводная дэталь, якая сведчыла б пра тое, як дом калісьці, у лепшыя моманты, асталёўваўся гаспадарамі для жыцця і кахання... Утульны пошум дажджу, кроплі, якія звонка падаюць, відаць, у дубовую бочку, што стаіць пад вадасцёкам, ціканне гадзінніка нагадвае пра час, якога не так ужо многа застаецца... Старадаўнія кнігі... Шырокая зручная тахта, пакрытая скурамі... Усё гэта становіцца палігонам для смяртэльнай, згубнай гульні, калі ўдары наносяцца без разбору, калі яны дасягаюць невінаватых...

У спектаклі, паўтараю, сабраны зладжаны ансамбль, у якім кожны — на «сваім месцы». Джордж — І. Мацкевіч, стрыманы, шматцярплівы, іранічны, ён да пары да часу вядзе гульню, не трацячы разважлівасці; Джордж — П. Юрчанкоў — імпульсіўны, ён ужо кепска валодае сабою, з самага пачатку гатовы не стрымацца. Нік — Ю. Казючыц — выхаваны, трошкі высакамерны, з паблажліваю ўсмешкаю, якая трымаецца на твары нават тады, калі ў вачах замяшанне; Хані — Л. Мардачова — істэрычная, манерная, на грані псіхозу юная жанчына, якая жахліва баіцца жыцця, заліваючы свой жах алкаголем... Але саліруе ва ўсёй кампаніі — і ў спектаклі — Марта — Святлана Кузьміна. Вульгарная, бессаромна-шчырая, у поўнай сіле жаночай прывабнасці і абаяння, Марта — невук, але ад прыроды — разумная, жорсткая і бясконца добрая. Яна фантазёрка, прыроджаны лідэр і рэжысёр сямейных радасцей і сямейных звадак. Не можа жыць без Джорджа — і трымае яго ля сябе як баксёр грушу для трэніровак...

Кузьміна знайшла інтанацыю і тон, пластыку, а галоўнае — нерв ролі, яна іграе шырока, адважна, цалкам пагружаючыся ў вобраз, здаецца, на мяжы сіл — але нідзе не трацячы кантролю над сваім стварэннем.

Яе гераіня зразумелая, але захоўвае сваю тайну, на яе абураешся, яе шкадуеш, за яе страшна, хочацца верыць, што яна здолее адрадзіцца, але мы бачым яе прыніжанай, і хаця Джордж, кружачыся вакол Марты, як заклінанне паўтарае дзіцячую песеньку «Не баюся Вірджыніі Вулф», так цяжка захаваць гэтую веру...

Не надакучвае зноў і зноў глядзець спектакль, як не надакучвае перачытваць добрую кнігу, адчуваючы асалоду ад фразы, перыяду, ад слова, ад інтанацыі. Задумваешся: які ж гэта спектакль — рэжысёрскі, акцёрскі?! Тут бачым мы рух акцёраў, рэжысёра, мастака адзін да аднаго, шчаслівае супадзенне задум і іх увасаблення ў імя агульнай м ты. Думаецца, пасля гэтага спектакля ў тэатры павінна прадаўжацца лінія імкнення да паўнаты і пэўнасці выказвання, магчымая толькі пры засяроджанай рабоце і пошуку.

У афішы тэатра — разнастайная і змястоўная драматургія. Рэжысёр Валерый Рубінчык паставіў «Камедыю пра Лісістрату» паводле твораў Арыстафана. (Заўважым: **кінарэжысёр.** Вось вам зноў — спецыфіка тэатра: ён рады даць магчымасць рэжысёрам кіно паспрабаваць свае сілы ў тэатральнай рэжысуры). На стале — інсцэніроўка апавядання Івана Чыгрынава. Луцэнка думае пра «Караля Ліра» і «Трох сясцёр». І не проста думае, а ўжо жыве трагедыяй Шэкспіра. У планах — кантакты з многімі беларускімі драматургамі і пісьменнікамі.

«Мы імкнёмся да гарызонта, а гарызонт усё бяжыць і бяжыць ад нас...» Так яно і будзе пакуль жывы тэатр і яго мастакі.

**Лілія БРАНДАБОЎСКАЯ,**
**Яўгенія СЦЯПАНАВА.**

**Афармленне Уладзіміра КРУГЛОВА.**



**Галоўны рэжысёр Тэатра-студыі кінаакцёра Барыс Луцэнка (злева) і кінарэжысёр Валерый Рубінчык у час рэпетыцыі. Фота Ігара Паўлава.**



**Сцэна са спектакля «Не баюся Вірджыніі Вулф». У ролях — артысты С. Кузьміна і П. Юрчанкоў. Фота Аляксандра Дзмітрыева.**



# МЫ, НАРОДЫ АБ'ЯДНАНЫХ НАЦЫЙ...

## ПЫТАННЕ НУМАР АДЗІН

Мір... гэта кароткае, але шматзначнае слова накрэслена на блакітным штандары ААН. Гэтае слова вызначае сімвал палітычнай веры дзяржаў — членаў ААН, якія згодна з яе Статутам абавязваюцца несці разам адказнасць за захаванне міру, устрымлівацца ад пагрозы сілай, ад актаў агрэсіі. Калі б паўстала пытанне аб выданні слоўніка найбольш ужывальных слоў, што гучаць пад скляпеннямі штаб-кватэры ААН, то першым, натуральна, трэба было б ставіць слова «мір».

Восьмае па ліку пленарнае пасяджэнне пачынаецца роўна ў прызначаны час. Назіраецца актыўны збор дэлегацый (з'ява не частая тут). Усе яны з'яўляюцца на чале са сваімі першымі асобамі — міністрамі або пастаяннымі прадстаўнікамі. Запоўнены ложа для карэспандэнтаў, галерэя для публікі. У спісе прамоўцаў імя кіраўніка савецкай дэлегацыі значыцца не першым. Але па ўсім адчуваецца, што з асаблівай увагай чакаюць выступлення А. А. Грамыкі, што ён галоўная дзеючая асоба сённяшняга пасяджэння.

Многія кідаюць у яго бок позіркі. Вось да яго пайшоў з нейкай паперай у руках знаёмы ўжо нам пасол Саудаўскай Аравіі Джэмал Барудзі. «Відаць, хоча ўзяць у Андрэя Андрэевіча аўтограф для сваёй дачкі,— тлумачыць мне дыпламат, які побач.— Ёсць у Барудзі такое хобі — збіраць для дачкі аўтографы вялікіх людзей».

— Слова мае яго правасхадзіцельства Андрэй Андрэевіч Грамыка, міністр замежных спраў Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік! — абвяшчае старшыня сесіі.

Грамыка накіроўваецца да знаёмай яму аанаўскай трыбуны. У які ўжо раз! Ён — адзін з тых, хто меў вялікі гонар і высокую адказнасць стаяць непасрэдна ля калыскі ААН, хто прадстаўляў нашу краіну на канферэнцыях у Думбартон-Оксе і Сан-Францыска, дзе вырашалася пытанне аб стварэнні гэтай міжнароднай арганізацыі, дзе прымаўся яе Статут. З таго часу, з году ў год, А. А. Грамыка ўзначальвае нязменна савецкую дэлегацыю на сесіях Генеральнай Асамблеі, і яго імя стала ўжо сімвалам нязменнасці і прынцыповасці ленінскай знешняй палітыкі, а яго голас — голасам мільёнаў савецкіх людзей, міралюбівых сіл усяго свету.

Міністр пачынае гаварыць, нагадвае форуму, што задача ААН заключаецца ў тым, каб «пазбавіць будучыя пакаленні ад бедстваў вайны», і ўражвае з самага пачатку тое, што яго голас і ў літаральным, фізічным сэнсе гэтага слова сапраўды паўнагучны, рашучы, цвёрды, за ім адчуваецца сапраўдная зацікаўленасць і глыбокая перакананасць, за выразнай дыкцыяй — ясная акрэсленасць пазіцыі.

«Наша краіна свой выбар зрабіла даўно і беспаваротна,— падкрэслівае А. А. Грамыка.— У забеспячэнні мірнага стваральнага жыцця для нашага народа, міру для ўсіх людзей на зямлі — сутнасць савецкай знешняй палітыкі...»

Словам, у аснову асноў савецкі міністр ставіць самае важнае пытанне часу — пытанне аб захаванні міру, аб тым, як выратаваць чалавецтва і жыццё на планеце ад «згубнага катка ядзернай вайны», і зала, бачу, адпаведна слухае і рэагуе — засяроджана, з увагай і разуменнем.

У тым жа тоне, ставячы рашуча ўсе кропкі над «і», выказваецца А. А. Грамыка па другіх актуальных пытаннях міжнароднага жыцця (становішча на Блізкім Усходзе і на поўдні Афрыкі, так званы «дыялог «Поўнач — Поўдзень», узаемаадносіны СССР і ЗША і г. д.).

Не магла Асамблея не ацаніць па вартасці і тое, што ў прамове кіраўніка савецкай дэлегацыі прайшло чырвонай ніткай перакананне: ААН павінна мець самае непасрэднае дачыненне да надзённых глабальных праблем і задач і павінна адыгрываць важную, калі не рашаючую ролю ў іх вырашэнні. Які б бок справы не кранаў прамоўца, ён знаходзіў неабходным апеляваць да ААН: «Важкае слова ў гэтым плане належыць і Арганізацыі Аб'яднаных Нацый... У гэтых адносінах на ААН ляжыць асаблівая адказнасць... І ўсё ж мы хацелі б бачыць ААН больш актыўнай у справе, якая больш за ўсё хвалюе чалавецтва... ААН зрабіла б вялікую справу, заклікаўшы ўсе дзяржавы прыступіць да перагавораў аб заключэнні Сусветнага дагавора аб непрымяненні сілы ў міжнародных адносінах...».

Інакш кажучы, насуперак своекарыслівай імперыялістычнай палітыцы з яе тэндэнцыяй дзейнічаць у абход ААН, рабіць стаўку на закулісную, «чаўночную» і іншыя падобныя формы дыпламатыі, у выступленні савецкага прадстаўніка сцвярджалася лінія на адкрытае, шматбаковае міжнароднае супрацоўніцтва, на калектыўныя волю і розум у вырашэнні наспелых праблем сучаснасці.

Але яркая, доказная прамова А. А. Грамыкі не абмяжавалася толькі пастаноўкай пытанняў, аналізам і ацэнкамі. Выказаны ў ёй антываенны, антымілітарысцкі пафас быў тут жа падмацаваны канкрэтнымі прапановамі.

Палажэнне аб змаганні за мір, аб міратворчай дзейнасці як асноўнай мэце ААН чырвонай ніткай праходзіла ў радзе выступленняў з высокай трыбуны. «ААН заклікана паслядоўна садзейнічаць практычнаму ўвасабленню наяўных ініцыятыў і прапаноў па ўмацаванню міжнароднай бяспекі і па раззбраенню»,— падкрэсліваў міністр замежных спраў ГДР. «Мы мяркуем,— гаварыў прадстаўнік Бутана,— што адна з найбольш важных задач данай Асамблеі заключаецца ва ўмацаванні ААН як органа па падтрыманню міру». «Арганізацыя Аб'яднаных Нацый была створана для таго,— нагадваў сірыйскі дэлегат,— каб ажыццявіць гэты асноватворны прынцып: забеспячэнне трывалага міжнароднага міру, заснаванага на вернасці прынцыпам Статута, на спыненні гонкі ўзбраенняў, на адмове ад «раўнавагі страху» і агрэсіі».

Гучалі, натуральна, з трыбуны форуму і заявы аб спадзяванні на мір, аб адданасці справе міру. «Мы хочам міру», «Мая краіна заяўляе аб сваёй гатоўнасці прынесці ахвяры ў імя ідэалаў міру і працвітання», «Чалавецтва чакае, што ва ўсім свеце пераможа мір» — такія і сугучныя з імі словы вымаўляліся ўдзельнікамі Асамблеі. «Мы спадзяёмся, што знаходзімся напярэдадні ўсталявання міру,— дадаваў з свайго боку прадстаўнік Йеменскай Арабскай Рэспублікі.— Мы, арабы, заўсёды лічылі за лепшае быць аптымістамі, паколькі гэта прага міру з'яўляецца неад'емнай часткай нашага штодзённага жыцця, нашых традыцый і нашых векавых звычаяў. Выраз «салам алейкум» штодзённа паўтараецца кожным арабам, незалежна ад яго рэлігіі — мусульманскай, хрысціянскай ці іудзейскай. Гэтымі словамі арабы, незалежна ад іх статусу, сустракаюць і вітаюць адзін аднаго, а таксама выказваюць пажаданне жыць у міры і дружбе з другімі народамі, пакуль тыя адказваюць узаемнасцю».

Мірнае суіснаванне, вырашэнне спрэчных пытанняў шляхам дыялогу і перагавораў, пачуццё калектыўнай адказнасці за палітычны клімат у свеце — вось лінія, на якую была выразна з'арыентавана знешняя палітыка ўсіх міралюбівых краін — удзельніц форуму, у прыватнасці тых, якія складаюць рух недалучэння, якія сталі на шлях развіцця. «Усеагульнае прызнанне мірнага суіснавання,— гаварыў прадстаўнік Мадагаскара,— усё большае сумненне ў канцэпцыі сілы, змякчэнне праяў халоднай вайны і палярызацыі з'яўляюцца тымі фактарамі, якія закліканы аздаравіць міжнародную абстаноўку». «Мы заклікаем буйныя дзяржавы нястомна праводзіць палітыку разрадкі з тым, каб мы ўсе маглі жыць у свеце, свабодным ад страху і ахопленым толькі адным жаданнем — забяспечыць лепшае будучае ва ўмовах міру і гармоніі»,— зазначыў у сваім выступленні міністр замежных спраў Ганы. Аб разрадцы як крыніцы натхнення і аптымізму гаварылі таксама дэлегаты Дэмакратычнага Йемена і Нігерыі.

З другога боку, на Асамблеі гучала крытыка ў адрас тых імперыялістычных і рэакцыйных сіл, якія, зыходзячы са сваіх вузкіх інтарэсаў, у парушэнне Статута ААН, агульнапрынятых норм міжнароднага права, праводзяць палітыку неакаланіялісцкай экспансіі і агрэсіі і па віне якіх у свеце існуюць ачагі напружанасці і канфрантацый, не, не ды і ўзнікаюць выбухованебяспечныя сітуацыі. «Сённяшні свет павінен адрознівацца ад свету мінула-

Працяг. Пачатак у № 1.

га, у якім панаваў закон джунгляў!» — заявіў міністр замежных спраў Катара.

Паказальнай у гэтай сувязі была яркая, разважная, усебакова аргументаваная прамова балгарскага дыпламата, пастаяннага прадстаўніка Балгарыі пры ААН Аляксандра Янкава, з якой ён выступіў у Першым камітэце, дзе разглядаліся адначасова два пункты парадку дня: «Аб заключэнні Сусветнага дагавора аб непрымяненні сілы ў міжнародных адносінах» і «Аб паглыбленні і ўмацаванні разрадкі міжнароднай напружанасці і прадухіленні ядзернай вайны». «Мы поўнасцю ўсведамляем тое,— гаварыў прамоўца,— што існуюць сілы, якія больш ахвотна праяўляюць палітычны нігілізм і якім цяжка ўявіць сучасны свет без прымянення сілы. Яны лічаць за лепшае верыць, што забарона прымянення сілы створыць амаль вакуум у міжнародным юрыдычным правапарадку. Мы перакананы, што пры выпрацоўцы Сусветнага дагавора аб непрымяненні сілы ў міжнародных адносінах Арганізацыя Аб'яднаных Нацый паставіць вялікія перашкоды на шляху тых сіл, якія накіроўваюць свае намаганні на тое, каб усяляк замарудзіць або перапыніць працэс разрадкі».

Спыненне гонкі ўзбраенняў, раззбраенне... Пра гэта з непакоем гаварылі, адзін за адным, удзельнікі Асамблеі, у гэтым кірунку бачылі магістральны шлях развіцця разрадкі і распаўсюджвання яе на ўсе раёны свету, умацавання мірных узаемаадносін і бяспекі. «Палітычны розум, прававыя абавязацельствы і чалавечнасць патрабуюць прыняцця рашучых мер для таго, каб знішчыць сродкі ліквідацыі чалавека,— гаварылася з высокай трыбуны.— Трывожныя паведамленні аб фарсіраванні распрацоўкі і вытворчасці новых відаў зброі масавага знішчэння ясна пацвярджаюць, наколькі апраўданымі з'яўляюцца гэтыя патрабаванні. Сацыялістычныя краіны непахісна імкнуцца да ўсеагульнага і поўнага раззбраення». «Парадак дня сесіі,— звяртаецца да залы другі прамоўца,— утрымлівае больш як 20 пунктаў, якія тычацца праблемы раззбраення. Гэта ясна паказвае значэнне, якое надаюць раззбраенню дзяржавы-члены, у прыватнасці, тыя, што належаць да руху недалучэння. Ахвярапрынашэнні на алтар Малоха вайны павінны быць спынены!» «Парадоксам нашага часу з'яўляецца тое,— з горыччу зазначыў адзін з прадстаўнікоў «трэцяга свету»,— што пакуль свет гаворыць аб раззбраенні, навука вайны дасягнула вялікага прагрэсу і мае зброю велізарнай разбуральнай сілы — як ядзерную, так і звычайную. Нас не можа не турбаваць крызіс у галіне кантролю над раззбраеннем. Нас не можа не турбаваць злавесная эскалацыя гонкі ўзбраенняў». І гэтак далей.

З прамовы ў прамову пераходзіў тэзіс аб цане ваенных падрыхтаванняў, аб эканамічных выніках гонкі ўзбраенняў, нарошчвання парахавых і ядзерных арсеналаў. «Фанатычныя ахвярапрынашэнні на алтар бога вайны» (словы аднаго дэлегата) расцэньваліся як неразумнае, пачварнае разбазарванне людскіх і матэрыяльных рэсурсаў, як эканамічнае вымотванне чалавецтва. І тут прадстаўнікі звярталіся, для большай пераканаўчасці, да мовы статыстыкі, да мовы канкрэтных лічбаў і фактаў. «Прадугледжваецца правядзенне «Года дзяцей»,— гаварыў адзін з іх.— У гэтай сувязі напрошваецца наступнае параўнанне: зараз у свеце за кожныя дзве мінуты выдаткоўваецца амаль 1,4 мільёна долараў для ваенных мэт. Згодна з разлікамі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя гэтай сумы было б дастаткова для таго, каб правесці імунізацыю прыблізна 700 000 дзяцей супраць інфекцыйных захворванняў». «На гонку ўзбраенняў зараз выдаткоўваецца ў паўтара раза больш сродкаў, чым на адукацыю, і ў тры з палове разы больш, чым на ахову здароўя»,— адзначалася ў другім выступленні. Або вось прыводзіліся такія лічбы: сёння 25 працэнтаў навуковых сіл свету заняты ў праведзенні даследаванняў, звязаных з ваеннымі пытаннямі, а 40 працэнтаў сродкаў, якія выдзяляюцца для даследавання і развіцця, ідзе на ваенныя мэты». «350 мільярдаў на ўзбраенне — гэта вельмі дарагая цана вар'яцтва», «350 мільярдаў не на карысць, а на шкоду чалавецтву», «350 мільярдаў на ваенныя мэты — гэта злачынства»,— гучала на пасяджэнні Асамблеі.

Словам, пераважная большасць дэлегатаў пагаджалася на тым, што, як зазначыў прадстаўнік Беларускай ССР, «сумленне чалавецтва не можа мірыцца з неймавернай растратай сіл і сродкаў многіх нацый на вытворчасць новых і новых смяротных відаў зброі». Прыводзіліся словы генеральнага сакратара ААН, сказаныя на канферэнцыі Камітэта па раззбраенню: «Накапленне ўзбраенняў выходзіць за рамкі апраўданай абароны, яно ўяўляе сабой не толькі небяспеку міру ў сусветным маштабе, але і паглынае 350 мільярдаў долараў, у той час, калі людзі пакутуюць ад холаду, беднасці і хвароб, калі сотні мільёнаў жыхароў планеты цярпяць ад недахопу матэрыяльных рэсурсаў».

Натуральна, што ў многіх выступленнях горача падтрымлівалася ідэя склікання спецыяльнай сесіі Генеральнай Асамблеі па раззбраенню, якая мела адбыцца ў сярэдзіне будучага года, выказвалася спадзяванне, што сесія засяродзіць увагу на самых неадкладных аспектах праблемы раззбраення, у прыватнасці, на выпрацоўцы Дагавора аб усеагульнай забароне і нераспаўсюджванні ядзернай зброі.

Хацеў бы асобна зазначыць, што самы актыўны ўдзел у абмеркаванні пытанняў міру, разрадкі і раззбраення, прадухілення ядзернай вайны прымалі прадстаўнікі Савецкай Беларусі. Беларуская дэлегацыя выкарыстоўвала практычна ўсе магчымасці для таго, каб узняць свой голас супраць гонкі ўзбраенняў, у абарону міру і мірнага суіснавання. Гэта рабілася як у форме заяў на пленарных пасяджэннях, так і пры вырашэнні канкрэтных пунктаў парадку дня ў камітэтах. «Аўтарытэт ААН і ступень яе ўплыву на ход падзей у свеце,— гаварыў у сваёй прамове на агульнапалітычнай дыскусіі А. Е. Гурыновіч,— вызначаюцца перш за ўсё тым, як яна выконвае сваю галоўную задачу — садзейнічае падтрыманню міжнароднага міру і бяспекі, прадухіленню новай вайны. Іменна гэтага — актыўнай ролі ў сусветнай барацьбе за ліквідацыю ваеннай небяспекі і, у першую чаргу, за недапушчэнне ядзернай вайны — чакаюць народы ад Арганізацыі Аб'яднаных Нацый». Выступаючы ў Другім камітэце (эканамічныя пытанні, пытанні развіцця), член нашай дэлегацыі зазначыў: «Часта можна пачуць, што для вырашэння эканамічных праблем тых краін, якія сталі на шлях развіцця, не хапае сродкаў. Між тым адной з прычын недахопу фінансаў для развіцця з'яўляецца развязаная імперыялістамі каласальная гонка ўзбраенняў, у якую аказаліся ўцягнутымі і многія краіны, што развіваюцца. У выніку велізарная частка сусветнага вытворчага патэнцыялу, рабочай сілы, навукова-тэхнічнага персаналу выкарыстоўваецца з пункту гледжання эканомікі нерацыянальна, на шкоду мірнаму развіццю. Гонка ўзбраенняў прывяла да павелічэння ў бягучым стагоддзі агульнага аб'ёму вытворчасці ўзбраенняў па меншай меры ў 20 разоў».

Такую ж, прынцыповую і рэалістычную, пазіцыю займала дэлегацыя і ў іншых дыскусіях. Выступаючы па пытанню «Аб дзеянні атамнай радыяцыі» (Спецыяльны палітычны камітэт), прадстаўнік БССР падкрэсліў, што «лепшы шлях абараніць чалавека ад уздзеяння атамнай радыяцыі заключаецца ў тым, каб прадухіліць небяспеку ядзернай вайны». Гучаў голас беларускага дэлегата і ў ходзе абмеркавання тэмы «Павага правоў чалавека ў перыяд узброеных канфліктаў», якое адбывалася ў рамках Шостага, юрыдычнага камітэта. Прамоўца ацаніў як істотны ўклад у справу развіцця гуманітарнага права прыняцце дадатковых пратаколаў да Жэнеўскай канвенцыі 1949 года аб ахове ахвяр вайны. «Аднак,— сказаў ён далей,— пазіцыя Беларускай ССР па-ранейшаму грунтуецца на разуменні таго, што дзейнасць, арганізаваная ў гэтай галіне, ні ў якой меры не азначае прызнання вайны ў якасці сродку вырашэння міжнародных спрэчак. Галоўная мэта гуманітарнага права — ахова жыцця і годнасці людзей — не можа быць дасягнута, пакуль існуюць войны і не ліквідаваны крыніцы напружанасці і канфліктаў».

Актыўны ўдзел прыняла дэлегацыя БССР і ў тых прынцыпова важных і часам цяжкіх дэбатах, якія вяліся ў Першым камітэце (пытанні бяспекі, уключаючы раззбраенне). На пачатку работы камітэта наш прадстаўнік выступіў тут у агульнай дыскусіі па пытаннях раззбраення. Ён гаварыў аб тым, што на сённяшні дзень у міжнароднага супольніцтва няма больш актуальнай задачы, чым адвесці пагрозу вайны, аб савецкіх мірных ініцыятывах, якія накіраваны супраць палітыкі мілітарызму і агрэсіі, супраць гонкі ўзбраенняў, уяўляюць сабой шырокую праграму барацьбы за разрадку і ўмацаванне асноў усеагульнага міру. А потым, калі ў камітэце пачалося абмеркаванне пытання «Аб паглыбленні і ўмацаванні разрадкі міжнароднай напружанасці і прадухіленні небяспекі ядзернай вайны» (унесенага, нагадаю, Савецкім Саюзам), адным з першых выступіў кіраўнік дэлегацыі БССР А. Е. Гурыновіч. Ён аргументавана падтрымаў — як своечасовую і важную — новую савецкую ініцыятыву, прывёў важкія довады ў яе карысць. «Яшчэ ў 1966 годзе,— нагадаў міністр замежных спраў БССР,— па ініцыятыве Польскай Народнай Рэспублікі XXI сесія Генеральнай Асамблеі ААН прыняла рэзалюцыю, у якой генеральнаму сакратару даручалася падрыхтаваць даклад аб выніках магчымага прымянення ядзернай зброі. Такі даклад быў падрыхтаваны з удзелам экспертаў Польшчы, СССР, ЗША, Англіі, Францыі, Швецыі, Мексікі, Канады, Японіі, Індыі, Нарвегіі і Нігерыі. Апісваючы вынікі магчымага прымянення ядзернай зброі, эксперты прыйшлі, у прыватнасці, да наступнага вываду. Калі ядзерныя бомбы ці снарады будуць калі-небудзь пушчаны ў ход, то загінуць сотні мільёнаў людзей і ў краінах, уцягнутых у канфлікт, надыдзе непазбежна канец цывілізацыі, якой мы яе ведаем, гэтак жа як і арганізаванаму грамадскаму жыццю наогул. Многія з тых, хто не быў бы адразу знішчаны, у тым ліку і жыхары краін, непасрэдна не ўцягнутых у канфлікт, падвергліся б шырокараспаўсюджанаму радыеактыўнаму забрудненню, пацярпелі б ад працяглага дзеяння радыяцыі і перадалі б сваім патомкам генетычны цяжар, які б пагубна адбіўся на лёсе наступных пакаленняў». «Вывад напрошваецца сам сабой,— працягваў далей А. Е. Гурыновіч.— Ён заключаецца ў тым, каб паступова зменшыць, а затым і ліквідаваць зусім пагрозу ядзернай вайны — самай грознай небяспекі для чалавецтва, каб сумесна змагацца за ўстойлівы, трывалы мір на зямлі. Менавіта так мы і ўяўляем сваю задачу. Савецкая дзяржава з часу свайго ўтварэння актыўна змагаецца за тое, каб гістарычная спрэчка паміж сацыялізмам і капіталізмам вырашалася не на палях бітваў, не ў гонцы ўзбраенняў, а ў сферы мірнай працы».

Не на палях крывавых бітваў, а на ніве мірнай працы, не шляхам узброеных канфрантацый, а шляхам перагавораў за круглым сталом... Менавіта так ставілася пытанне. І Асамблея ў пераважнай сваёй большасці прымала такую яго пастаноўку. Другіх выратавальных альтэрнатыў яна не бачыла. Не бачыла другога шляху для прадухілення новай — і, можа быць, апошняй, усёзнішчальнай,— вайны, для захавання міру і самога жыцця на планеце.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

РЭЗАНАНС

ЛЕС ЧАЛАВЕЧЫ



# АЛЬБЯРЦІНСКІ ГЕНЕРАЛ

Дарэвалюцыйны Слонім. На галоўнай вуліцы, каля вітрыны кнігарні Бенцыяна Любоўскага, часцяком можна было заўважыць сціплага юнака, які падоўгу разглядваў кнігі. Пастаіць, пастаіць і пойдзе. Зацікавіла гэта кнігара, і аднойчы ён не стрываў, запытаўся:

— Малады чалавек, а чаму вы ніколі не заходзіце да мяне ў магазін?

Хлопец збянтэжыўся, пачырванеў, апусціў вочы на свае стаптаныя чаравікі.

— Вы, пэўна, любіце кніжкі? — распытваў далей Любоўскі.

— Вельмі.

— Дык чаму ж не заходзіце?

— Грошай няма. Я працую на Альбярцінскай папяровай фабрыцы графа Пуслоўскага. Зарабляю мала.

— Нічога, калі-небудзь заробіце больш. А пакуль што заходзьце без грошай!

І кнігар павёў хлопца ў сваю бібліятэку, што знаходзілася ў падвале магазіна.

— Выбірайце любыя кніжкі, ды так, каб вам на тыдзень чытаць хапіла. А ў наступную нядзелю возьмеце яшчэ.

У хлопца аж вочы заблішчэлі ад радасці. З таго часу кожную нядзелю прыходзіў ён да Любоўскага і ніколі не выходзіў ад яго з пустымі рукамі.

Надышоў 1917 год. Водгулле рэвалюцыйных падзей дакацілася і да маленькага Слоніма, ускалыхнула яго правінцыяльную цішыню, унесла карэктывы ў жыццё яго жыхароў. Кудысьці знік і больш не прыходзіў па кнігі хлопец-кнігалюб.

Верасень 1939 года. Слонім зажыў новым жыццём: Чырвоная Армія вызваліла яго ад белапольскай акупацыі. Перад кнігарняй Любоўскага затрымалася ваенная машына. Статны афіцэр выйшаў з машыны і накіраваўся ў магазін. Увайшоўшы, узяў пад казырок:

— Добры дзень, таварыш Любоўскі! Ці памятаеце вы таго альбярцінскага хлопца, якому давалі чытаць кніжкі?

— Як жа, як жа, памятаю...

— А ці ведаеце вы, што тыя кнігі дапамаглі хлопцу стаць палкоўнікам Чырвонай Арміі, які стаіць перад вамі?..

Вайсковец абняў і пацалаваў усхваляванага кнігара, а потым пасадзіў яго ў машыну і павёз у свой родны Альбярцін.

...Доўга гутарылі былыя сябры. Было ім аб чым пагаварыць. А калі апынуліся ў розных мясцінах, пачалі перапісвацца. Часта паказваў мне стары Любоўскі пісьмы, што прыходзілі з Масквы, і змахваў з вачэй слёзы радасці.

Сорак чацвёрты год. Вайна толькі што адкацілася на захад ад знявечанага фашыстамі Слоніма, пакінуўшы несуцешных удоў і сірот. І днём і ноччу праходзілі па горадзе савецкія часці, грукаталі па бруку танкі і гарматы, але грукат гэты ўжо нікога больш не палохаў. Каля дома гісторыка-краязнаўчага музея, дырэктарам якога я быў на той час, спынілася легкавушка. У памяшканне ў суправаджэнні афіцэраў зайшоў генерал і пачаў аглядаць здымкі на сценах фае.

— А вось і мой родны Альбярцін! — узрадавана паказаў генерал на адзін са здымкаў.

— Прабачце, вы генерал-маёр Леашэня? — падышоў я да яго.

— Але... Адкуль вы ведаеце маё прозвішча? — здзівіўся ён.

— Мне пра вас расказваў Любоўскі...

— Дзе ж ён цяпер? — усхвалявана спытаўся генерал.

— Расстраляны фашыстамі.

Генерал спахмурнеў, зняў фуражку. Пастаяў так некалькі хвілін моўчкі, а потым развітаўся і выйшаў.

Як потым мне стала вядома, Яўген Варфаламеевіч Леашэня, дацэнт, кандыдат ваенных навук, генерал-лейтэнант інжынерных войск, быў вучнем, а пасля першым памочнікам генерала Дзмітрыя Міхайлавіча Карбышава. Жыў ён у Маскве, але кожнае лета прыязджаў у родны Альбярцін, у сваю старэнькую хатку, дзе нарадзіўся. Часта ўспамінаў добрым словам чулага кнігара Любоўскага, Вялікую Кастрычніцкую сацыялістычную рэвалюцыю, якая вывела яго, простага альбярцінскага юнака, на шырокі жыццёвы шлях.

Генерал Леашэня напісаў гісторыю Слоніма і Слонімшчыны і перадаў яе ў Слонімскі гісторыка-краязнаўчы музей, дзе па сённяшні дзень захоўваюцца чатыры тоўстыя рукапісныя тамы з дакументамі і фотаздымкамі. А мне асабіста ён падарыў кнігу ўспамінаў пра Д. М. Карбышава пад назвай «Салдат, герой, вучоны», навуковым рэдактарам якой ён быў. Падарыў і сваё фота, якое вы бачыце побач з матэрыялам. Да самай смерці генерала працягвалася наша з ім перапіска. Памёр Яўген Варфаламеевіч Леашэня на 81 годзе жыцця, пакінуўшы нам, яго землякам, узор самаадданага служэння Радзіме.

Сяргей НОВІК-ПЯЮН.

---

ЗРАБІЦЕ САМІ



# ЧЫМ УХАПІЦЬ ПАТЭЛЬНЮ?

Нельга не пагадзіцца, што кухня — люстэрка ўсяго дома. Тут пануе жанчына, праводзіць шмат часу, занятая звычайнымі хатнімі справамі. Тут збіраецца ўся сям'я. І, відаць, менавіта тут, дзесьці ў кутку, жыве казачны дамавік — захавальнік сямейнага ачага. Мусіць, ён і дапамагае некаторым гаспадыням ствараць атмасферу згоды ў сям'і.

Але многія жанчыны не надта спадзяюцца на кутніка-дамавіка. Чысціня і парадак, смачная ежа і прыбраны стол, ласкавая ўсмешка і слова спагады — вось што яны лічаць залогам утульнасці і добрага настрою ў сям'і. Добрая гаспадыня на кухні не забудзецца апрануцца ў прыгожы фартушок, пасланць яркія сурвэткі. У такой гаспадыні не тое што ручнікі ды абрусы, а і кухонная рукавічка будзе радаваць вока, бо гэта не проста неабходная рэч, а рэч, зробленая з павагай да харства.

І мы можам зрабіць прыгожую рукавічку, тым больш, што ў кожнай хаце знойдуцца рознакаляровыя кавалкі тканіны, стужкі, тасёмкі, розныя прылады для рукадзелля.

Выкраім дэталі, як паказана на малюнку: два квадраты з аднатоннай (пажадана, цёмнай) тканіны; дзве дэталі са зрэзаным вуглом, каляровыя, яркія; адзін квадрат-пракладку з ваціну ці фланэлі. Квадраты са зрэзаным вуглом сшыем па лініі зрэзу, вывернем. Цяпер іх, разам сшытыя, можна ўпрыгожыць аплікацыяй, вышыўкай, каляровымі стужкамі — далей будзем лічыць гэта за адну дэталь. Складзём падрыхтаваныя дэталі ў наступным парадку: пракладку 4, адзін з суцэльных квадратаў 3, пяцельку-вешалку, дэталь з малюнкам 2 правым бокам уверх, другі суцэльны квадрат 1 — і прастрочым па перыметры, не кранаючы адрэзак «а». Ля месц замацавання строчкі тканіну надрэзаць вельмі акуратна, каб не парушыць шыўкоў,— і вывернуць рукавічку паміж дэталямі 3 і 2. Выправіць тканіну і застрачыць адрэзак «а», затым вывернуць зноў, на гэты раз канчаткова, паміж дэталямі 1 і 2. Гатовы выраб адпрасаваць.




Малюнкі аўтара.




Першая рукавічка — як і блін — можа атрымацца і камяком, дык не палануйцеся зрабіць яшчэ некалькі, з рознымі малюнкамі, рознай формы — ім заўсёды знойдзецца месца на кухні. Такія рукавічкі могуць служыць і сурвэткамі, і кішэнькамі для кухоннай дробязі, а асабліва ўдалую можна і падараваць. Галоўнае ж — наша кухня зробіцца яшчэ больш утульнай і прыгожай.

Алена ЛОСЬ-ЗАЛУЖНАЯ.

## ПЕСНЯ ПА ЗАЯЎЦЫ

Музыка Э. ХАНКА.

Словы Г. БУРАЎКІНА.

Moderato

## ЖАР-ПТУШКА

Колькі б нам за жар-птушкаю ўслед не ганяцца,
Усё роўна прыблудзім назад у сяло,
Дзе ў далёкім юнацтве, у шчаслівым юнацтве } 2 разы
На цара-жураўля майстравалі сіло.

Ціха сонца за хаты старыя садзіцца.
Пачынаюць рабіны ў дварах ружавець.
У сяброў па садах сыта звоняць сініцы. } 2 разы
І крычыць недасяжна ў небе мой жаравель.

Мы ідзём па сцяжынках, на якія не вернемся,
Мы ідзём па дзіцячых здзічэлых лясах.
Павуцінка — уверсе.
Павуцінка — у верасе. } 2 разы
Павуцінка ў маіх і тваіх валасах...





## У новы дом

Неяк атрымалася, што мне так і не давялося больш пабываць у гэтай вёсцы. А прайшло ўжо сорак гадоў...

Прыехаў я ў вёску Сяргеевічы Пухавіцкага раёна восенню 1945-га. І якраз трапіў на свята — улазіны. Герой майго здымка, прыйшоўшы з фронту, як кажуць, не здымаючы гімнасцёркі, спяшаўся пабудаваць новую хату, каб выбрацца да зімы з зямлянкі. А трэба ж было яшчэ дапамагчы суседзям — усе тады будаваліся, і не ў кожнай сям'і быў гаспадар...

У спешцы я нават не запісаў прозвішча гэтых цудоўных людзей, аб чым цяпер вельмі шкадую. Але, спадзяюся, што яны жывыя-здаровыя і пазнаюць сябе на здымку і, магчыма, прышлюць аб сабе нейкую вестку...

**Уладзімір ЛУПЕЙКА.**

## САКРЭТ «ФІРМЫ»

**Заўсёды перапоўнены рэстаран «Журавінка». Мінчан і гасцей сталіцы вабіць сюды смачная беларуская нацыянальная кухня. У меню рэстарана — зацірка і «калдуны», мачанка з блінамі і тушаныя грыбы ў гаршчочку. Як таго і патрабуе назва «фірмы», круглы год на стале — журавіны. Ужываюцца яны не толькі для прыгатавання мусаў, жэле і кампотаў, але і супу, і салатаў, і нават... катлет. Рэцэпт фірменнай катлеты «Журавінка», як і многіх іншых страў, якія прыйшліся даспадобы наведвальнікам, распрацавала загадчык вытворчасці Любоў Іванаўна ЯКІМОВІЧ, майстар-повар вышэйшай кваліфікацыі.**

**Па нашай просьбе Любоў Іванаўна згадзілася падзяліцца з вамі, паважаныя чытачы, некаторымі сакрэтамі «фірмы», расказаць, як прыгатаваць смачныя стравы ў хатніх умовах.**

### СМАЖАНІНА ПА-ХАТНЯМУ

Мяса ялавічыны або свініны нарэзаць кавалачкамі і засмажыць на патэльні з тлушчам, потым дабавіць цыбулю і моркву, нарэзаную саломкай, тамат і ўсё разам прапражыць на павольным агні. Дабавіць муку, перамяшаць, развесці грыбным адварам (абварваем папярэдне замочаныя сухія грыбы). Асобна смажым да паўгатоўнасці нарэзаную брусочкамі бульбу, змешваем яе з мясам і тушым у каструлі з тоўстым дном. Можна ўсё перакласці ў гліняны гаршчок і тушыць у духоўцы.

Падаючы смажаніну на стол, не забудзьцеся пасыпаць яе крышаным зяленівам — гэта і прыгожа і смачна.

**На сям'ю з чатырох чалавек патрэбна: 300 грамаў мякаці ялавічыны або свініны, 4 цыбуліны, 2 морквы, 1 ст. лыжка тамат-пасты, 1 ст. лыжка мукі, 100 грамаў свінога тлушчу або маргарыну, 5—7 сухіх грыбоў, 600 грамаў бульбы.**

## ВІКТАРЫНА

## «НАШ РОДНЫ КРАЙ»

## АДКАЗЫ НА ПЫТАННІ ДРУГОГА ТУРА

1. Горад Полацк з'яўляецца адным з самых старажытных гарадоў нашай краіны, упершыню ён упамінаецца ў Іпацьеўскім спісе «Аповесці мінулых часоў» пад 862 годам.

2. У 1908 годзе выйшаў першы зборнік вершаў Я. Купалы «Жалейка», у 1910 годзе — зборнік «Песні жальбы» Я. Коласа.

3. Адкрыццё Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адбылося 7 лістапада 1944 года.

4. На здымку — кадр з кінафільма «Людзі на балоце», знятага рэжысёрам В. Туравым па аднайменнаму раману І. Мележа. Галоўныя ролі ў гэтым фільме выконвалі Алена Барзова, Юрый Казючыц, Генадзь Гарбук, Юрый Гарабец, Барыс Няўзораў, Марына Якаўлева.

5. Скульптурная кампазіцыя «Купалінкі» створана ў 1972 годзе скульптарам А. Анікейчыкам у сааўтарстве з Л. Гуміляўскім і А. Заспіцкім (архітэктары Ю. Градаў, Л. Левін).

6. Першым сярод беларускіх спартсменаў уладальнікам алімпійскага медаля стаў кідальнік молата Міхаіл Крываносаў (Мельбурн, 1956 год).

7. Паводле прамысловых запасаў калійных солей Беларусь займае другое месца ў СССР (найбольш значныя радовішчы Старобінскае і Петрыкаўскае); значныя запасы торфу знаходзяцца на Палессі.

На ўсе пытанні другога тура правільныя адказы прыслалі: **Віктар Марыганаў** (г. Віцебск), **Васіль Навічонак** (г. Магілёў), **Ганна Вашкевіч** (г. Светлагорск), **Ірына Галяк** (Іванаўскі раён), **Любоў Мухаед** (Ельскі раён), **Іван Сухоцкі** (г. Гродна), **Уладзімір Барысюк** (г. Брэст), **Віталь Свістуновіч** (Ляхавіцкі раён), **Н. Башарымаў** (г. Магілёў), **В. Жабрун** (Бярозаўскі раён), **Ванда і Аляксандр Кашэта** (Шчучынскі раён), сям'я **Сасноўскіх** (г. Магілёў), **Тамара Самушчык** (г. Баранавічы), **Ніна Кавальчук** (Мастоўскі раён), **Мікола Рэут** (г. Салігорск), **Раіса Хамянок** (г. Гомель), **Валерый Прыз** (г. Брэст), **Надзея Камарчук** (г. Кобрын).

Жадаем усім удзельнікам настойлівасці і ўдачы ў апошнім туры віктарыны!




# ПАЎДНЁВЫ ГОСЦЬ

Вінаград здаўна лічыцца каралём усіх ягад. Возьмеш у руку важкую, духмяную гронку, і здаецца, што буйныя, з тонкай скурачкай ягады напоўнены не салодкім бурштынавым сокам, а да краёў наліты шчодрым паўднёвым сонцам. У свежым і кансерваваным выглядзе вінаград нязменна застаецца каштоўным прадуктам харчавання, багатым на цукар, бялковыя і пекцінавыя рэчывы, вітаміны $B_1$, $B_2$, $B_6$, С, РР. Нягледзячы на тое, што культура гэта патрабуе асаблівага догляду, яна культывуецца ў субтрапічных зонах Еўропы, Азіі, Амерыкі і Афрыкі ўжо 4—6 тысяч гадоў.

Пачынаючы з XVI стагоддзя, вінаград вядомы і на Беларусі. Найбольш спрыяльныя для яго вырошчвання паўднёвыя раёны Брэсцкай і Гомельскай абласцей. У свой час мне давялося працаваць у спецыяльна створаным Пружанскім вінаградным саўгасе (быў некалі такі саўгас) і займаць, відаць, адзіную на Беларусі пасаду агранома-вінаградара. Вось чаму мне хацелася б тым-сім падзяліцца з беларускімі садаводамі-аматарамі, якія маюць намер вырошчваць сонечныя ягады.

Разводзіць вінаград звычайна пачынаюць у красавіку, выкарыстоўваючы добра выспелы леташні прырост. Многія садаводы разводзяць вінаград атожылкамі, не аддзяляючы іх ад матачнага куста. З гэтай мэтай ніжнія неабрэзаныя лозы ўкладваюць у равочкі глыбінёй 12—14 сантыметраў. Пры выкарыстанні дугападобных атожылкаў канец лазы выгінаюць уверх, а ніжнюю частку засыпаюць зямлёй (малюнак 1). Над паверхняй глебы пакідаюць 2—3 пупышкі, астатнюю частку лазы зразаюць.



Мал. 1. Дугападобны атожылак.



Мал. 2. Гарызантальны атожылак.

Гарызантальныя атожылкі, якія забяспечваюць большы каэфіцыент размнажэння, цалкам кладуць у раўкі, замацоўваюць драўлянымі вілкамі і засыпаюць рыхлай зямлёй на 2—3 сантыметры. Паступова, па меры росту парасткаў, якія з'яўляюцца з пупышак, равок засыпаюць сумессю зямлі з торфам або перагноем (малюнак 2). Увосень саджанцы выкопваюць, разразаючы гарызантальныя атожылкі па колькасці раслін.

Але часцей за ўсё вінаград даводзіцца разводзіць чаранкамі. Наразаюць іх восенню або яшчэ лепш ранняй вясной, адразу пасля адтавання глебы. Удоўж чаранкі павінны мець адва-тры міжвузеллі. Ніжні касы зрэз робяць непасрэдна пад пупышкай (яе трэба сашчыкнуць), верхні прамы зрэз — на 1—1,5 см вышэй пупышкі. Нарыхтаваныя з восені чаранкі ўсю зіму захоўваюць у падвальным памяшканні ў вільготным імху, пяску або пілавінні.




Мал. 3.
Парнік для прарошчвання чаранкоў:
1 — парніковая рама;
2 — слой зямлі над чаранкамі;
3 — рашэцістае дно;
4 — снег.




Мал. 4.
Высадка чаранкоў у канаўку.

Вясною з мэтай паскарэння ўтварэння каранёвай сістэмы і замаруджвання прарастання пупышак чаранкі прарошчваюць, звязаўшы іх у пучкі па 50—60 штук (ніжнія канцы чаранкоў павінны знаходзіцца на адным узроўні). Пучкі змяшчаюць у скрыню з рашэцістым дном з планак верхнімі канцамі ўніз (малюнак 3). У папярэдне выкапаную пад скрыняй яму шчыльна набіваюць снег або лёд. Прастору паміж пучкамі і сценкамі скрыні засыпаюць пілавіннем або мохам. Зверху на пучкі насыпаюць слой зямлі таўшчынёй 10—12 сантыметраў і закрываюць парніковай рамай або поліэтыленавай плёнкай. У гэтых умовах верхнія пупышкі знаходзяцца пры нізкай тэмпературы і не прарастаюць, а ніжнія канцы праграваюцца на сонцы да 25—30 градусаў. Неабходна перыядычна паліваць глебу над чаранкамі.

Праз тры тыдні на ніжніх канцах чаранкоў утвараюцца зачаткі каранёў у выглядзе вузельчыкаў. Гэта азначае, што чаранкі можна высаджваць у грунт. Найперш трэба выкапаць канавы глыбінёй 40 сантыметраў, накіраваныя з захаду на ўсход. Паўночная сценка канавы павінна мець нахіл у 30—40 градусаў (малюнак 4). На дно насыпаецца слой зямлі з перагноем або торфам у 10 сантыметраў. Чаранкі ўкладваюць пад нахілам да паўночнай сценкі канавы так, каб верхняя пупышка знаходзілася над узроўнем зямлі. Глебу над асновай чаранка ўтрамбоўваюць, а тую частку, што засталася над зямлёй, акучваюць, пакідаючы канаўку адкрытай для лепшага прагравання асновы чаранка. Слой зямлі, які засцерагае верхнюю пупышку ад перасыхання, складае 2—3 сантыметры. Неўзабаве парасткі набяруць моцы і самі праб'юцца на паверхню.

На працягу лета неабходна знішчаць пустазелле і асцярожна падрыхляць глебу, стараючыся не пашкодзіць кволыя парасткі вінаграду. У засушлівае надвор'е саджанцы паліваюць. Каб атрымаць добры пасадачны матэрыял, над канавай ставяць дугі з нацягнутай поліэтыленавай плёнкай.

**Навум МЕЛЬНІК,**
**кандыдат сельскагаспадарчых навук.**

**Рэдакцыя запрашае ўсіх садаводаў-аматараў падзяліцца на старонках «Беларусі» сваім вопытам арганізацыі працы на садовых і прысядзібных участках, расказаць аб розных прыладах і сродках «малой» механізацыі, якімі яны карыстаюцца для аблягчэння працы.**

**Анатоль ГАНТВАРГ,**
**чэмпіён свету па шашках**



# «МАЯ КНІГА— НЕ МЕМУАРЫ...»

**(Заканчэнне. Пачатак у № 1.)**

У 1966 годзе я ўпершыню ўвайшоў у фінал чэмпіяната СССР. Відавочна, мая гульня не рабіла моцнага ўражання на больш вопытных праціўнікаў, хаця быў я ў дзесятцы мацнейшых шашыстаў краіны. Мае поспехі ўспрымаліся як выпадковыя. Мяне гэта не толькі не крыўдзіла, але нават... задавальняла. Бо калі цябе недаацэньваюць, то за дошкай гэта абарочваецца на тваю карысць. Тады я сам здзіўляўся сваім поспехам. Разумеючы, што мой тэарэтычны арсенал яшчэ даволі сціплы, звычайна тлумачыў свае поспехі за дошкай пазіцыйным чуццём, інтуіцыяй.

Цяпер я, бадай, магу акрэсліць тыя якасці, што дапамаглі мне змагацца са славутымі сапернікамі.

Гавораць, стыль — гэта чалавек. Калі такія шашысты, як Андрэйка, Вірсма, Баба Сі ўражвалі талентам, лёгкасцю гульні, калі Сейбрандсу дапамагаў навуковы падыход да гульні, то мяне ў юнацтве перапаўняла прага барацьбы. Але, не валодаючы такім класам, разуменнем гульні, як Андрэйка, Шчогалеў, я імкнуўся перамагаць вопытных майстроў, ставячы іх у цяжкія, нярэдка нязвыклыя сітуацыі. Нягледзячы на паспяховае выступленне ў першым чэмпіянаце краіны, засталася незадаволенасць якасцю гульні і ўпэненасць у рэальнасці большага.

Зноў вярнуся да ўспамінаў дзяцінства. Вечарамі на лаўках масціліся не толькі хлапчукі. Гулялі ў шашкі, шахматы, даміно дарослыя. І мне заўсёды было цікава назіраць, як ігравая сітуацыя адбіваецца на тварах, паводзінах, рэпліках. Пазней навыкі гэтага «псіхалагічнага практыкуму» спатрэбіліся, асабліва ў турнірах з «стракатым» саставам, калі неабходна дакладна ўгадаць і сілу, і ўнутраны стан кожнага праціўніка.

Я стараўся гуляць рызыкоўна, вышукваючы «ключык» да канкрэтнага ігрока. Выбару такой тактыкі папярэднічала ацэнка партнёра. Падобная манера гульні патрабавала вялікага напружання, прапаноўваючы праціўніку балансаванне на дроціку, лёгка сарвацца і самому. Выступаў вынікова, але ў мяне не было найграных схем, якія б дазвалялі гуляць больш вольна, лёгка. У працяглых і моцных па саставу турнірах асобныя паядынкі трэба праводзіць за кошт тэхнікі, змяншаючы напружанне. Адсутнасць сваіх ігравых канцэпцый давала сябе адчуць у партыях з гросмайстрамі экстра-класа. Я гуляў з імі смела, але лік у асабістых сустрэчах быў для мяне несуцяшальным. Думаю, што паражэнні, якія я цярпеў ад Андрэйкі, Шчогалева, далі мне многае не толькі ў сэнсе разумення гульні, але і ў псіхалагічных адносінах: навучыўся, як гавораць баксёры, «трымаць удар».

За дэбютам на чэмпіянаце краіны адбыўся і міжнародны. У маі 1967 года мяне ўключылі ў састаў спартыўнай дэлегацыі, якая накіроўвалася ў Галандыю на «турнір Брынта», дзе гулялі славутыя шашысты. Я ўпершыню пазнаёміўся з Сейбрандсам, Вірсмай, Баба Сі. Я выступаў у пабочным турніры, дзе гулялі маладыя шашысты, некаторыя з якіх пазней сталі вядомымі. Я разумеў, што мяне паслалі на міжнародны турнір як маладога, перспектыўнага шашыста, што праціўнікі не вытрымліваюць працяглага напружання, характэрнага для партый чэмпіянатаў СССР. Я набраў 9,5 ачка з 10 і, хаця маё выступленне ацанілі станоўча, аднёсся да свайго выніку самакрытычна.

Летам прыняў удзел у больш моцным міжнародным турніры ў Батумі. Ён быў цікавы тым, што ўпершыню супраць мацнейшых савецкіх шашыстаў выступаў 17-гадовы Тоні Сейбрандс. Галандзец гуляў лёгка і магутна і стаў пераможцам. На мяне гульня Сейбрандса зрабіла моцнае ўражанне: асэнсаванне яго ідэй надоўга стала часткай маіх творчых пошукаў. Я раздзяліў з С. Маншыным 4—5-е месцы, што ў такім моцным саставе было добрым вынікам.

Але больш за ўсё я быў задаволены ходам партыі з самім Сейбрандсам. Ускладненні, задуманыя галандцам, былі мною падтрыманы без баязлівасці. У горшай пазіцыі Сейбрандс дакладнымі ходамі прывёў партыю да нічыёй.

Праз два дні пасля гэтага тура ў Маскве адбыўся першы матч савецкіх і галандскіх шашыстаў. Я гуляў на апошняй, дзесятай, дошцы. Наша каманда перамагла 20:10, я выйграў у Д. ван дэр Стая — 2,5:0,5.

1967 год — самы шчаслівы: было адчуванне руху, росту. Чэмпіянат СССР праводзіўся ў канцы года ў Мінску. Тры пераможцы атрымлівалі пуцёўкі на Алімпійскі турнір у Бальцана. У «родных сценах» хацелася апраўдаць надзеі балельшчыкаў. Гуляў я больш стабільна, чым год назад, і ў выніку адстаў ад пераможцы і раздзяліў 3—4-е месцы з Андрысам Андрэйкам. Паводле лепшага каэфіцыента бронзавы медаль уручылі мне, а ўладальніка пуцёўкі ў Бальцана па рашэнню федэрацыі шашак СССР павінен быў вызначыць дадатковы матч.

Першы медаль у чэмпіянаце краіны спакою мне не даваў: паядынак з рыжанінам, які знаходзіўся ў росквіце таленту, не абяцаў мне асаблівых спадзяванняў. Я ехаў у Вільнюс з намерам змагацца і, галоўнае, вызначыць сапраўдны ўзровень сваёй гульні з дапамогай самага аўтарытэтнага ў краіне экзаменатара. Нягледзячы на баявы на-

строй, ужо на старце матча ўцяміў, што дэбютныя спрэчкі складваюцца на карысць Андрэйкі. Пройгрыш другой партыі на кароткай дыстанцыі амаль не пакінуў надзей на поспех. У Бальцана паехаў Андрыс Андрэйка і стаў чэмпіёнам свету.

1968 год быў, бадай, самым цяжкім. Надоўга пазбавіла мяне душэўнай раўнавагі несуцешнае гора — памёр бацька. На міжнародным турніры «Туркстра» ў галандскім горадзе Леевардэне я гуляў няроўна. Наперадзе аказаліся Шчогалеў, Андрэйка, Сейбрандс. Я падзяліў 4—6-е месцы. Праз месяц на міжнародным турніры ў Кутаісі, нягледзячы на даволі слабы састаў, гуляў з нейкай апатыяй і быў толькі дзевятым.

Год закончыўся чэмпіянатам краіны. Ужо на старце я адчуў, што крызіс адступіў. Упершыню прайшоў усю дыстанцыю без паражэнняў. Мы з Андрэйкам атрымалі па восем перамог і разам перасеклі фінішную рысу. Матч на званне чэмпіёна павінен быў адбыцца ўжо ў студзені. У гэты ж час я павінен быў здаваць зімовую сесію ва універсітэце.

Да другога матча з Андрэйкам я падышоў з вялікім жаданнем даць бой, але... На кароткай дыстанцыі з шасці партый Андрэйка дабіўся перавагі ўжо на старце. Ён выйграў першую партыю, у трэцяй я захапіўся стратэгічнымі праблемамі і прапусціў нескладаны ўдар. У пятай дамогся выйгрышнай пазіцыі, але недакладнай гульнёй звёў на нішто ўсе намаганні. У выніку зноў вымушаны быў прызнаць перавагу саперніка, цяпер ужо чэмпіёна свету.

Спартыўныя і творчыя вынікі чэмпіяната СССР у Харкаве (1968 г.) прынеслі мне задавальненне: удалося правесці складаны стратэгічны план у вастрэйшай партыі з Л. Заліцісам, ажыццявіць дзевяціхадовую камбінацыю супраць С. Ягорава. Я ўпершыню стаў чэмпіёнам краіны і заваяваў пуцёўку на турнір прэтэндэнтаў. Тут жа давёдаўся аб прысваенні мне звання «Гросмайстар СССР».

Мінула два гады пасля таго, як мне ўпершыню выпала магчымасць выпрабаваць свае сілы на першым этапе адбору чэмпіяната свету.

Рэпетыцыяй перад турнірам прэтэндэнтаў стаў міжнародны турнір у Самаркандзе ў маі 1970 года. Мае спадзяванні не спраўдзіліся. Азартная гульня часта прыводзіла да кепскіх пазіцый. Дабіцца пераломy я не змог і апынуўся ў другой палове турнірнай табліцы.

У чэрвені ў турніры прэтэндэнтаў у Монтэ-Карла я стараўся гуляць, не думаючы пра нядаўнія няўдачы, але быў толькі трэцім, адстаўшы на паўачка ад пераможцаў. На чэмпіянаце краіны ў Таліне я імкнуўся рэабілітаваць сябе. На працягу ўсяго турніра змагаўся за вышэйшыя ўзнагароды, але паражэнне на фінішы ад С. Давыдава адкінула мяне на чацвёртае месца.

Год 1970-ты лічу пераломным у сваёй спартыўнай біяграфіі не з-за першай асечкі ў барацьбе за сусветнае першынство і не з-за перамогі ў прэстыжным «Сахарным турніры».

Мне стукнула дваццаць два гады. З таго часу я быў заўсёды адным з прэтэндэнтаў на званне чэмпіёна свету. Але ў маіх выніках назіраліся недапушчальныя пры сур'ёзных спартыўных планах перапады. Адна з прычын — гэта мой стыль гульні: гранічнае напружанне ў кожнай партыі, рызыка, часам празмерная. Я многа сіл аддаваў шашкам, але ўсё яшчэ не выпрацаваў такога фундаментальнага падыходу да гульні, як Андрэйка і, асабліва, Сейбрандс. Былі пралікі ў разуменні стратэгіі, не хапала абгрунтаванага, надзейнага дэбютнага рэпертуару, які дазволіў бы ставіць сур'ёзныя праблемы перад асноўнымі канкурэнтамі. І не было ўмення валодаць сабой. Я затрачваў многа непатрэбных эмоцый, «перагараў». Адбівалася і неабходнасць сумяшчаць вучобу са спортам.

## НА ПОДСТУПАХ ДА ВЯРШЫНІ

У барацьбе за званне чэмпіёна свету я лічыў галоўным саപернікам Андрэйку — найбольш яркага і універсальнага шашыста 60-х гадоў. У 1967 годзе ў Батумі, назіраючы за партыяй Сейбрандс — Андрэйка, я зразумеў, што на арэну выходзіць баец выключнай сілы. Вірсма тады яшчэ не паказваў усяго, на што здольны, але ў лёгкасці яго гульні, хуткасці рэакцыі адчуваліся велізарныя патэнцыяльныя магчымасці. Я ўсведамляў, што калі збіраюся рабіць замах на многае, то павінен рыхтавацца да саперніцтва з галандцамі.

Мне здавалася, што да Алімпійскага турніра я гатовы, як ніколі. Але гэта быў турнір Сейбрандса. Ён правёў яго смела, магутна, ярка. Уражлівы быў і вынік — 13,5 з 16! На ачко адсталі Вірсма і Андрэйка.

Паўачка аддзяляла мяне ад прызёраў. Аналізуючы вартасці тых, хто абышоў мяне, я разумеў, што трэба дабівацца стабільнасці, пашыраць творчы арсенал.

Наступны год — адзін з найбольш памятных у творчых і спартыўных адносінах. У маі ў Ялце праходзіў чарговы матч СССР — Нідэрланды. Улічваючы нежаданне Андрэйкі і Сейбрандса «раскрывацца» перад маючым адбыцца матч-рэваншам, магчымасць «скрыжаваць шпагі» з чэмпіёнам свету далі мне.

Сейбрандс быў у зеніце славы. Нават вядучыя гросмайстры з яўнай нясмеласцю садзіліся супраць яго за дошку, і не падумваючы пра выйгрыш.

Магчымасць згуляць з Сейбрандсам матч з чатырох партый выклікала ў мяне велізарны спартыўны запал, жаданне праверыць свае творчыя канцэпцыі. Першая партыя збянтэжыла. У вядомым цяпер, а тады яшчэ толькі складваемым варыянце Сейбрандс здолеў захапіць цэнтр і тэхнічную частку партыі правёў так, як ён гэта ўмеў. На другі дзень я рашыў накіраваць гульню ў больш звыклае для меня рэчышча. Ужыты мною стратэгічны план быў рызыкоўным. Мой левы фланг здаваўся аслабленым. Тады Сейбрандс рынуўся на фланг, але аддаў ініцыятыву ў цэнтры. Ва ўзаемным цэйтноце мая чаша шаляў пераважыла. Перамога над чэмпіёнам свету акрыліла. Але важнейшым было другое: высветлілася, што фенаменальны разлік галандца, яго жалезная логіка могуць адступіць перад рызыкай, нязвыклай сітуацыяй на дошцы. У дзвюх астатніх партыях кожны з нас дабіўся «нічыёй з перавагай». Гэта серыя сустрэч мела для мяне ні з чым не параўнальнае значэнне.

У 1975 годзе Сейбрандс афіцыйна адмовіўся ад барацьбы за сусветнае першынство. Гэта здзівіла ўсіх. Пасля матч-рэваншу з Андрэйкам ён упершыню зачараваў пра свой магчымы адыход. Сейбрандс не той чалавек, каб какетнічаць для самарэкламы. Стала зразумела, што Тоні зрабіў свой выбар і я ўжо не сустрэнуся з ім у матчы. Многія гаварылі: «У цябе з'явіўся шанц». А я быў расчараваны. Я схіляў галаву перад талентам Сейбрандса, але ўжо не брала мяне боязь у партыях з ім. Сваім галоўным працўнікам я заўсёды лічыў уласныя слабасці, неўраўнаважанасць. Мне неабходна было навучыцца ў рашаючы момант, у афіцыйных спаборніцтвах гуляць гэтак жа змястоўна, вольна, як у неафіцыйных турнірах з не менш моцным саставам.

У мяне быў горшы лік у сустрэчах з Сейбрандсам — дзве партыі прайграў, адну выйграў пры астатніх нічыіх, але я гуляў з ім востра, не ўхіляўся ад атак. Нават у кепскіх пазіцыях часта знаходзіў дастатковыя ігравыя рэсурсы. Да таго ж перамогі ў некалькіх «Сахарных турнірах» дадалі аптымізму: калі там змог адужаць Сейбрандса і Вірсму, то чаму б не дабіцца таго ж на чэмпіянаце свету па кругавой сістэме?

Зноў успыхнула ранейшае саперніцтва з Андрэйкам. На Кубку СССР мне ўдалося нанесці яму паражэнне. У пазіцыі, дзе, здавалася б, ён атакаваў, я разлічыў працяглы фарсіраваны варыянт, серыяй паслядоўных камбінацыйных пагроз прымусіўшы яго капітуляваць. Перамагчы Андрэйку яго ж зброяй нямногім удавалася. Я пераканаўся, што іду правільным шляхам і не павінен губляць упэўненасці ў сабе.

На чэмпіянаце краіны 1975 года я падзяліў 1—3-е месцы з Андрэйкам і Магілянскім. У дадатковым матч-турніры Андрэйка быў першым. Нечаканая трагічная гібель Андрыса Андрэйкі абарвала яго яркі спартыўны шлях. Незавершаным засталося і наша саперніцтва.

На алімпійскім турніры 1976 года заззяла зорка Вірсмы. Ён гуляў, як ніколі. Не меншае ўражанне, чым канчатковы вынік (14 з 17!), зрабіў разгром Вірсмай з сухім лікам трох савецкіх гросмайстраў. Пра яго, як раней пра Сейбрандса, пісалі: «Геніяльны, непаўторны, мацнейшы сярод мацнейшых» і г. д. Многія аўтарытэты лічылі, што змагацца з ім проста немагчыма.

Я прапусціў наперад не толькі Вірсму, але яшчэ Клерка і Шчогалева. Зноў чацвёрты, як і ў 1972-м...

Да паражэнняў, у тым ліку ад асноўных канкурэнтаў, мне было не прывыкаць. Гульнёй Вірсмы я захапляўся. У многім ён пайшоў далей Сейбрандса, гуляў больш разнастайна, вольна, унёс шмат новых ідэй. Я не збіраўся аспрэчваць яго геніяльнасць. Не згодзен быў толькі з тым, што з Вірсмай... «бескарысна змагацца».

Пра мой аптымізм здагадваліся нямногія — вынікі пакуль што гаварылі не на маю карысць. Хаця я толькі набліжаўся да трыццацігадовага рубяжа, але папаўзлі ўжо чуткі, «што Гантварг выдыхнуўся і аб яго ўзлёце цяжка чакаць». Чэмпіянат СССР 1977 года быў для мяне прынцыповым. Я заваяваў трэці залаты медаль.

□ □ □

Апошні чэмпіянат свету адбыўся на Афрыканскім кантыненце, у сталіцы Сенегала Дакары. Афрыка станавіцца шчаслівай для мяне. У 1980 годзе мне ўдалося перамагчы на чэмпіянаце свету ў Малі. Аб драматычнасці барацьбы за чэмпіёнскі тытул красамоўна гаворыць той факт, што зыход яе вырашаўся ў апошнім туры марафонскай дыстанцыі. Перамогшы галандскага гросмайстра Р. Клерка, я ў трэці раз заваяваў званне чэмпіёна свету.

**Пераклад А. БЯРЖЫНСКАГА.**



# ГУМАР

Што адказаў Анатоль Карпаў?
Анатоль Карпаў даў згоду на матч-рэванш.
Паядынкі двух мацнейшых шахматыстаў свету працягваюцца.
А зараз заданні чацвёртага тура нашага конкурсу.

**ЗАДАННЕ ПЕРШАЕ**



**Выйгрыш.**

**ЗАДАННЕ ДРУГОЕ**



**Белыя пачынаюць і даюць мат у два хады.**

**Мы жадаем поспехаў усім удзельнікам конкурсу і запрашаем іх рашыць заданні чацвёртага тура. Нагадваем: адказы на заданні чарговага тура неабходна даслаць на адрас рэдакцыі не пазней 1 красавіка 1986 года.**

**Фота Ільі МАГІЛЯНСКАГА.**

**Пад рэдакцыяй міжнароднага гросмайстра Віктара КУПРЭЙЧЫКА.**

## МАТЧ-РЭВАНШ І...

У той восеньскі вечар Гары Каспараў гуляў проста цудоўна.

Пасля трохмінутнага роздуму ён перавёў свайго караля ў самы куток шахматнай дошкі на поле h8, каб чарговымі хадамі нанесці некалькі трапных удараў і змусіць Карпава пайсці на капітуляцыю.

Чорныя фігуры, нібыта салісты аркестра, зладжана вялі «свае партыі» ў Канцэртнай зале імя Чайкоўскага. Гэта была гульня па правілах гармоніі. Ясная і бездакорная, як аксіёмы Эўкліда. У 21 гадзіну 58 мінут па маскоўскаму часу Анатоль Карпаў замест свайго 43-га ходу падаў руку свайму саперніку, і тэлетайпы разнеслі па свеце апаратыўную інфармацыю: «Чэмпіёнам свету стаў савецкі гросмайстар Гары Каспараў».

...А мне прыгадалася зіма 1978 года, калі бакінскі школьнік Гарык Каспараў гуляў у Мінску на Мемарыяле вядомага шахматнага майстра Аляксея Сакольскага. Што і казаць: балельшчыкі дый самі шахматныя гросмайстры і майстры напачатку скептычна ставіліся да чарнявага хлопчыка, які прыехаў на турнір разам з... мамай. Аднак за шахматным столікам гэты хлопчык меў выгляд рыцара без страху і папроку, атрымліваў перамогу за перамогай і стаў уладальнікам першага прыза.

Праз два гады Гарык зноў прыехаў у Мінск, на чэмпіянат СССР, і з першых тураў літаральна ўварваўся ў групу лідэраў. Гэты факт экс-чэмпіён свету Міхаіл Таль пракаменціраваў так: «На шахматным небасхіле ўзышла новая шахматная зорка».

Міхаіл Таль не памыліўся.

10 лістапада 1985 года Гары Каспараву ўручылі лаўровы вянок чэмпіёна свету.

**Уладзімір МАЦВЕЕНКА**

### *Складаная сітуацыя*

Унук прывёз бабулю Насцю
У асобную кватэру.
Не знайшла яна там шчасця,
Хвалявалася праз меру.

Кажа ўнуку Апанасу:
— Трэба, хлопец, ажаніцца,
Маю столькі многа часу
І... няма з кім пасварыцца.

### *Перастрахоўшчык*

Учора Кошка,
Паваліла шклянку
І выпіла
Амаль усю смятанку.
Не лаяў
Гаспадар яе, не біў,
Ледзь-ледзь
Ласкава пажурыў.
Бо не пасмеў сябе
У грэх уводзіць,
Да Кошкі шэфаў Кот
Гуляць прыходзіць.

ВОСТРЫ АЛОВАК




**Без слоў.**
**Малюнак Алега ПАПОВА.**

# КРАСВОРД



Склаў Валерый **ПІНЧУК.**

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 7. Вайсковае падраздзяленне, якое ахоўвае ўчастак дзяржаўнай граніцы. 8. Помнік. 11. Урачысты агляд войск. 12. Прамежак часу. 13. Тып ваеннага самалёта. 17. Цэль для вучэбнай стральбы. 20. Вышэйшае воінскае званне. 21. Абарончае збудаванне ў крэпасцях, фортах. 22. Вольны чалавек з беглых прыгонных сялян на Русі ў XV—XVII стагоддзях. 23. Надбудова на суднах для мацавання парусоў. 24. Афіцэрскі чын у казацкіх войсках. 25. Каравул, ахова. 26. Юны партызан, Герой Савецкага Саюза. 29. Рака ў Еўрапейскай частцы СССР. 31. Значок на форменный шапцы. 32. Пэўная колькасць якіх-небудзь прадметаў. 33. Званне малодшага каманднага саставу на караблі. 37. Сумка для патронаў. 41. Абаронца Брэсцкай крэпасці. 42. Горад на паўднёвым захадзе БССР. 43. Падводная міна. 44. Узброены напад адной краіны на другую.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Народны герой грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў. 2. Снарад для асвятлення ці сігналізацыі. 3. Патруль. 4. Галаўны ўбор. 5. Сталіца дэмакратычнай рэспублікі. 6. Удзельнік баёў на Беларусі ў Айчынную вайну, Герой Савецкага Саюза. 9. Артылерыйская гармата. 10. Воінскае званне. 14. Беларускі савецкі пісьменнік, аўтар рамана «Мінскі напрамак». 15. Беларускі мастак, аўтар карціны «Вясна Перамогі». 16. Спецыяльная пляцоўка для старту касмічных караблёў. 18. Савецкі палярны лётчык, Герой Савецкага Саюза, ураджэнец Беларусі. 19. Кароткі вусны загад камандзіра. 27. Старадаўні спосаб марскога бою. 28. Памяшканне на судне. 30. Рашучае і катэгарычнае пярэчанне. 34. Начынены круглымі кулямі артылерыйскі снарад. 35. Вуснае ці пісьмовае данясенне. 36. Фігура пілатажу. 38. Радыёлакатар. 39. Рэвальвер з барабанам, які круціцца. 40. Сукупнасць узброеных сіл дзяржавы.

**АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 1**

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Аміяк. 6. Сурок. 9. Адрасат. 10. Радыкал. 11. Артэрыя. 13. Мата. 14. Антонаўка. 16. Скат. 19. «Аманал». 23. Камета. 25. Пестрак. 26. Юнона. 27. Авача. 28. Дрозд. 29. Дыван. 30. Плато. 32. Еміне. 33. Алфавіт. 34. Анкета. 36. Юкатан. 41. Таль. 42. Ламаносаў. 45. Янот. 48. Пампіду. 49. Акаліна. 50. Ганарар. 51. Нерпа. 52. Азарт.
**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Андатра. 2. Эдку. 3. Каліна. 4. Трыко. 5. Асака. 6. Стаўка. 7. Рота. 8. Карскае. 10. Рампа. 12. Янтра. 15. Нафта. 17. Канадонты. 18. Раманенка. 20. Манблан. 21. Вензель. 22. Ладыгін. 24. Тачанка. 31. Разін. 34. «Астап». 35. Кальман. 37. Танкіст. 38. Нітра. 39. Калуга. 40. «Тамара». 43. Арэна. 44. Опера. 46. Кіпр. 47. Пара.

# АСКОЛАК ЗЯЛЁНАГА ШКЕЛЬЦА

(Заканчэнне. Пачатак на 20-й стар.)

Аб чым толькі не гавораць мужчыны ў доўгія, нічым не занятыя дні. Пачуў Аляксей расказ сяржанта Маходзькі, які так, каб «змарнаваць час», апавядаў пра нейкага суб'екта, які, каб пакласці канец свайму няўдаламу і мусіць пакутнаму жыццю, наламаў галовак з запалак — карабкоў, мусіць, з восем-дзесяць, укінуў у рот гэты знадобак, запіў вадою і аддаў богу душу, крыху, праўда, пакурчыўшыся. І вось, наслухаўшыся Маходзькавай балбатні, Аляксей усімі праўдамі і няпраўдамі стараўся, мусіць, з тры тыдні, а сабраў-такі карабкоў дзесяць запалак, тоячыся ад усіх, лязом брытвы злузаў сярнічкі ў пакет і ўначы выпіў гэтае паскудства з вадою. Ну і што? Яго толькі вырвала на падлогу.

Яму, Аляксею, ніхто нічога не сказаў, але нянечкі пасля гэтага чамусьці старанна перасцілалі яго пасцель.

Няўдача з запалкамі прымусіла Аляксея шукаць іншых шляхоў у прыроду, куды людзі адыходзяць абавязкова, хіба толькі адзін раней, другі пазней... І вось ён стойка не бярэ ў рот ежу мусіць каля паўтара месяца. Есці, есці яму хацелася нясцерпна ў першыя суткі, другія, трэція, чацвёртыя... а з пятых — шостых сутак ужо сам выгляд ежы выклікаў прыкрае пачуццё, а не жаданне есці. Ён схуднеў так, што скура жывата нібы прыліпла да пазваночніка. Калі яго, ужо знямоглага, пераапраналі, то Піліпаўна ледзь чутна шаптала: «Божа, у чым толькі душа ў ім трымаецца... жывы шкілет».

Урачы як маглі стараліся захаваць жыццё Аляксею. І не сказаць, каб бяскрыўднымі прыёмамі. Нальюць у шклянку, падобную на графін, фізіялагічнага раствору, казалі, што гэта вінаградны цукар, заткнуць рыльца шклянкі пробкай і перавернуць рыльцам уніз, а з пробкі вытыркаецца шкляная трубачка. На яе надзета гумавая трубка, якая заканчваецца тоўстай іглою. Гэту іглу і ўсадзяць Аляксею пад скуру жывата. Калі фізіялагічны раствор пераходзіць пад скуру вялізным валдыром, пачынаецца такі пякуча-салёна-шчымлівы боль!.. Якімі словамі яго перадаць?! Во! Каб Гітлеру ў свой час адну такую працэдуру, толькі адну! І можна быць спакойным: ён бы дубовым крыжам адкрыжаваўся б ад сваёй мары пра сусветнае панаванне фашысцкага рэйха.

А вось Аляксей Федарчук, дзевятнаццацігадовы хлапец, сяржант-танкіст, вытрымліваў гэта. Толькі хапаў у зубы ручнік і да болю ў сківіцах перамагаў свае пакуты, змагаўся за сваю мару пайсці ў прыроду...

...А Дзяніс Мацвеевіч заўсёды пачынаў «пяціхвілінку» ўсё тымі ж словамі:

— Ну, што будзем рабіць з Федарчуком? Прападае хлапчына...

Адказам яму было агульнае цяжкае маўчанне.

Пасля доўгіх бяссонных начэй роздуму Дзяніс Мацвеевіч нешта прыдумаў...

Неяк да шпіталя пад'ехалі машыны тры — чатыры, і раненых з крайніх палат вывезлі кудысьці, мабыць, у іншы шпіталь. Замест іх прывезлі і пасялілі маленькіх пакутнікаў — дзяцей. Гэта былі дзеці, і параненыя ў час баёў, і раненыя пасля іх. Цацак, якія ўзрываліся ў руках малых, пад іх нагамі, недалёка ад іх, хапала ўсюды. Былі сярод іх і дзеці, на якіх не было бінтоў і павязак. Гэта былі дзеці тых, хто загінуў у партызанах, на фронце або ад хвароб, якіх было болей чым трэба ў час вайны і пасля яе. Страціўшы маму і тату, дзеці захворвалі і мелі патрэбу ў лячэнні не меншую, чым тыя, хто быў паранены. Лежачы ў сваёй палаце, Федарчук пра з'яўленне ў шпіталі дзяцей нічога не ведаў. Чакаючы канца, Аляксей зацята думаў: «Усё роўна пайду ў прыроду, да сваіх блізкіх... Усё роўна! Ніякім шклянкам не перашкодзіць мне!»

Аляксей з цяжкасцю павярнуўся на бок да акна. Там, за акном, было сонечна. Аляксей шырэй раскрыў вочы. Сонца паднялося высока і саграваля ўсё ў палаце. Быў цудоўны красавіцкі дзень сорак пятага года. «А навошта мне ляжаць у гэтым ложку і чакаць скону? — падумалася-пamроілася Аляксею.— Паспрабую выбрацца паўзком на двор. Там найду кавалак шкла. Забяруся ў які кустоўнік і драпну шклом сабе па венах...». ...Калі Аляксей выбраўся на цагляны ганак, які вёў у шпітальны двор, яго ледзь не зваліў вясновы водар. А як хораша навокал: прабівалася, а месцамі набірала сілу зеляніна. Сям-там ужо зіхацеў золатам малачай. Аляксей знайшоў сілы ўтрымацца, не ўпасці долу і пачаў асцярожна спаўзаць з прыступкаў, але не ўтрымаўся і паляцеў, але не ў неба, а на зямлю, на цёплы, сагрэты сонцам пясочак, цепліня якога чамусьці нагадвала яму рукі маці. Яны ж калісьці былі такімі ж цёплымі, добрымі і ласкавымі, як гэты пясочак.

Аляксей споўз з пясочку на ласкавы аксаміт зялёнай травы. Яна так пясціла рукі Аляксея, гэта зеляніна. Яму падумалася, што вось у палаце так не хапае паветра, хаця і вокны расчыненыя, а тут, у двары — такое хараство. Пасля гэтай думкі Аляксей успомніў мэту свайго выхаду. Непадалёку ён убачыў нядаўна зробленыя кветкавыя клумбы, з якіх ужо прабіваліся сям-там парасткі. Аляксей падпоўз да клумбы, бо таго, што яму было трэба, паблізу не было. І вось у пяску клумбы нешта зіхацела на сонцы. Поўзаючы каля клумб, ён хутка выцягнуў з пяску асколак белага шкла, але, кладучы яго ў кішэню піжамы, ён падумаў, што яно не надта вострае. Знайшоў паўкруглы асколак карычневага шкла — паклаў у кішэню. Раптам убачыў тое, што шукаў,— даволі вострыасколак зялёнага шкла. Ён схаваў яго і хуценька, каб хто не ўбачыў, уціснуў у кішэню. Яно дзынкнула, сустрэўшы там іншыя шкельцы. І раптам адбылося незвычайнае! З дзвярэй, з якіх некалькі хвілін выбіраўся Аляксей, выбеглі-высыпалі дзеці. Хто чыкіляўся на раненай назе, хто дыбаў на маленькіх мыліцах, хто проста бег. Так, так! Яны беглі!.. Яны беглі да Аляксея і крычалі так, як могуць крычаць толькі ўзрадаваныя дзеці:

— Гэта мой дзядзя!

— Не, гэта мой дзядзя.

— Мой!

— Не, мой дзядзя!

А светлавалосы, амаль залацісты хлапчук, гадоў мусіць чатырох, не болей, падбегшы да Аляксея, заявіў усім:

— Не, гэта мая дзядзя!

Хлапчаняткавы словы прагучэлі так, нібы ён сказаў: «Гэта мая мама!».

Дзеці абкружылі Аляксея і кожны наперабой стаў прасіць:

— Патрымай мяне на руках.

Аляксей узяў першага хлопчыка на рукі. Ад цяжкасці дзіцяці ён, аслабелы ад галадоўкі, ледзь не паваліўся, але нейкая ўнутраная сіла прымусіла яго ўтрымацца.

— А цяпер мяне...

— Потым мяне...

— Мяне, дзядзя...

— Не, мяне, дзядзя...

Аляксей па чарзе па хвілінцы перatrымаў на сваіх руках усіх дзетак. Дзяўчынкі стараліся трымацца за яго шыю.

Чарга дайшла і да светлавалосага, залацістага. Той моцна-моцна прыціснуўся да грудзей Аляксея, так моцна, што Аляксей адчуў, як у хлапчаняткі трапечацца-б'ецца ў грудзях сэрца.

Аляксею стала надзвычайна добра на душы. Ён спытаў:

— Як цябе завуць?

— Сяргей Шынкарык,— ціха адказаў хлопчык.

— А мама ў цябе ёсць?

— Няма. Мама памерла, і бабуля памерла, і дзядуля, і сястрычка Анька.

— А бацька твой?

— Бацьку забілі немцы...

— Дык у цябе нікога няма?

— Нікога... Адзін ты. А ты мяне не кінеш?

Аляксею стала чамусьці да болю радасна. Ён падумаў, што трэба чымсьці пацешыць Сяргея Шынкарыка. Ён жа дзіця, а дзеці любяць цацкі. Апусціўшы хлопчыка на ножкі, Аляксей неяк інстынктыўна паляпаў сябе па кішэнях — нібы там сапраўды павінны былі быць нейкія цацкі. Там моцна дзынкнула шкло. Аляксей апусціў руку ў кішэню і выцягнуў белае шкельца.

— Што гэта?

— Гэта цацка.

Хлопчык недаверліва зірнуў, а потым узрадавана сказаў:

— А як з ёю гуляць?

— У яе, Сяргей, трэба глядзець на свет. Паглядзі,— ён працягнуў шкельца хлопчыку. Той паднёс яго да вачэй і з захапленнем выкрыкнуў:

— Як прыгожа, усё зіхаціць!

Аляксей выняў карычневае шкельца, даў хлопчыку:

— Прыгожа, усё залатое,— сказаў тым жа ўзнёслым голасам Сяргей.

— А цяпер у гэта паглядзі,— і Аляксей падаў хлопчыку асколак зялёнага шкельца.

Той паднёс да вачэй шкельца, доўга моўчкі глядзеў праз яго навокал, а потым, прадыхнуўшы нешта, што засела ў яго грудзях, ціха і пранікнёна сказаў:

— Вой... як прыгожа... Мы з мамай хадзілі на луг... Там было многа-многа кветак і было прыгожа, як вось цяпер...— Сяргей апусціў руку са шкельцам, паглядзеў на Аляксея, зноў шырока раскрыў вусны і, паказаўшы роўненькія белыя зубкі, глядзеў навокал праз зялёнае шкельца, потым спытаў?

— А чаму так прыгожа?

Аляксей, хвалюючыся, паспяшаў растлумачыць:

— Сярожка, гэта ад таго... праз якое шкло глядзець на свет, якімі вачамі... Колер шкла стварае настрой у нашай душы. Вось ты кажаш, што ўсё ўбачанае праз зялёнае шкельца табе нагадвае, як ты з мамай хадзіў на луг, дзе былі кветкі...

Аляксей яшчэ нешта гаварыў-тлумачыў Сяргею, а ў яго душы раптам узнікла і моцна расло радаснае жаданне жыць, бо ён, Аляксей, не можа пакінуць на гэтым свеце гэтае хлапчаня: у яго ж няма ніводнай роднай душы акрамя яго, Аляксея.

Вакол цвіла, тысячагалоса гаманіла зялёная весняя зямля.

Упершыню за ўвесь гэты пакутны час прасветлена глядзеў на яе Аляксей Федарчук.




# УВАГА!

# ФОТАКОНКУРС

З гэтага нумара наша пастаянная рубрыка «Суб'ектыўны аб'ектыў» — конкурсная. Да ўдзелу ў фотаконкурсе запрашаем усіх фотамайстроў і фотааматараў Беларусі. Тэматыка здымкаў неабмежаваная: партрэты нашых сучаснікаў, якія вырашаюць складаныя задачы новай пяцігодкі, яркія падзеі ў жыцці рэспублікі, абсягі роднай зямлі, яе унікальная прырода... Галоўная ўмова конкурсу — своеасаблівасць аўтарскага пошуку, адметнасць творчага рашэння.

Аўтарам лепшых здымкаў, апублікаваных у часопісе, у канцы года прысуджаюцца грашовыя прэміі, уручаюцца памятныя падарункі рэдакцыі.

Фотаздымкі просім дасылаць на адрас: 220005, Мінск, вуліца Захарава, 19, рэдакцыя часопіса «Беларусь». Чорна-белыя адбіткі павінны быць на глянцавай паперы памерам 24×30 сантыметраў, каляровыя слайды — 6×6 см. Кожнаму здымку трэба даць назву або прыкласці да яго невялічкую тлумачальную тэкстоўку. Не забудзьцеся ўказаць сваё прозвішча, імя, імя па бацьку, хатні адрас з паштовым індэксам і, пажадана,— месца работы.

На жаль, у рэдакцыі няма магчымасці вяртаць і рэцэнзаваць фотаздымкі.

Чакаем вашых здымкаў, чакаем вашых удач!

Міхаіл МАРКАЎ (Віцебск).
Гадзіна пік.




Фота Віктара ГАНЧАРЭНКІ.

# ХІМІЯ ВАКОЛ НАС

Вялікая хімія БССР спецыялізуецца па выпуску мінеральных угнаенняў, хімічных валокнаў, пластычных мас і сінтэтычных смол. Асабліва вялікая доля рэспублікі ва ўсесаюзнай вытворчасці поліэфірных ніцей, нітрону, поліэтылену.

Сярод экспанатаў аднаго з раздзелаў ВДНГ БССР — поліэфірныя валокны магілёўскага ВА «Хімвалакно» імя У. І. Леніна, іншы від сінтэтычнага валакна — нітрон, які выпускаецца полацкім аб'яднаннем «Палімір». Валокны больш як 40 колераў і адценняў прадстаўлены ў раздзеле.

Цана 35 кап. «Беларусь», 1986, № 2, 1—36. ISSN 0320-7544 Індэкс 74820